# крыніца

ISSN 0234-1387

СНЕЖАНЬ 1989



ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ

**А. САЛЖАНІЦЫН:** «святло, якое ў табе».

«PINK FLOYD», ЯКІ РУШЫЦЬ СЦЕНЫ

Фота
Яўгена СКУРАТОВІЧА

У перыяд застою наш выдатны пісьменнік Уладзімір Караткевіч аб'ехаў ледзь не ўсё Палессе. Закаханы ў гэты куток Беларусі, ён з трывогай пісаў аб неразумнай меліярацыі, аб пагрозе прыродзе і культуры, якую несла тэхнакратычнае мысленне. Тады У. Караткевіча вельмі моцна лаялі: пісьменнік, маўляў, не разумее, якія даброты нясе народу меліярацыя. У высокіх сферах было прынятае рашэнне аб адкрыцці ў горадзе Пінску Музея сацыялістычнага пераўтварэння Палесся. Для яго выдзелены гмах былога езуіцкага калегіума. Калісь побач з гэтым будынкам стаяў прыгожы касцёл. Касцёл аднаго разу быў ператвораны ў друз, а ў будынку калегіума абсталявалі грамадскую прыбіральню.

Заканчэнне на стар. 21.





Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 12 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.10.89.
Падпісана да друку 28.11.89.
АТ 05370.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,5.
Тыраж 56 570 экз.
Зак. 427. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

На 1-й стар. вокладкі:
«Архіпегу Гупелаг»
Сяргея МАЛІШЭЎСКАГА






Одна неправда нам в убыток,
И только правда ко двору,—

пісаў у паэме «Па праву памяці» Аляксандр Твардоўскі.

Тры гады ад нас хавалі праўду пра цяперашнія і магчымыя вынікі чарнобыльскае трагедыі. І што ж, якія капіталы нажылі ахавальнікі таямніцаў! Аніякіх. Хіба што страты: народ не давярае іхнім словам нават калі яны кажуць і шчырую праўду. Экалагічная, дэмаграфічная праблема набыла статус праблемы нацыянальнай, палітычнай. Прыблізна гэтак сказаў 30 верасня на прэс-канферэнцыі народны дэпутат, член Вярхоўнага Савета СССР Мікалай Ігнатовіч. Юрыст, ён угледзеў у тым, што адбывалася вакол Чарнобыля, склад злачынства.

А да прэс-канферэнцыі адбылося масавае шэсце «Чарнобыльскі шлях», у якім узялі ўдзел дзесяткі тысяч жыхароў Мінска і пацярпелых раёнаў рэспублікі, нашы сябры ў няшчасці з Украіны. У шэрагах дэманстрантаў ішлі дарослыя і малыя, народныя дэпутаты СССР і святары, камуністы і беспартыйныя.

Калона спынілася на плошчы імя У. І. Леніна — перад Домам урада. Тут адбыўся мітынг. Пяць месяцаў назад — 26 красавіка — на гэтай плошчы таксама праводзіўся мітынг, але маўклівы. Цяпер гаварылі. Старшыня Сойму Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне» Зянон Пазняк, народныя дэпутаты СССР пісьменнік Алесь Адамовіч, акадэмік Яўген Веліхаў, прафесар Станіслаў Шушкевіч...

Мітынг адбыўся за 25 дзён да пачатку сесіі Вярхоўнага Савета БССР, у парадку дня якой — зацвярджэнне Праграмы ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. З першага разу яна ў парламенце рэспублікі не прайшла. Як відаць, дэпутаты (магчыма, упершыню ў нашай гісторыі) задумаліся, якая адказнасць легла на іхнія плечы.




















Фота Аляксандра ШАБЛЮКА,
Яўгена СКУРАТОВІЧА,
Яўгена КОКТЫША

Вольга ЯГОРАВА

# Пазайздросць лётчыку, селянін!

«Мы ўзялі ў арэнду зямлю. Вырошчваем жыта, пшаніцу, авёс, грэчку. Але ўраджайнасць на круг усяго толькі дзевяць цэнтнераў. Гатовы супрацоўнічаць з вамі».— А. Мучкаеў з Пензенскай вобласці.

«Тое, што я даведаўся пра вашу падзвіжніцкую работу, пра ваш кааператыў «Аграэфект», мала сказаць, уразіла мяне,— не дае спакою ўсе гэтыя дні. Мы так даўно церпім ад позняга раставання снегу: адны гаспадаркі толькі канчаюць сяўбу, а іншыя толькі пачынаюць. Не адмоўце ў дапамозе і парадзе...» — В. Захараў з Кіраўскай вобласці.

«Я сам бачу, як новае з вялікай цяжкасцю прабівае сабе дарогу і як радасна, што ёсць энтузіясты накшталт вас, якія не баяцца складанасцей. Гатовы на любую работу, калі вы маеце патрэбу ў дапамозе. Ужо пачаў распаўсюджваць вопыт Фёдарава ў сваіх краях».— В. Задаражнюк з Вінніцкай вобласці.

Сотні лістоў ідуць цяпер з усёй краіны на адрас Героя Савецкага Саюза Фёдара Фёдаравіча Фёдарава, які ўсяго 2 гады таму арганізаваў пры НДІ глебазнаўства і аграхіміі ў Мінску кааператыў «Аграэфект». Сутнасць вынаходніцтва? Дзякуючы загадзя ўзаранаму снегу і ранняму адтайванню поля ўся жывая вада вясной ідзе ў зямлю. Сяўбу, натуральна, таксама можна пачаць раней. І гумусны пласт не разбураецца, а ўмацоўваецца, і эрозіі глебе не пагражаюць... Прыблізна па 10—15 цэнтнераў на гектары дадае эфект Фёдарава — ёсць ужо такі вопыт.

— Больш за ўсё мяне засмучае на сённяшні дзень нашае ўсеагульнае ўтрыманства ў дзяржаўным масштабе. Прывыклі, што краіна багатая, без хлеба не застанемся,— пачаў разважаць Фёдар Фёдаравіч Фёдараў.— Але задумайцеся больш сур'ёзна: самі ж і разбазарваем уласнае багацце. Я шмат езджу цяпер па рэспубліцы, па краіне ў сувязі з укараненнем свайго вынаходніцтва, і самае яркае (у двухкоссі) уражанне ад паездак — гэта наша жахлівая безгаспадарчасць, безадказнасць і разгільдзяйства. Дзіўна, але як ніхто іншы ўдасканальваем мы год пры годзе гэты свой журботны «вопыт». Але ёсць і перамены да лепшага. Я меў магчымасць пераканацца: маладыя механізатары і аграномы, старшыні і эканамісты ўсведамляюць гэты наш агульны боль і бяду — гатовы ўзяць на сябе адказнасць за хлеб, за зямлю і за чалавека, які працуе на ёй.

— Новая сацыяльная з'ява на вёсцы?

— Упэўнены, што так. Толькі не трэба тут забывацца і пра такія сур'ёзныя рэчы: усякаму новаму амаль заўсёды процістаіць старое. А мы ўсё яшчэ глядзім на нашы новыя павевы неяк аднабакова. Мяркуем вельмі наіўна, што калі аб'явілі, скажам, гасразлік, або брыгадны падрад, або арэнду, то яны самі па сабе імгненна і запрацуюць і дадуць небывалы эфект! Але ў грамадстве большасць людзей якраз не гатовыя да перамен. Тым больш рэзкіх. Тым больш з-пад палкі або «з малатка». Патрэбна вельмі ўмелая і разважлівая работа з масамі, і тым больш, калі гаворка ідзе пра вёску.

Сёння ж селянін у многім рассяляніўся, перастаў адчуваць сябе гаспадаром. Я пераканаўся ў гэтым на ўласным вопыце. Тры гады пры НДІ працаваў наогул бясплатна, каб толькі звярнуць увагу вучоных на сваё вынаходніцтва, а гэта ж, заўважце, ужо былі гады перабудовы. Аднак не лічу, што змарнаваў час. Барацьба, спрэчкі, розныя пункты гледжання адно сцвердзілі і яшчэ раз пераправерылі мае разлікі.

— Фёдар Фёдаравіч, а як успрыняла вашае вынаходніцтва вёска? Я маю на ўвазе рэакцыю кожнага чалавека на новаўвядзенне.

— Першая рэакцыя была вельмі рэзкая, прымалі мяне і маіх памочнікаў у штыхі — нацярпеліся, маўляў, ужо ад усялякіх новаўвядзенняў. Гэткая алергія на новаўвядзенні... Толькі сёння, калі мы заключылі з рознымі гаспадаркамі дагавораў амаль на два мільёны рублёў, я магу сказаць, што даказаў слушнасць метаду і перад вучонымі, і перад кожным вясковым чалавекам. Зямля і снег не падвялі мае разлікі — збожжа з кожнага эксперыментальнага поля бралі куды больш, чым меркавалі самі.

Галоўны выйгрыш нашага метаду ў экалогіі зямлі, у тым, што тэхналогія экалагічна чыстая.

— Але, можа, Фёдар Фёдаравіч, тут ёсць яшчэ адна абставіна, якую вы не ўлічылі. І прычына недаверу — у новых эканамічных адносінах паміж гаспадаркамі і кааператывам. І потым... зайздрасць. Звычайная чалавечая зайздрасць.

— Гаспадарлівыя людзі і зайздрасць могуць выкарыстаць у справе. Не дзівіцеся, я не жартую. Напэўна, тое, што ўдаецца цяпер нашаму кааператыву, павінны былі прапанаваць значна раней за нас вучоныя-земляробы. Але яны прывыклі прымітыўна ацэньваць сваю працу: умоўны эфект! І гасразлік, на які перайшла навука,— умоўны?.. У такіх умовах жылі дзесяцігоддзі. Ашуквалі сябе і сялян ашуквалі. Вось і давялося элементарную сістэму рацыянальнага выкарыстання снегу распрацоўваць мне, былому ваеннаму лётчыку. Нічога добрага ў тым, што гэта зрабіў я, а не яны, прафесіяналы, няма. Але калі я бачу селяніна, які зайздросціць мне, па прафесіі лётчыку, таму, што я, а не ён дадумаўся, як трэба берагчы зямлю, я радуюся не менш, чым вось гэтаму мяху лістоў на маім стале: праняло, урэшце! Можа, і самі калі-небудзь дакумекаюцца не горш за мяне да чаго іншага. Тым больш, што ранняе вясновае размарожванне поля, вы ж разумееце, толькі адно з абавязковых звёнаў інтэнсіўнай тэхналогіі, якую трэба ўдасканальваць. А пакуль, што ж, пазайздросць лётчыку, селянін, была б з гэтага карысць.

Але тут мяне турбуе вось што: дзіўная глухата камітэтаў камсамола. Ні аднаго радка не атрымаў я ні з райкомаў, ні з абкомаў камсамола: не зацікавіліся, не загарэліся. А вось мяркуючы па лістах радавых камсамольцаў — зацікавіліся. Нейкі відавочны разрыў паміж камітэтчыкамі і масамі нават у вёсцы.

І ўсё ж я, як камсамолец ваеннай пары, у нейкай ступені ідэаліст і да гэтага часу веру, што не мне ўсё ж давядзецца ісці на паклон да маіх унукаў, а яны самі зразумеюць сутнасць і знойдуць мяне. Хіба не так трэба ставіць гэтае пытанне ў наш час?

— Слушна, Фёдар Фёдаравіч, але мяне, напрыклад, непакоіць у дадзеным выпадку, што апошнім часам даводзіцца часцей сутыкацца менавіта з непрафесійнай работаю камсамольскіх арганізацый: не ўмеюць стаць лідэрамі моладзі, павесці за сабою...

— Змагаючыся за аднароднасць грамадства, мы і тут у сваёй аднабаковасці дайшлі да абсурду. Вось да чаго дайшлі: зямлю арэ часта неселянін, ля станка — нерабочы, і кіруе — неінтэлігент! У чыстым выглядзе, у некранутым, у першародным, толькі яго вялікасць бюракрат. Хоць трава не расці — не мая зямля і не наша. Гэта вельмі ўстойлівая псіхалогія. І яна сёння (а гэта самае трывожнае) размыта ва ўсіх слаях грамадства.

Спрабуем змяніць яе, гэтую псіхалогію, з дапамогаю эканомікі. У вёсцы, напрыклад, ёсць цяпер магчымасць укараняць арэнду. Гэта вельмі разумнае рашэнне. Але зноў жа: як уводзіцца арэнда, хто-небудзь сёння асэнсоўвае? На маю думку, пакуль яшчэ не. А ёсць жа выпадкі, калі арандуюць зямлю на год! Або на пяць. Гэта ж абсурд, ад якога недалёка да варварства. Узяў ад зямлі ўсё што можна за год-тры-пяць — і даруй-бывай. З такім поспехам страцім і тое, што па крупінках адваёўвалі ў псіхалогіі застою: элементарнае чалавечае сумленне.





Алена АНКУДЗІНАВА

# НІЖНЯЯ ТАМБОЎКА: Першыя крокі

Перагортваю старонкі кнігі Алены Грушко «Здравствуй, город!», якая выйшла ў Хабараўскім выдавецтве ў 1987 годзе. Мноства фатаграфій. Знаёмыя родныя твары, стрэлы кранаў пасярод тайгі, вогнішчы на Амурскім беразе. Вось і я ў рабочай робе энергічна размахваю малярным пэндзлям — якраз мая брыгада здавала новую сталовую. Вагончыкі, зборныя бамаўскія «абшчагі». На адной — шыльдачка «Камсамолец Беларусі».

Мінула тры з паловаю гады з закладкі першага камяня, а ад будоўлі, якая грымела на ўвесь край, засталося некалькі дзесяткаў катэджаў у піянерскім пасёлку, два магазінчыкі, сховішча для гародніны, вось гэтая кніга і... успаміны.

Што можа быць лепшага, чым будаваць Новы горад, свой горад? Ад палатак і вагончыкаў да плошчаў і праспектаў. Так, мабыць, думаў кожны з нас, а наш паэт, далёкаўсходнік Косцік Кураленя ў той першы, самы памятны год напісаў:

Мы улицам названия давали,
Дорогами ломали первый наст,
Мы жили, точно, а не проживали...

І гэтыя радкі падабаліся нам нашмат больш за прафесійна адточаныя вершы Роберта Раждзественскага, які гасцяваў у нас і падараваў свой трохтомнік.

Мы і на назву горада конкурс аб'явілі. Толькі вось назваць не паспелі... Нешта смутак па тым часе пачынае збіваць мяне на мінорны настрой, а тады я не здолею расказаць пра нашую будоўлю, пра будзённае яе жыццё і пра святы, пра ўзлёты і правалы...

Мая любоў і прыхільнасць да Далёкага Усходу пачалася з Ніжняе Тамбоўкі. Да чалавека, які прыехаў з Захаду ці, як тут кажуць, з «мацерыка», праз пэўны час прыходзіць альбо непрыняцце тутэйшае прыроды, альбо захапленне і любоў да яе, якія ён пранясе праз усё жыццё. Чаму непрыняцце, спытаецеся? Тутэйшыя прасторы і маштабы не толькі бязмерна здзіўляюць, але, як скардзіліся многія, прыгнятаюць, чалавек адчувае сябе пясчынкаю. Сапраўды, пасля Далёкага Усходу з магутным і шырачэзным Амурам, велізарнымі заснежанымі сопкамі, скалістымі стромкімі адхонамі Беларусь, Прыбалтыка ці, скажам, Сярэдняя паласа здаюцца мініяцюрнымі. Лясы і палі, рэкі і азёры — акурат толькі з цырульні, хіба што адэкалонам не пахнуць. Адчуваеш сябе як Гулівер у краіне ліліпутаў. Вось чаму карэнныя далёкаўсходнікі практычна не прыжываюцца на Захадзе.

Ніжняя Тамбоўка ці — як яшчэ называюць гэтае сяло — Ніжнетамбоўскае атрымала сваю назву ад перасяленцаў з Тамбоўскае губерніі, якіх цар-бацюшка справадзіў сюды яшчэ ў 1859 годзе. У 1919 г. тут знаходзіўся штаб партызанскіх атрадаў, а ў 1926 г. быў створаны Ніжнетамбоўскі раён з цэнтрам у гэтым сяле. Праўда, у 1933 годзе побач з сялом Пермскае пачалося будаўніцтва будучага Камсамольска-на-Амуры і раён неўзабаве стаў называцца Камсамольскім. Дарэчы, па іроніі лёсу яшчэ ў тыя гады ніжняя Тамбоўка разам з Пермскім разглядваліся як магчымая пляцоўка для горада. І вось праз паўстагоддзя другая спроба...

Мы ехалі жыць у палатках. Пра гэта нас папярэдзілі ў абкоме, як папярэдзілі, што сувязь з сялом толькі па рацэ. Аднак замест палатак нас сустрэлі досыць прыдатным жытлом, што ж да сувязі, дык гэта асобная размова. Улетку — «Метэоры» і «Ракеты», даўгаграючыя «Омы» — пяць-шэсць гадзін ад Камсамольска па ўсім Далёкім Усходзе. Апрача міжсезоння, калі паласа раскісае, лятае Ан-2. Узімку на ім 50 хвілін да Камсамольска лятаць яшчэ можна, а вось за дзве з паловаю гадзіны лёту да Хабараўска адмярзае ўсё, што можа адмёрзнуць, астатняе ўжо не падпарадкоўваецца табе. У малым порце пасажыры звычай вывальваюцца такія пакарабачаныя, што лядовым фігурам, нафантазіраваным кітайцамі ў цэнтральным парку Хабараўска, да іх далёка. Але галоўная тутэйшая вартасць — гэта «бічавоз» — два запляваныя даваенныя вагоны, якія ўзімку штодня поўзаюць да вузлавое станцыі Сяліхіна і назад. «Бічавоз» ідзе ўначы па сумніцельнай вузкакалейцы (пільнуйся ды пільнуйся, а то скалупнешся), а ў вагонах п'юць, кураць і мацюгаюцца. Кажуць, да цяперашняга сухога закону чынілася нешта ўвогуле неапісальнае. Цяпер п'янствуюць толькі ў адным накірунку, калі вяртаюцца з Камсамольска. Быламу першаму сакратару райкома партыі прыйшла геніяльная ідэя аб'явіць раён зонаю цвярозасці. Адной дырэктываю таварыш Маркараў думаў вырашыць усе «алкагольныя» праблемы, быццам не ведаў, што нацыянальныя меншасці — нанайцы, ульчы, ніўхі, якія пражываюць па берагах Амура, дзесяцігоддзямі прывучаліся цывілізаванымі першапраходцамі да «вогненнае вады». І дагэтуль на Амуры за гарэлку можна купіць колькі хочаш араматнае амурскае кеты ці чырвонае ікры.

Менавіта тады я ўпершыню пераканалася ў тым, што мы лепей ведаем гісторыю і геаграфію Сан-Марына ці, скажам, Балівіі, ніж сваю ўласную. У лепшым выпадку мы замыкаемся на ўласным горадзе, вобласці, рэспубліцы. Гэта са сваёй пяцёркаю ў атэстаце па геаграфіі я была ўпэўнена, што на Амуры жывуць не нанайцы, а ненцы. Ужо не кажучы пра ўльчаў і ніўхаў. Была ўпэўнена, што на Далёкім Усходзе не растуць бярозы (адкуль яны ў тайзе?). Таму ў Дамадзедаве і развіталася з імі. Выявілася, што растуць. Няхай не такія высокія і ладныя, затое апроч мноства белых сустракаюцца і чорныя з ваяўніча разлахмачанай карою.

Тайгой мы ўсе былі зачараваныя. Бадай, нашыя хлопцы менш. Ім прыходзілася ў трыццаціградусным пекле ды пры высокай вільготнасці секчы прасеку. Распранууцца нельга. З аднаго боку машкара. З другога энцэфалітны клешч, укус якога смяротны. Таму працавалі ў куртках, якія шчыльна прыставалі да цела, з капюшонамі, гэтаксама ж шчыльна прыгнанымі. Тут іх так і называюць — «энцэфаліткі». Без такое курткі ў тайгу ні нагою, асабліва ўвесну, калі клешч лютуе.

А чырвоная рыба! Ніводны прыстойны Мінскі рэстаран, уключаючы інтурыстаўскі, такое рыбы вам не прапануе. Калі тая ідзе на нераст, невялікія нерастовыя рэчкі і пратокі літаральна бурляць ад іхніх серабрыстых цел. Хлопцы з атрада ўмудраліся лавіць рукамі. Гарбуша ідзе першая. Яна драбнейшая, і тутэйшы люд увогуле не лічыць яе за рыбу. А вось кета, якая даходзіць да метра ў даўжыню і важыць восем-дзесяць кілаграмаў... Яе соляць і вэнджаць на зіму дзежкамі. Нанаец без кеты — тое ж самае, што беларус без бульбы. З белае рыбы, напрыклад, з асятра, гатуюць нацыянальную нанайскую страву. Тала́ — гэта наструганая свежая рыба, прыпраўленая соллю, цыбуляю, перцам і воцатам. Надзвычай смачна.

У сяле ловіць кожны. Можа, таму магутная маторка тут не раскоша, а неабходнасць. Зямля бедная, нават бульба дрэнна расце, таму кормяцца з тайгі і ракі. У дварах пастаянна сушацца сеткі. Увогуле тутэйшыя сёлы адрозніваюцца ад беларускіх. Зазвычай усе яны досыць буйныя, шчыльна застроеныя. З драўлянымі, вымеценымі вятрамі ходнікамі, нізкімі (марозы лютуюць) зрубамі. Ніякіх табе садоў, няма нават кветнікаў. Хатняе жывёлы ці птушкі мала. Затое процьма беспрытульных сабак: рослых, з густою поўсцю. Наш часовы гарадок размясціўся за сялом, бліжэй да тайгі. Дзве вуліцы: Прысады першага дэсанту і прасторная вуліца Хабараўскага камсамола. На ёй сталовая, упраўленне, дзізельная і шэсць блізнятаў-інтэрнатаў. Камсамолец Украіны, Беларусі, Кубані, Варонежа, Тамбова і Кузбаса. Сёмы атрад — «Камсамолец Прыамур'я» — жыў па вагончыках і гэпэдушках — асобая мадэль зборнага шчытавога доміка. Плюсы нашых абшчаг — атапленне ад кацельнай. Так што не трэба сярод ночы ўставаць і падкідваць у печку дровы, каб не замёрзнуць. Уздоўж вуліц велізарныя бочкі. Вада прывазная. Колькі разоў здаралася: то вадавозка зламаецца, то вадавоз загуляе. Вось і ходзіць народ уранку да суседзяў з карцом — пазычае. Памыцца ж трэба. Узімку зычлівы армянін Віця, па мянушцы Ара, які змяніў недалугу-вадавоза, бесперапынна сігналіў і тады ўжо да яго выскоквалі хто ў чым і хто з чым.

Мы мала зважалі на ўсе гэтыя нязручнасці, як і на пэўную цеснату. Спачатку ў пакоях жылі па пяць, а то і шэсць чалавек. Гэта ўжо потым, у канцы лета, калі пацягнуліся дадому першыя расчараваныя, стала трохі свабадней.

Першае лета было вясёлае і бесклапотнае. Па-першае, мноства моладзі — каля чатырох чалавек — на маленькім лапіку. Атрады, камандзіры і камісары, першы, яшчэ не выбіты энтузіязм, бурныя сходы за поўнач, знаёмствы, першыя вяселлі, дыскатэкі, спартыўныя спаборніцтвы. Беларускі атрад выгадна адрозніваўся ад іншых. Найпершыя нашыя сапернікі былі прыамурцы і, вядома, суседзі-украінцы, наймацнейшыя атрады. А тамбоўцы неўзабаве наладзілі такую п'янку і бойку, што ледзь не перарэзаліся.

**Заканчэнне на стар. 10.**

# Выйсце з тупіка

**Разважанні журналіста Леаніда ЕКЕЛЯ і кандыдата гістарычных навук Ігара ВЕЛІЧАНСКАГА пасля пленума ЦК ЛКСМ Беларусі.**

**Можа, упершыню за многія гады ў зале, дзе звычайна праходзяць пленумы ЦК камсамола рэспублікі, раптам зніклі сцены. І жыццё — імклівае, непадуладнае жаданню загнаць яго ў жалезныя рамкі, уварвалася сюды, патрабуючы адказаў, дзеяння, учынкаў. Нефармальны рух моладзі, народны фронт, беларуская мова, экалогія, перадвыбарная платформа ЛКСМБ, канцэпцыі Праграмы камсамола Беларусі і яго Статута — не сёння і не ўчора ўзніклі гэтыя пытанні, але камсамол, і ў згодзе з інструкцыямі, і сам па сабе трымаўся збоку. Часцей за ўсё быў пабочным назіральнікам. (Праўда, знаходзіліся камсамольскія работнікі, якія дзейнічалі не па загадах зверху, а па загаду свайго сумлення. Так, яны цудоўна разумелі, чым гэта для іх можа скончыцца, але інакш не маглі.)**

**Цяпер, калі перад камсамолам узнікла дылема: выйсці з утульных сцен, якія, што барыкады, засланялі іх ад сапраўднага жыцця, і акунуцца ў яго з галавой, ці перастаць існаваць наогул — стала зразумела, што інструкцыі не заменяць свой розум, адказнасць і пазіцыю ў жыцці. Нельга, як камені на шыю, на кожнае сваё дзеянне навешваць пытанні: «А што скажуць старэйшыя таварышы! А як яны падумаюць!» У старэйшых таварышаў і сваіх пытанняў хапае, так што лепш будзе разлічваць на ўласныя сілы. Вось з гэтае прычыны ўзялі дый прыбралі сцены. І нічога страшнага не здарылася: столь не ўпала, падлога не правалілася.**

**Шчырае жаданне адмовіцца ад тактыкі плесціся ўслед за жыццём з яго складанымі пытаннямі, а з'яўляцца яго жывой часцінкай — вось галоўнае, што адбылося на пленуме ЦК камсамола рэспублікі ў верасні 1989 года. Што ні кажыце, а гэта ўжо — надзея. Бо надта доўгім і складаным шляхам ішоў камсамол рэспублікі да такога рашэння. Вядома, не ўсё на пленуме было аднолькава ўдалае. Асобныя рэзалюцыі насілі дэкларатыўны характар і больш канстатавалі вядомае, чым прыносілі нешта сваё. Але ж справа не ў гэтым. Зроблены самастойны і даволі рашучы крок — вось што галоўнае.**

**Пасля пленума я доўга гутарыў з Ігарам Велічанскім, выдатным прамоўцам і цудоўным суразмоўнікам. Да пленума Ігар мае самае непасрэднае дачыненне. У складзе часовага навукова-даследчага калектыву «Моладзь і перабудова» пры ЦК ЛКСМБ Велічанскі распрацоўваў канцэпцыі Праграмы і Статута камсамола Беларусі, укладваў у яго, як кажуць, мозг і жывую душу. Вось аб гэтым і была наша гаворка.**

— Звычайна, Ігар, калі ў камсамола не хапае дыхання, ці, скажам інакш, паўтараць адны і тыя ж штампы — звыш усякіх сіл, раздаецца кліч: «Няхай сваё слова скажа камсамольская навука». І вось камсамольскія школы пачынаюць імітаваць бурную дзейнасць — выдаюць на-гара навуковыя працы дактары і кандыдаты камсамольскіх навук. Карысці зазвычай — кот наплакаў. Ды і чаму тут дзівіцца: кожны з іх, хто раней, хто пазней, быў на прафесійнай камсамольскай рабоце. Апаратная ж работа, як вядома, крылы падразае на ўсё жыццё. Прапанаваць жа камсамолу нешта сапраўды рэвалюцыйнае яны не могуць з тае прычыны, што добра ведаюць, якія перашкоды ўзнікнуць на гэтым шляху. Тыя перашкоды — як светлафоры, дзе заўсёды гарыць чырвонае святло...

І вось неяк пабываў я на пасяджэнні навукова-даследчага калектыву «Моладзь і перабудова» і шчыра парадаваўся, што ёсць у нас такія разумныя і цікавыя маладыя вучоныя, як А. Кіштымаў, А. Перапечка, А. Грыцанаў, В. Качанаў, І. Казлоўскі. Іх меркаванні не сціскаліся абручамі руціны, бездапаможнасці, залежнасці, «дасканаласці» апаратнай работы. Наяве, як кажуць, быў свабодны палёт думкі і свабодны пошук выйсця з няпростага становішча.

І тады мне падумалася: а што, калі б вось такія людзі ўзначальвалі рэспубліканскую і абласныя камсамольскія арганізацыі? Тады, можа, камсамол выйшаў б з крызісу з меншымі стратамі. А галоўнае — ведаў бы, куды і як ісці далей...

— Я думаю, што Цэнтральнаму Камітэту камсамола трэба было праявіць нейкую мужнасць, каб пайсці на такое рашэнне — стварыць часовы навукова-даследчы калектыў «Моладзь і перабудова». Відаць, трывога за аўтарытэт камсамола, які працягвае падаць на вачах, аказалася мацнейшай за жаданне падстрахавацца візамі, адмаўчацца, адседзецца ў цішыні, пакуль яшчэ не грымнуў гром.

Старыя формы і метады работы трэба браць не з арсеналу, як гэта было заўсёды, а зашпурнуць іх у пыльную кладоўку, дзе ляжыць усялякі хлуд. Можна сказаць адназначна: больш яны нас нікуды не вывезуць. Як грыбы, узнікаюць новыя арганізацыі. Але ж, калі іх праграмы «хто ў лес, а хто па дровы», дык добра відаць бездапаможнасць і нездзяйсняльнасць многіх задумак, якія маюць карысць для ўсяго грамадства.

А што такое наогул нефармальны рух моладзі? Гэта пратэст маладых людзей, якія не адчуваюць сваёй сацыяльнай закаванасці. У нефармальных аб'яднаннях яны знаходзяць тое, чаго не могуць знайсці ў камсамоле.

— У канцэпцыі Праграмы, якую вы распрацоўвалі, ёсць радкі, што выклікалі ў мяне асаблівую ўвагу: «У першую чаргу трэба ўказаць, што ЛКСМБ не з'яўляецца маладзёжнай арганізацыяй Кампартыі Беларусі. Далучаючыся да праграмных мэтаў і задач партыі, яе марксісцка-ленінскай ідэалогіі, камсамол арганізацыйна самастойны і незалежны ў рашэнні кадравых пытанняў, выпрацоўцы тактыкі, вызначэнні напрамкаў, формаў і метадаў сваёй дзейнасці». Справа ў тым, што год назад на пленуме ЦК камсамола рэспублікі я выказваў такую ж думку, праўда, у больш сціплым варыянце, за што, як кажуць, атрымаў на ўсю катушку. Але галоўнае не ў гэтым. Прыемна, што зроблены рывок у калектыўным усведамленні. Што так ці інакш мы прыйшлі да таго, да чаго не маглі не прыйсці.

Калі мы з горыччу кажам, што камсамол згубіў свой аўтарытэт, і ламаем галовы, як і дзе яго шукаць, мы не хочам быць да канца шчырымі і непрыкметна апускаем адну вельмі значную асаблівасць. Камсамол і партыя — як сіямскія блізняты. І калі захварэў адзін, дык абавязкова захварэе і другі. Я маю на ўвазе не характар і маштабы работы, не месца, якое займае партыя ў грамадстве, не матэрыяльны бок, а знешняе падабенства, дух і атмасферу. Камсамольскія ж апараты ўсіх рангаў створаны па ўзоры і падабенстве партыйных. Гэта іх копія, іншы раз скажоная праз надта вялікае жаданне «ўсё спісаць» у старэйшых таварышаў, іх слабы цень. Пра якую ж тады самастойнасць або самадзейнасць можа ісці размова?

«Камсамол — актыўны памочнік і рэзерв партыі»,— колькі пакаленняў, уступаючы ў рады ВЛКСМ, вымаўлялі гэтыя словы, не вельмі задумваючыся над іх сэнсам. А сэнс такі: абсалютнае падпарадкаванне партыйным органам. Жыццё па прынцыпе: калі сказана «трэба», дык у адказ абавязковае — «ёсць!». Гэта ўвайшло ў кроў камсамольскіх работнікаў, вызначала лінію іх паводзін. Такая паўваенная сістэма была вельмі зручная для абодвух бакоў. З адных яны здымала абавязак весці карпатлівую выхаваўчую работу; другіх вызваляла ад неабходнасці варушыць мазгамі, тварыць, рызыкаваць, прабіваць. Адным словам, жыць натуральнай атмасферай сваіх жа камсамольцаў. Замест гэтага ў жывую тканку лідэраў моладзі, як небяспечныя бацылы, укараняліся функцыянерства, чыноўніцтва і дагаджэнне. Не, я зусім не супраць партыйнага кіраўніцтва камсамолам у яго сапраўдным разуменні — мудрага, цярплівага, клапатлівага, пранізанага дзяржаўнай адказнасцю за падрыхтоўку і выхаванне будучага краіны. Але дзе яно, гэтае мудрае і клапатлівае кіраўніцтва, калі партыю ў нас увасабляюць асобныя людзі, якія маюць вялізную палітычную ўладу? Яны стварылі вакол сябе вакуум, нейкую «мёртвую зону». Да іх простаму смяротнаму не прабіцца, да іх са сваімі бедамі і трывогамі не дастукацца. А калі і ўдасца стаць перад іх яснымі вачыма, дык не выключана, што наткнешся на халодную ветлівасць і поўную безудзельнасць. Яны зазвычай гавораць і дзейнічаюць ад імя партыі, але, па сутнасці,— ад свайго асабістага. Нязгоду, пярэчанне ўспрымаюць як замах на іх уладу і аўтарытэт. Я, ведама ж, далёкі ад думкі, што такая вось атмасфера існуе літаральна ва ўсіх партапаратах, што гэта датычыцца ўсіх партработнікаў. Ёсць нямала выключна прыстойных і сумленных партыйцаў, але іх, на жаль, меншасць. І не яны вызначаюць пагоду, а хутчэй за ўсё тыя, для каго перабудова што востры нож у сэрца. На словах яны, вядома, усе за яе, а вось у душы многія лічаць: чым горшая абстаноўка ў краіне, тым для іх будзе лепей.

Даўно пара сказаць і аб адказнасці партыйных і перш за ўсё ідэалагічных работнікаў за тыя найвастрэйшыя сітуацыі, што ўзнікалі і ўзнікаюць у грамадскім жыцці рэспублікі. Дзіўная атрымоўваецца рэч: мы бясстрашна варушым прах вялікіх нябожчыкаў, спісваем на іх асабісты рахунак усе нашы няўдачы і пралікі, але ва ўпор не жадаем бачыць людзей, якія ў тыя ж застойныя гады актыўна праводзілі ў жыццё памылковую палітыку, а цяпер на тых самых і больш высокіх пасадах актыўна змагаюцца з ёю. Вядома, крытыкаваць мёртвых бяспечна, а вось з жывымі людзьмі, асабліва з тымі, ад якіх залежыць твой лёс, значна складаней.

Дык вось, аб адказнасці. Ніхто так і не даў грамадскасці слушнага адказу па выніках гаротна вядомага мітынгу ў Курапатах, як і не адказаў за ідэалагічную вакханалію, створаную вакол Быкава і Адамовіча, што ледзь не сутыкнула ілбамі, як «у старыя добрыя часы», рабочы клас і інтэлігенцыю. А ўсё гэта на сумленні ідэалагічных работнікаў ЦК Кампартыі Беларусі, хай сабе і былых. Не мае значэння, як гэта рабілася: з іх маўклівай згоды ці прамога ўказання, але відавочна адно — такія ідэалагічныя работнікі, такія камуністы не могуць карыстацца ў людзей павагай і аўтарытэтам...

— Партыя — гэта састаўная частка адміністрацыйна-каманднай сістэмы. А камсамол — яе філіял. Яна і перадала яму ўсе свае прыкметы.

Верхні эшалон партыі, які пачаў перабудову, ускалыхнуў людзей, якія жадаюць лепшага жыцця, праўды, сацыяльнай справядлівасці. А вось на сярэднім і ніжнім узроўнях засталося ўсё, як было. І людзі, вядома, усё гэта бачаць, разумеюць і робяць высновы.

Усе структуры грамадска-палітычнай сістэмы не вытрымалі выпрабавання часам. Многія лічаць, што крызіс, які ўзнік у камсамоле, нельга пракантраляваць, як нельга спыніць разбуральны працэс, які цягнецца ўжо не адзін год. Гэта не зусім так. Ёсць у камсамоле людзі, на якіх можна абапірацца. Ёсць магчымасць весці шырокую дыскусію, каб разам шукаць выйсце з сур'ёзнай сітуацыі.

А разлічваць на тое, што нейкія формы работы з моладдзю можна рэанімізаваць, з чагосьці счысціць іржу і падсунуць як нешта новае — пустая справа. Цяпер, відаць, кожны лідэр моладзі разумее, як рэзка ўзраслі патрабаванні да іх. З чужым багажом да моладзі не пойдзеш. Калі ў самога няма нічога за душой, дык лепей не разлічваць на «авось». На жаль, значная група камсамольскіх работнікаў жывуць і дзейнічаюць па законах і працэдурах мінулага. Няўжо так цяжка зразумець, што яны — генералы без арміі? Ці ўсё той жа страх не дазваляе ім у гэтым пераканацца?

Пачуццё страху закладзена ў генах. У нас усё яму падуладна. А як жа іначай, калі столькі гадоў на ім будавалася ўся палітыка нашай дзяржавы... Адзінота ў натоўпе ўласціва і нам. Адсюль і адзінота пярвічных камсамальскіх арганізацый. Дый задуманы яны былі не для таго, каб камсамольцу было цікава, каб адчуваў ён тут сябе чалавекам вольным і незалежным. Зусім не — каб трымаць яго ў ланцугах, прымусіць выконваць правілы некім прыдуманай гульні. За ўсё ж іншае, што рабілася па-за рамкамі гульні, білі. Біў Статут, біў калектыў. Прынцып «не высоўвайся», культ шэрасці рабілі ў душах маладых людзей сваю чорную справу. Па сутнасці, прымяняўся псіхалагічны тэрор: чаго б ні каштавала зламаць чалавека, падпарадкаваць яго ўсё тым жа правілам гульні. А гэта страшней за смерць. Не стала чалавека — шкада, але ж што зробіш... А тут і ёсць чалавек, і ў той жа час яго няма, бо па яго душы праехаліся асфальтавым катком...

Ад партыйных работнікаў іншы раз можна пачуць: «Які цяпер камсамол! Яго даўно пара распусціць». Так заяўляць могуць толькі самазабойцы. Бо партыя, якая не займаецца сваім будучым, перастане існаваць. Але і займацца так, як яна займалася дагэтуль, больш нельга. Адносіны паміж партыяй і камсамолам павінны быць прынцыпова новыя. І перш за ўсё — партнёрскія, раўнапраўныя. Як, дарэчы, і адносіны камсамольскіх камітэтаў да маладзёжнагу руху. Патрэба раз і назаўсёды адмовіцца ад манаполіі на яго. Нармальна, калі ісці на саюз з нефармальнымі аб'яднаннямі, і зусім ненармальна бачыць у іх сваіх ворагаў. Вядома, у тых выпадках, калі аб'яднанні моладзі не носяць антысавецкі, антысацыялістычны характар (заклік да вайны, звяржэння ўлады, распальвання нацыянальнай варожасці).

У нас ёсць унікальная магчымасць стварыць такую мадэль камсамола, якая ўвабрала б ў сябе ўсе тыя залатыя крупінкі, што існуюць у многіх камсамольскіх арганізацыях краіны і даюць свае плады. Пленум ЦК камсамола — першая таму спроба. І трэба спяшацца, бо гэта апошні шанц і апошняя спроба.

**Часопісы («Новый мир», «Наш современник», «Октябрь») пачынаюць публікаваць раней забароненыя творы Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына.**

**Сапраўдныя кнігі, нават знаходзячыся пад забаронаю, удзельнічаюць у гістарычным развіцці грамадства, ствараюць арыенціры ягонаму руху. Несучы па крупінках праўду, развенчваючы тых, хто не хоча, а таму і не можа жыць па праўдзе, кожная кніга Салжаніцына мае ўласны лёс барацьбы, перамог, паражэнняў.**

**Варта заўжды памятаць і пра лёс самога пісьменніка, жыццёвы шлях якога унікальны. Пражыта ўсё роўна як некалькі жыццяў у адным. І ў кожным з іх ён заставаўся самім сабою. Нават выдвараны за межы айчыны, ён жыў і жыве з ёй і дзеля яе, захоўваючы высокую вернасць грамадзянскаму і пісьменніцкаму абавязку.**

**Кнігі А. Салжаніцына вяртаюцца на радзіму, прыходзяць да тых, для каго яны ствараліся.**

**Публікуемы «Ліст...» — голас пісьменніка больш чым дваццацігадовае даўнасці, калі яму было неверагодна цяжка, але і тады ён змагаўся не толькі за самога сябе.**

**Юрый ІВАНОЎСКІ**



**Фота Юрыя ДАКУЧАЕВА.**

**Аляксандр САЛЖАНІЦЫН**

# ЛІСТ
# Усесаюзнаму з'езду Саюза пісьменнікаў

## *(замест выступлення)*

Не маючы доступу да з'ездаўскае трыбуны, прашу з'езд абмеркаваць:

1. Той больш невыносны прыгнёт, якому наша мастацкая літаратура з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе падвяргаецца з боку цэнзуры і з якім СП не можа болей мірыцца.

Не прадугледжаная Канстытуцыяй і таму незаконная, нідзе публічна не названая, цэнзура пад затуманеным імем «Галоўліта» навісае над нашай літаратурай і чыніць сваволю літаратурна непісьменных людзей над пісьменнікамі. Перажытак сярэднявечча, цэнзура валачэ свае мафусаілавыя ступні ледзь не ў XXI стагоддзе! Тленная, яна хоча прысвоіць сабе права нятленнага часу: аддзяліць вартыя кнігі ад нявартых.

За нашымі пісьменнікамі не лічыцца магчымым, не прызнаецца права выказваць апераджальныя меркаванні аб маральным жыцці чалавека і грамадства, па-свойму вытлумачваць сацыяльныя праблемы або гістарычны досвед, так глыбока выпакутаваны ў нашай краіне.

Творы, якія маглі б выказаць наспелую народную думку, своечасова і гаюча паўплываць ў галіне духоўнай або на развіццё народнае свядомасці,— забараняюцца або нявечацца цэнзурай з меркаванняў дробязных, эгаістычных, а для народнага жыцця недальнабачных.

Выдатныя рукапісы маладых аўтараў, яшчэ нікому не вядомых імёнаў, атрымліваюць сёння адмовы з рэдакцыі толькі таму, што яны «не пройдуць». Многія члены Саюза ведаюць, як яны самі не маглі ўстаяць перад цэнзурным ціскам і рабілі ўступкі ў структуры і задуме сваіх кніг, мянялі ў іх раздзелы, старонкі, абзацы, давалі ім бляклыя назвы, абы толькі ўбачыць іх у друку, і тым самым непапраўна скажалі іх. Дзеля зразумелае ўласцівасці літаратуры ўсе гэтыя скажэнні згубныя для таленавітых твораў і зусім не маюць значэння для бяздарных. Менавіта лепшая частка нашае літаратуры з'яўляецца ў свет у скажоным выглядзе.

А між тым самі літаратурныя біркі («ідэалагічна шкодны», «заганны» і г. д.) недаўгавечныя, плынныя, мяняюцца на нашых вачах. Нават Дастаеўскага, гонар сусветнае літаратуры, у нас пэўны час не друкавалі (не цалкам друкуюць і зараз), выключалі са школьных праграм, рабілі недаступным для чытання, разносілі. Колькі гадоў лічыўся «контррэвалюцыйным» Ясенін (за кнігу ягоную даваліся нават турэмныя тэрміны)? Ці не быў Маякоўскі «анархічным палітычным хуліганам»? Цэлыя дзесяцігоддзі былі «антысавецкімі» неўвядальныя вершы Ахматавай. Першае нясмелае ўражанне бліскучай Цвятаевай дзесяць гадоў таму было абвешчана «грубай палітычнай памылкай». Са спазненнем на 20 і 30 гадоў нам вярнулі Буніна, Булгакава, Платонава, няўхільна стаяць у чарзе Мандэльштам, Валошын, Гумілёў, Клюеў, не пазбегнуць калісьці «прызнання» і Замяціна, і Рэмізава. Тут ёсць адзін вырашальны момант — смерць няўгоднага пісьменніка, пасля якое, неўзабаве або няхутка, яго вяртаюць нам, суправаджаючы «тлумачэннем памылак». Ці даўно імя Пастарнака нельга было вымавіць уголас, ды вось ён памёр — і ягоныя кнігі выдаюцца, і ягоныя вершы цытуюцца на цырымоніях.

Папраўдзе збываюцца пушкінскія словы: **«Яны любіць умеюць толькі мёртвых!»**

Але позняе выданне кніг і «дазвол» на імёны не кампенсуе ані грамадскіх, ані мастацкіх стратаў, якія церпіць наш народ ад гэтых пачварных затрымак, ад прыгнёту мастацкае свядомасці. (У прыватнасці, былі пісьменнікі 20-х гадоў — Пільняк, Платонаў, Мандэльштам, якія вельмі рана паказалі і на зародак культу, і на асаблівыя ўласцівасці Сталіна,— аднак іх знішчылі і заглушылі замест таго, каб да іх прыслухацца.)

Літаратура не можа развівацца ў катэгорыях «прапусцяць — не прапусцяць», «пра гэта можна — пра гэта нельга». Літаратура, якая не ёсць паветрам сучаснага ёй грамадства, якая не смее перадаць грамадству свой боль і трывогу, у належны час папярэдзіць аб грознай маральнай і сацыяльнай небяспецы,— не заслугоўвае даверу ва ўласнага народа, і тыражы яе не для чытання, а для утыльсыравіны.

Наша літаратура страціла тое перадавое сусветнае становішча, якое яна займала ў канцы мінулага і на пачатку гэтага стагоддзя, той бляск эксперыменту, якім яна вылучалася ў 20-я гады. Усяму свету літаратурнае жыццё нашае краіны здаецца сёння непамерна бедным, прасцейшым і ніжэйшым, чым яно ёсць на самай справе, чым яно выявіла б сябе, калі б яго не абмяжоўвалі, не замыкалі. Дзеля гэтага ў сусветнай грамадскай думцы траціць і наша краіна, траціць і сусветная літаратура: калі б яна мела ўвесь незацісНуты плён нашае літаратуры, калі б яна паглыбілася нашым духоўным досведам — усё сусветнае мастацкае развіццё пайшло б інакш, чым яно ідзе, набыло б новую ўстойлівасць, паднялося б нават на новую мастацкую ступеньку.

**Я прапаную з'езду прыняць патрабаванне і дамагчыся скасавання ўсякай — яўнай і пакрыёмай — цэнзуры над мастацкімі творамі, вызваліць выдаўца ад абавязку атрымліваць дазвол на кожны друкаваны аркуш.**

II. ... абавязкі Саюза пісьменнікаў у дачыненні да сваіх членаў. Гэтыя абавязкі дакладна не сфармуляваныя ў Статуце ССП («абарона аўтарскіх правоў», «меры дзеля абароны іншых правоў пісьменнікаў»), а між тым за трэць стагоддзя выявілася, што ані «іншых», ані нават аўтарскіх правоў гнаных пісьменнікаў Саюз не абараніў.

Шмат якія пісьменнікі пры жыцці падвяргаліся ў друку і з трыбун абразам і паклёпам, адказаць на якія не атрымлівалі фізічнай магчымасці, больш таго — асабістаму ўціску і праследам (Булгакаў, Ахматава, Цвятаева, Пастарнак, Зошчанка, Платонаў, А. Грын, В. Гросман). Саюз пісьменнікаў не толькі не даў ім для адказу і апраўдання старонак сваіх друкаваных выданняў не толькі не выступіў на іх абарону,— але кіраўніцтва Саюза нязменна было першым сярод ганіцеляў. Імёны, якія ўпрыгожваюць нашу паэзію XX стагоддзя, былі выключаныя са спісаў Саюза, або нават не прынятыя ў яго. Тым больш кіраўніцтва Саюза пакідала ў бядзе тых, праслед каго скончыўся ссылкай, лагерам, смерцю (П. Васільеў, Мандэльштам, А. Вясёлы, Пільняк, Бабель, Табідзе, Забалоцкі і інш.). Гэты пералік мы вымушана абрываем словамі «і інш». Мы даведаліся пасля XX з'езда партыі, што іх было больш за **шэсцьсот** — ні ў чым не вінаватых пісьменнікаў, каго Саюз паслухмяна аддаў іх астрожна-лагернаму лёсу. Аднак спіс гэты яшчэ даўжэйшы, яго закручаны канец не прачытваецца і ніколі не прачытаецца нашымі вачамі: у ім запісаныя імёны і такіх маладых празаікаў і паэтаў, толькі выпадкова мы маглі даведацца з асабістых сустрэч, чые таленты загінулі ў лагерах не расцвіўшы, чые творы не пайшлі далей за кабінеты Дзяржбяспекі часу Ягоды — Яжова — Берыі — Абакумава.

Новаабранаму кіраўніцтву Саюза няма ніякае гістарычнае неабходнасці падзяляць з ранейшым кіраўніцтвам адказнасць за мінулае.

Я прапаную дакладна сфармуляваць у пункце 22 Статута ССП усе тыя гарантыі абароны, якія дае Саюз сваім членам, што падвергліся паклёпам і несправядлівым праследам, дзеля таго, каб стала немагчымым паўтарэнне беззаконняў.

Калі з'езд не пройдзе абыякава міма таго, што сказана, я прашу яго звярнуць увагу на забароны і праследы, выпрабаваныя асабіста мною:

1. Мой раман «У крузе першым» (35 аўт. арк.) хутка ўжо два гады як забраны ў мяне Дзяржбяспекаю, і тым самым затрымліваецца яго адкрытае рэдакцыйнае пасоўванне. Наадварот, яшчэ пры маім жыцці, насуперак маёй волі і нават без майго ведама, гэты раман «выдадзены» антынатуральным «закрытым» выданнем для чытання ў вузкім неназваным коле. Мой раман стаў даступны літаратурным чыноўнікам, ад большасці ж пісьменнікаў яго хаваюць. Дабіцца публічнага абмеркавання рамана ў пісьменніцкіх секцыях, прадухіліць злоўжыванні і плагіят мне не пад сілу.

2. Разам з раманам у мяне забраны і літаратурны архіў 20—15-гадовай даўнасці, рэчы, не прызначаныя для друку. Цяпер закрытым чынам «выдадзеныя» і ў тым жа коле распаўсюджваюцца тэндэнцыйныя вытрымкі з гэтага архіву. П'еса «Пір пераможцаў», напісаная мною ў вершах напамяць у лагеры, калі я хадзіў пад чатырма нумарамі (калі, асуджаныя на смерць праз пакуты, мы былі **забытыя грамадствам і па-за лагерамі ніхто** не выступіў супраць рэпрэсій),— даўно пакінутая, гэтая п'еса прыпісваецца мне як самая найноўшая мая праца.

3. Ужо тры гады на мяне, хто ўсю вайну праваяваў камандзірам батарэі, узнагароджаны баявымі ордэнамі, узводзіцца безадказны паклёп: што я адбываў тэрмін быццам як крымінальнік ці то здаўся ў палон (я ніколі там не быў), «здрадзіў радзіме», «служыў у немцаў». Так тлумачаць 11 гадоў маіх лагераў і ссылкі, куды я трапіў за крытыку Сталіна. Гэтыя паклёпы ўзводзяцца на закрытых інструктажах і сходах людзьмі, што займаюць афіцыйныя пасады. Дарма я спрабаваў спыніць паклёпы зваротам у Праўленне СП РСФСР і ў друк! Праўленне нават не азвалася, ніводная газета не надрукавала майго адказу паклёпнікам. Наадварот, паклёпы на мяне з трыбун за апошні год узмоцніліся, сталі больш жорсткімі, выкарыстоўваюцца скажоныя матэрыялы канфіскаванага майго архіву — я ж пазбаўлены магчымасці на іх адказаць.

4. Мая аповесць «Ракавы корпус» (25 аўт. арк.), ухваленая да друку (1-ая частка) секцыяй прозы маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі, не можа быць выдадзеная ані асобнымі раздзеламі (адкінутыя ў пяці часопісах), ані тым больш цалкам (адкінутая «Новым миром», «Звездой» і «Простором»).

5. П'еса «Алень і шалашоўка», прынятая тэатрам «Сучаснік» у 1962 годзе, да гэтага часу не атрымала дазволу на пастаноўку.

6. Кінасцэнарый «Ведаюць ісціну танкі», п'еса «Святло, якое ў табе», дробныя апавяданні («Правая кісць», серыя «маленечкіх») не могуць знайсці сабе ані пастаноўшчыка, ані выдаўца.

7. Мае апавяданні, што друкаваліся ў часопісе «Новый мир», не перавыдадзены асобнаю кнігаю ані разу, адкідваюцца ўсюды («Советский писатель», Дзяржпалітвыд, Бібліятэка «Огонька») і, такім чынам, не даступныя шырокаму чытачу.

8. Пры гэтым мне забараняюцца і ўсякія іншыя кантакты з чытачамі: публічнае чытанне ўрыўкаў (у лістападзе 1966 г. з 11 такіх выступленняў, пра якія была дамоўленасць, у апошні момант было забаронена 9) або чытанне па радыё. Ды проста даць рукапіс «прачытаць і перапісаць» у нас цяпер пад крымінальнаю забаронаю (старажытнарускім пісцам пяць стагоддзяў таму назад гэта было дазволена!).

Гэтак мая работа канчаткова заглушаная, замкнутая і абылганая.

Пры такім грубым парушэнні маіх аўтарскіх ды «іншых» правоў — возьмецца ці не возьмецца IV Усесаюзны з'езд абараніць мяне? Мне здаецца, гэты выбар немалаважны і для літаратурнае будучыні сяго-таго з дэлегатаў.

Я ўпэўнены, вядома, што сваю пісьменніцкую задачу я выканаю пры ўсіх акалічнасцях, а з магілы — яшчэ больш паспяхова і бясспрэчна, чым жывы. Нікому не перагарадзіць шляхі праўды, і за рух яе я гатовы прыняць і смерць. Але, можа быць, шмат якія ўрокі навучаць нас, нарэшце, не спыняць пяро пісьменніка пры жыцці?

Гэта яшчэ ані разу не ўпрыгожыла нашу гісторыю.

16 мая 1967 г.

**З рускай мовы пераклаў**
**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

**(З архіва Саюза пісьменнікаў СССР).**

# Першыя крокі

**Заканчэнне.
Пачатак на стар. 5.**

Начальнік штаба ЦК ВЛКСМ, камсамольчанін Уладзя Бурдакоў не вагаўся. Тамбоўцаў адлічылі і адправілі з будоўлі.

Спачатку наш атрад жыў дружна. Звычайна ў такіх выпадках кажуць: адной сям'ёю. Аўтарытэт камандзіра Толіка Хазана і камісара Сашы Губко ніхто не аспрэчваў. Яны не толькі патрабавалі з іншых, але і з сябе. Дні нараджэння ў атрадзе адзначаліся шумна. Калі не хапала месца ў Чырвоным кутку, а так здаралася амаль заўсёды, сядалі вакол тэніснага стала ў холе. «Ганялі чаі» з цукеркамі і варэннем. Сухі закон спачатку здаваўся усім смешным, мы нібыта гулялі ў яго, як у цікавую гульню, маўляў, паглядзім, што атрымаецца. Мінчанін Віця Курачкін, прызнаны галасіна і гітарыст, пачынаў якую-небудзь песню, астатнія падхоплівалі.

Жыццё віравала на будоўлі першы час яшчэ і таму, што, апрача адчування вялікае і патрэбнае справы, да будоўлі была скіравана пільная ўвага ўсяго краю. Газетчыкі, тэлевізіёншчыкі і кіношнікі не пераводзіліся. З імі прыязджалі хлопцы з крайкома і райкома, агітбрыгады, мастацкія калектывы, пісьменнікі.

Дзень моладзі 86-га года, напэўна, запомніўся ўсім без выключэння. Незвычайная спякота. Паветра застыла над Амурам. Рака ўжо не выратоўвае. Вада цёплая і здаецца нерухомай. Дарэчы, кітайцы называюць Амур «жоўтай ракою». На самай справе, яго́ныя воды жаўтаватага колеру. Так што, кітайцы, можа, і не памыляюцца, а вось што Амур вераломная рака — гэта дакладна. Тутэйшыя жыхары ведаюць гэта добра: штогод Амур забірае багата народу. Пераплываць Амур рашаліся толькі хлопцы з будоўлі, хоць тутэйшыя плаваюць не горш. Паўтара, амаль два кіламетры толькі да процілеглага берага і столькі ж назад. І гэта пры моцнай плыні.

Але вярнуся да Дня моладзі. Праз два гады я праглядала на Камсамольскай студыі тэлебачання кінастужку. Якія шчаслівыя там ва ўсіх твары!

Увечары дыскатэка прама на беразе. Падцягнулі дызель. У кузаве грузавіка ўсталявалі апаратуру, магутныя пражэктары. Танцавалі да дзвюх ночы.

Але свята звычайна заканчваецца і пачынаюцца цякучка, праблемы. У канцы лета на будоўлі сітуацыя склалася вельмі няпростая.

Будаўнічую пляцоўку ад лесу ачысцілі, трэба будаваць жыллё, а праектна-каштарысная дакументацыя адсутнічае, тэхнікі не хапае, панэлі ідуць бракаваныя, перабоі з цвікамі, шыферам, фарбаю, дошкамі. І ўвогуле высвятляецца, што пад такую колькасць дужых маладых рук няма патрэбных аб'ёмаў. Пачаліся дні прастояў, лайдацтва, заробкі рэзка панізіліся.

Прычына? На жаль, «застойнае», як цяпер кажуць, мысленне. Калі добрую новую справу пачынаюць рабіць старымі метадамі. А іменна, тагачасны першы сакратар крайкома партыі Аляксей Кляменцевіч Чорны (цяпер ён персанальны пенсіянер, жыве ў Маскве і з'яўляецца кансультантам па Хабараўскім краі, тым самым, які за дзесяткі гадоў яго́нага «кіравання» прыйшоў у занядбанасць) надумаў адрапартаваць XXVII з'езду партыі аб будаўніцтве Новага горада на Амуры. Так, у студзені быў закінуты першы дэсант, а ў маі 1986 года прыбыў Усесаюзны атрад імя XXVII з'езда КПСС, у тым ліку і аўтарка гэтых радкоў. Ну, а як раней у нас будаваліся гарады, вядома ўсім. У першую чаргу буйнамаштабныя вытворчасці: заводы, камбінаты, а там ужо як прыйдзецца, інакш кажучы, падцягваецца няшчасны соцкультбыт. У Тамбоўцы было так і не так. Вырашылі будаваць ЗАУ — завод мінеральных угнаенняў. Да таго ж, не правялі сур'ёзнае разведкі ў раёне будоўлі. Заказчык у асобе самавітага Міністэрства не спяшаўся. Масква думала, што рабіць з будоўляю, край, натуральна, паглядаў на Маскву. Заказчыкам часова зрабілі Будтрэст № 6 горада Камсамольска-на-Амуры. Інакш кажучы, абралі лінію крайняга. Трэст уздыхнуў і стаў сяк-так выконваць свае абавязкі: будаваць пакуль што жыллё. Вызначэнне «сяк-так» найлепш адпавядае сітуацыі, бо ў Будтрэста гарэў другі аб'ект саюзнага маштабу — металургічны камбінат, пра будаўніцтва якога я пісала раней.

Пакуль вырашаўся лёс будоўлі, начальнікі ўпраўлення мяняліся адзін за адным, журналісты, кіношнікі і камсамольскія работнікі ціхенька зніклі. Што ж застаецца рабіць маладым людзям, калі няма працы, а забавы прыеліся? Калі сілу няма куды дзець, а кроў маладая віруе? Да таго ж, на будоўлі падабраўся вельмі стракаты люд. Сярод кубанцаў, напрыклад, знайшлося багата аматараў пакурыць «траўку», а тут яшчэ непадалёк ад Тамбоўкі, і тамбоўцы добра навучыліся брагу выракляць. З чаго толькі яе ні рабілі: з рысу, таматнае пасты, бульбы, вінаграднага соку... Сталі спазняцца на працу, прагульваць, біцца. Савету камандзіраў-камісараў усё абрыдла, а камітэт камсамола створаны не быў. Медкамісія ЦК ВЛКСМ, якая працавала ў верасні на будоўлі, сабрала букет з наркаманіі, хранічнага п'янства і венерычных захворванняў. Камісія пакінула экземпляр свайго заключэння і памахала серабрыстым крылом, а будоўля засталася са сваімі бедамі.

Трагічнай развязкаю стала гібель байца нашага атрада Алега Міраша. Праз два тыдні пасля ўласнага вяселля ён замёрз п'яны на могілках, цераз якія вяртаўся ў сяло, куды пераехаў. Упаў, заснуў і не прачнуўся — перахаладзіўся арганізм. Ён быў непрыкметны, ціхі, добра іграў на гітары, пісаў песні. Не, ён не быў да будоўлі пай-хлопчыкам. Спадзяваўся кінуць піць, пачаць новае жыццё, але... не выйшла. Я не памятаю, колькі яму было, аднак не больш дваццаці двух. Першая наша магіла на Амурскай зямлі. Першая, але, на жаль, не апошняя...

А 11 кастрычніка гэтага ж года першая камсамольская канферэнцыя будоўлі выбрала мяне, у той час брыгадзіра камсамольска-маладзёжнае брыгады аддзелачнікаў, вызваленым сакратаром камітэта камсамола.

Але пра гэта пазней





**Уладзімір ПІСАРАЎ**

# Гутаперчавая зорка

**— Час, даўно ўжо час прэсе звярнуць на нас увагу,— з самым сур'ёзным выглядам наракала мая суразмоўніца, хоць гарэзлівыя чорцікі ў пакеплівых вачах гэтую ўяўную сур'ёзнасць начыста абвяргалі.— Светачка ў нас малайчына, вось пабачыце, яна яшчэ алімпійскай чэмпіёнкай будзе!**

**Ах, Светачка, Света Багінская, дванаццацігадовая ладная дзяўчынка,— губкі банцікам, русыя валасы прыхоплены ў хвосцік, усходняга разрэзу вочы панураны долу... Пераміналася з нагі на нагу поруч. Ёй, што толькі-толькі перамагла на міжнародным турніры, яўна рупіла вярнуцца да снарадаў і заняцца справай. Інтэрв'ю з будучай чэмпіёнкай не клеілася. Задаўшы з дзесятак агульнапрынятых і, шчыра кажучы, не самых арыгінальных пытанняў (вучоба, захапленні, планы на будучае і далей у тым самым духу) і атрымаўшы на іх просценькія адказы, якія ані не паспрыялі пазнанню характару гераіні, я ўрэшце здаўся. Будучая зорка была адпушчана, а спісаная старонка блакнота амаль не ўвабрала ў сябе сенсацыйнай, інтрыгоўнай і проста нечаканай інфармацыі.**

**Добра, на дапамогу прыйшла трэнер юнага таленту, тая самая іранічная жанчына, Любоў Максімаўна Міраманава. Як неблагі псіхолаг і выдатны апавядальнік, яна з ходу накідала акварэльны партрэт сваёй вучаніцы. Света, яна ж Багіня, сказала Любоў Максімаўна, з натуры яўны лідэр, змалку прывыкла верхаводзіць. Аўтарытэт у сяброўак непахісны, а калі ў сітуацыі, дзе Святлана разлічвае на ролю першай скрыпкі, чаканае не спраўдзіцца — засмуціцца на поўніцу. Нават самы салідны ўлоў на рабалцы ў кампаніі хлапчукоў павінен належаць толькі ёй...**

**Аднаго разу, заглянуўшы на цяпельца ў гімнастычную залу, я ўбачыў пацешную сцэну. На матах, стаўшы ў шарэнгу, стаялі дзесятка паўтара-два юных гімнастак, і сярод іх сур'ёзная, насупленая, з сурова сціснутымі вуснамі Багіня. Трэнер сур'ёзна абвясціла: «Нашы спаборніцтвы па спецыяльнай фізічнай падрыхтоўцы выйграла Света Багінская. Паппляскаем!»**

**Света, на той час ужо, між іншым, майстар спорту міжнароднага класу, член маладзёжнай зборнай краіны, выступае наперад, і — дзівосная метамарфоза — расплываецца раптам шырокай усмешкаю, ясным сонейкам з-за хмар, якое асвятліла сімпатычны дзявочы тварык.**

**— Бачылі,— па-змоўніцку скасавурыла на яе вока, хаваючы ўсмешку, Міраманава: маўляў, што я казала! Славалюбная — жах!**

**— На трэніроўках у нас часта выкарыстоўваліся нейкія элементы гульні, каб дзяўчат раскатурхаць,— сказала мне Людміла Папковіч, сённяшні трэнер Святланы.— Бывала, Любоў Максімаўна спытаецца: «Ну, хто пачынае?» Усе маўчаць, а Светачка цягне руку: «Я!» «Хто будзе алімпійскай чэмпіёнкай?» Вядома, Багінская першая падае голас! Не паспеем і вокам павесці — гэтая малая ўсіх расштурхае, лезе на снарад і, нікога навокал не бачачы, пачынае куляцца!**

**Памятаю, праводзілі аднойчы нешта накшталт першынства залы ў «Працоўных рэзервах». Багінская, ёй было тады гадоў сем, трэцяе месца заняла. Нібыта радавацца трэба, а яна явілася дамоў мала не ў слязах, грамату — на шматкі, медаль закінула прэч з вачэй: мне трэцяга месца не трэба! А апярэдзілі яе, між іншым, дзяўчаткі гады на тры старэйшыя.**

**...Надзіва жвавую і фізічна развітую пяцігадовую малую знайшла ў адным дзіцячым садку Мінска, прывяла ў секцыю «Працоўных рэзерваў», а пасля перадала Міраманавай майстар спорту міжнароднага класу Людміла Савіна, сама колішняя вучаніца Любові Максімаўны. Ёсць у лексіконе ў трэнераў, што працуюць з дзецьмі, увогуле някрыўднае, але ў кантэксце, калі прыкласці да выхаванцаў, амаль цынічнае слова — «матэрыял». Матэрыял добры,— значыцца, запраграмаваны на перамогі. Слабы «матэрыял» — рана ці позна, з жалем ці без — выбракоўваецца... Света — гэта адразу кідалася ў вочы — была не проста добрым — выдатным, унікальным матэрыялам. Моцная, спрытная, бясстрашная, гнуткая — сапраўдная гутаперчавая дзяўчынка. «Таленавітае цела», як сказалі аднаго разу пра яе. І характар — упартая, самастойная, настойлівая не па гадах. Міраманавай, якая пабачыла за сваё жыццё не адзін дзесятак першакласных гімнастак, не трэба было тлумачыць, які самародак у яе ў руках!**

**Але самародак, як ні круці, яшчэ не брыльянт, і каб ператварэнне сталася, патрэбен вопытны ювелір. Шкада, што юныя дараванні часта забываюцца пра гэта, вельмі шчыра думаючы, што лёгкакрылы планер здольны ўзляцець без дапамогі свайго стваральніка. А вось сентэнцыя, якая ўжо добрую аскому набіла, што трэнер уклаў у вучня ўсю душу — не проста прыгожая фраза. Узяўшыся выгадаваць з таленавітага вучня чэмпіёна, настаўнік часам амаль не расстаецца з ім, песціць як роднае дзіця, толькі што з лыжачкі не корміць. Святлана, можна сказаць, выхоўвалася ў сям'і Міраманавай, зрабіўшыся яе пешчанай дачкою, часта начавала ў малюсенькай кватэрцы Любові Максімаўны, тым болей, што дома не ўсё бывала гладка.**

**Што такое «Круглае»? Гэта кузня чэмпіёнаў. Гэта месца, дзе алімпійскія надзеі жывуць амаль увесь час, наведваючы родныя пенаты нібыта дальнія амаль забытыя траюрадныя пляменніцы, і рэдкія гэтыя наезды маме з татам — светлыя святы, якія потым доўга з уздыхам прыгадваюцца. «Дзе цяпер Света?» (Баітава, Багінская) — папытайцеся ў таго, хто павінен ведаць, і калі не пачуеце звыклае «На Круглым»,— лічыце, што вам пашанцавала. І, калі ласка, не дапытвайцеся ў пятнаццацігадовай зоркі, які раман Фолкнера яна любіць і чым вабіць яе творчасць Сальвадора Далі. Калі дырэктар школы ледзьве памятае ў твар сваю самую славутую вучаніцу, а вучаніца пасля дзвюх знясільваючых трэніровак засынае над падручнікам і класна ведае геаграфію па шыльдах аэрапортаў і палацаў спорту ўсяго свету,— далібог жа, ці да Фолкнера ёй! Паспець бы прачытаць дэтэктыўчык... І, слова гонару, няма тут ні гранулы іроніі: нельга ж, на самай справе, згадаўшы пры нагодзе Казьму Пруткова, ахапіць неахопнае! А савецкаму спорту патрэбныя медалі. Асабліва алімпійскія...**

**...Пакідаючы падфарбаваны размытай касметыкай след, быццам павольна вычарчаны ў высокім небе шлейф нябачнага звышгукавога самалёта, па шчацэ плыла па-здрадніцку няпрошаная слязінка. За ёю другая... Нібы выплеснулася нарэшце праз бераг неверагоднае напружанне вар'яцкай гонкі апошніх месяцаў, знясільваючае трывожнае чаканне, узмоцненае, мусіць, неабходным, але такім цяготлівым абавязкам — безліч разоў даказваць, што месца ў чацвёрцы шчаслівых — законнае тваё. Яе цалавалі, пяшчотна і крышку бесцырымонна тузалі, Святлана адказвала сяброўкам тым самым, але толькі калі знайшла вачыма распрамененую Любоў Максімаўну, міжволі ўсміхнуўшыся сама, упэўнілася канчаткова — яны сапраўды алімпійскія чэмпіёнкі. Адолелі-такі грозных румынак!**

**І яе, Багінскай, уклад у медалі пераацаніць цяжка. Адпрацаваўшы свае праграмы на ўсіх снарадах бездакорна, без адзінага зрыву, а гэта ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі, у першую чаргу са славутымі румынкамі Даніэлай Сіліваш, Аўрэліяй Добрэ, ленінградкай Аленай Шушуновай і іншымі даволі сур'ёзнымі саперніцамі (далося вой як нялёгка!), пятнаццацігадовая мінчанка следам за камандным «золатам» здолела адваяваць «бронзу» ў асабістым першынстве. Некаторыя спецыялісты, зазначым, пераканаaныя, што магла б заняць і найвышэйшую прыступку п'едэстала, каб выходзіла на памост не чацвёртая-пятая, па чарзе, сярод савецкіх спартсменак, а шостая: вядома, што арбітры зазвычай, на ўсякі выпадак прытрымліваюць самыя высокія ацэнкі апошняму ўдзельніку, ён па інерцыі лічыцца найлепшым.**

**Зрэшты, зразумела, пасля бойкі куламі не трасуць, і наогул, як той казаў, начальству відней. На што па-сапраўднаму здольная Багінская, здагадваліся ў той час, відаць, нямногія. Ну хто б мог падумаць, што высокая паводле мерак гэтага віду спорту, статная мілавідная дзяўчына здолее заваяваць два залатыя (у камандзе і ў апорным скачку), сярэбраны (у вольных практыкаваннях) і бронзавы (у шматборстве) медалі! Столькі ўзнагарод Алімпіяды, дарэчы, не павезла дамоў з Сеула больш ніводная савецкая гімнастка і ніводзін спартсмен Беларусі!**

**Асабліва, бадай што, здзівілі яе вольныя, пастаўленыя на музыку «Кармэнсюіты»: яны дапамаглі адкрыць зусім новую Багінскую. Пастава каралевы, гордая пасадка галавы, пластыка на ўзроўні балерыны Вялікага тэатра плюс найскладанейшая акрабатыка. І — сярэбраная ўзнагарода!**

**На гэтай зямлі, на жаль, часта здараецца — радасць і гора ідуць адно за адным. Чатыры алімпійскія медалі цяпер заўсёды будуць нагадваць Святлане пра прыгожага чалавека, які пакінуў, магчыма, самы яркі след у яе жыцці. Пасля вяртання з Сеула Святлана Максімаўна Міраманава трагічна пайшла з жыцця. На жаль, на чужы раток не навесіш замок, і чуткі, самыя бязглуздыя, папаўзлі па горадзе. Нават паўтараць іх язык не павернецца. Але адна «аўтарытэтная думка» ўсё-такі патрабуе ўдакладнення: Багінская, заяўлялі «знаўцы», спіць і бачыць сябе масквічкай, там яе залатыя горы чакаюць. Спытаўся пра гэта ў Светы і я:**

**— І ў галаве такога не было, і ўвогуле я Маскву недалюбліваю. Хоць, не буду таіць, прапаноўвалі. У цябе, кажуць, усё тут будзе. Я адказваю: навошта? Усё, што трэба, у мяне ёсць ужо. А трэніруе мяне цяпер Людміла Папковіч, таксама вучаніца Міраманавай, і лепш за яе гэтага ніхто сёння не здолее зрабіць.**

**— Дык што гэта за дзіва такое, Багінская?**

**— Які Святлана чалавек! — Людміла Папковіч задумваецца.— Дар гімнасткі ад бога. Вельмі сумленны і шчыры. Але характар (уздыхае) — вой-вой... Складаны, адным словам, характар. Можа, гэта пераходны ўзрост? У 16 гадоў яна ж практычна не ведае, як жывуць яе равесніцы, далёкія ад спорту. А можа, агульнай культуры не хапае? Самі ж ведаеце, як яны вучацца. Я вось гляджу на нашых дзяўчатак: тая і чэмпіёнкай рэспублікі яшчэ стаць не паспела, а гонару, а пыхі... Яны ж таксама разумеюць, што трэнер у пэўнай меры ад іх залежыць. І ўсё-такі натураю Святлана чалавек добры, адкрыты, не сквапны, любіць, напрыклад, прывозіць сувеніры і адорваць дзяўчат у зале. Так хочацца, каб далейшае жыццё ў яе склалася добра і без крывулін!**

**А сама Святлана расказала, як у Брусэлі, перад апошнім відам, спыталася ў Папковіч: калі дрэнна выканаю практыкаванне, што будзе? Тая адказала жартам: куплю табе тры кавуны! «А калі добра?» — «Адзін!» — «Ну, тады прыйдзецца рабіць добра, бо тры я не з'ем!»**

Герберт УЭЛС

апавяданне

# ЯБЛЫК



— Не, я павінен яго пазбавіцца,— прамовіў, раптоўна парушыўшы цішыню, мужчына, што сядзеў у кутку вагона.

Хінчкліф, на дачуўшы, узняў вочы. Ён блукаў у думках недзе далёка-далёка, зачаравана разглядаючы прывязаную да ручкі чамадана форменную шапку выпускніка каледжа — наглядна сведчанне толькі што атрыманай настаўніцкай пасады; у захапленні пазіраў на шапку і млеў ад прадчування вялікай будучыні, якое яна спараджала. Нядаўна ён быў залічаны ў Лонданскі універсітэт і прызначаны малодшым настаўнікам у Холмвудскую граматычную школу — пасада, якой можна было пазайздросціць... Хінчкліф пільна паглядзеў на свайго спадарожніка.

— А чаму б мне яго не аддадь?— працягваў той.— Аддаць! Чаму б не?

Гэта быў высокі, смуглявы, загарэлы мужчына з бледнаватым тварам. Ён сядзеў, не адводзячы вачэй ад мыскоў сваіх чаравікаў, паклаўшы рукі на плечах, закінуўшы ногі на пярэдняе сядзенне, і пакусваў доўгія чорныя вусы.

— Чаму б не?— паўтарыў ён.

Хінчкліф кашлянуў.

Незнаёмец узняў вочы — загадкавыя, нейкія цёмна-шэрыя — і добрую хвіліну безуважна глядзеў на яго. Паступова твар яго паказваў усё большую зацікаўленасць.

— Та-ак,— працяжна прамовіў ён.— Чаму б не?! І на гэтым усё.

— Я, мабыць, не зусім вас разумею,— кашлянуўшы яшчэ раз, заўважыў Хінчкліф.

— Вы не зусім мяне разумееце...— механічна паўтарыў незнаёмец, перабягаючы сваімі загадкавымі вачыма з Хінчкліфа на яго чамадан са знарок выстаўленай шапкай і назад, на яго пакрыты пушком твар.

— Вы ведаеце, вашы развражанні нейкія ўрывістыя,— збянтэжана зазначыў Хінчкліф.

— А чаму б мне і сапраўды не зрабіць так?— вымавіў незнаёмец, увесь час думаючы пра нешта сваё, і, звяртаючыся да Хінчкліфа, спытаў:

— Ты студэнт?

— Я... завочна... у Лонданскім універсітэце...— з непрытоеным гонарам адказаў той, нервова папраўляючы гальштук.

— Прага ведаў,— заўважыў незнаёмец і раптам зняў ногі з сядзення, упёрся кулакамі ў калені і пільна паглядзеў на Хінчкліфа, быццам ніколі да гэтага не бачыў студэнтаў.— Так,— рашучым жэстам ён ткнуў указальным пальцам у грудзі свайго суседа. Потым устаў, зняў з сеткі для рэчаў партфель і адчыніў яго. Моўчкі дастаў адтуль нейкую круглую рэч, загорнутую ў колькі столак срабрыстай паперы, асцярожна разгарнуў яе і працягнуў Хінчкліфу невялікі, гладзенькі, залаціста-жоўты плод.

Хінчкліф глядзеў, шырока расплюшчыўшы вочы і разявіўшы рот. Ён не памкнуўся нават узяць плод; у яго і думкі такой не было.

— Гэта,— загадкававы незнаёмец гаварыў вельмі паволі,— яблык з Дрэва ведаў. Паглядзі на яго — невялічкі, такі празрысты, такі дзівосны. Веды! Я дам табе іх!

Мозг Хінчкліфа з хвіліну працаваў напружана, і раптам даволі верагодная здагадка — вар'ят — маланкай прамільгнула ў галаве, высветліўшы ўсё тое, што адбывалася. Вар'ятаў трэба ўлагоджваць. Хінчкліф схіліў галаву крыху набок.

— Хм, яблык з Дрэва ведаў!— прамовіў ён і, напусціўшы на сябе зацікаўлены выгляд, паглядзеў на гэты яблык, пасля перавёў позірк на свайго суразмоўцу.— Ну, а чаму вы самі не хочаце яго з'есці? Дый адкуль ён у вас?

— Ён не гніе. Ён у мяне вось ужо тры месяцы, і ўсё такі самы празрысты, гладзенькі, спелы, апетытны,— незнаёмец апусціў руку на калена, паглядзеў на яблык, аб нечым разважаючы, і пачаў зноў загортваць яго ў паперу, нібы адмовіўшыся ад намеру развітацца з ім.

— І ўсё ж, адкуль ён у вас?— зноў паспрабаваў уцягнуць свайго спадарожніка ў размову Хічкліф.— І чаму вы ўпэўнены, што гэта менавіта яблык з Дрэва ведаў?

— Я купіў яго,— пачаў сваю гісторыю незнаёмец,— тры месяцы таму за глыток вады і акраец хлеба. Чалавек, які даў мне гэты яблык за тое, што я выратаваў яму жыццё, быў родам з Арменіі. Арменія! Незвычайная, цудоўная зямля, дзе і па сённяшні дзень ляжыць замураваны ў ледавіках гары Арарат Ноеў каўчэг... Дык вось, гэты чалавек, уцякаючы разам з іншымі армянамі ад курдаў, што нечакана напалі на іх, ішоў у горы, у глухмень, туды, дзе ніколі не ступала нага чалавека. І, уцякаючы ад праследнікаў, што ні на крок не адставалі ад іх, гэтыя людзі апынуліся сярод горных вяршынь на крутым схіле, спрэс парослым вострай, як брытва, травой, якая бязлітасна рэзала, паласавала любога, хто заходзіў у яе. Курды былі вельмі блізка, і ўцекачам нічога не заставалася рабіць, як шукаць выратавання ў гэтай траве. Але горш за ўсё было тое, што сцежкі, якія яны пракладвалі цаной сваёй крыві, аказвалі добрую паслугу іх праследнікам. Усе ўцекачы загінулі, апроч таго армяніна ды яшчэ аднаго яго таварыша. Ён чуў лямант, плач сваіх сяброў, шоргат травы над галовамі курдаў — трава была высокая, вышэйшая за чалавека. Потым пачуўся нейкі крык, хтосьці закрычаў у адказ, калі ж той армянін нарэшце спыніўся, усё сціхла. Ён зноў кінуўся бегчы, спаласаваны, скрываўлены, нічога не разумеючы, пакуль не апынуўся на крутым скалістым схіле пад абрывам. Уся трава была ахоплена полымем, і дым ад яе падымаўся сцяной паміж ім і яго ворагамі...

Незнаёмец спыніўся.

— Ну.., ну і...— прашаптаў Хінчкліф.

— І вось, ён стаяў, увесь абадраны да крыві вострай травою; пад паўдзённым сонцам скалы ззялі расплаўленай меддзю, дым ад ахопленай полымем травы ўсё бліжэй падбіраўся да яго. Больш тут заставацца нельга было. Што яму смерць? Ён баяўся катаванняў. Недзе далёка, за сцяной дыму, зноў пачуліся крыкі і плач, лямант жанчын. І ён пайшоў далей, падымаючыся паміж скал, спрэс зарослых кустамі, з зялёнага лісця якіх калючкамі тырчалі засохлыя галіны, пакуль нарэшце не схаваўся за грэбнем. Крыху пазней ён сустрэў свайго таварыша, пастуха, які таксама застаўся жывы. І паколькі холад, голад, смага былі нішто ў параўнанні з курдамі, яны ішлі і ішлі ўгору, сярод снягоў і лёду. Так яны вандравалі цэлыя тры дні.

На трэці дзень ім з'явіўся прывід. Галодным людзям, напэўна, часта з'яўляюцца прывіды, але ж вось ён, гэты яблык,— незнаёмец падняў загорнуты ў паперу мячык.— Я і раней чуў аб гэтым ад іншых горцаў, якія трохі ведалі тую легенду. Вечарэла, запальваліся зоркі, калі яны спусціліся з крутога, бы адпаліраванага схілу гары ў шырокую цёмную даліну, спрэс зарослую нейкімі дзіўнымі, пакручастымі дрэвамі, а на гэтых дрэвах віселі маленькія мячыкі, нібы шарыкі-светлячкі, цудоўныя, круглявыя, жоўценькія агеньчыкі.

І раптам далёка-далёка ўнізе, недзе ў глыбіні ўспыхнулі, асвяціўшы ўсё наваколле, залацістыя языкі полымя, што паволі рухалася праз даліну, і на фоне іх святла стаялі чорныя, нібы ноч, застылыя дрэвы, а схілы вакол іх і постаці саміх вандроўнікаў зазіхацелі чыстым золатам. І пры гэтым прывідзе яны, ведаючы легенды гор, адразу здагадаліся, што перад імі быў Эдэм, альбо яго вартавыя. Вандроўнікі, нібыта мёртвыя, упалі ніцма на зямлю.

Калі яны наважыліся расплюшчыць вочы, даліна ўжо танула ў змроку, але пасля нейкі час, святло, нібыта ахоплены полымем бурштын, заззяла зноў, вяртаючыся назад.

У гэты момант пастух усхапіўся на ногі і з крыкам кінуўся ўніз да святла. А майму знаёмцу не хапіла смеласці пабегчы за ім. Ён стаяў, ашаломлены, уражаны, ахоплены жахам, і глядзеў, як яго спадарожнік аддаляецца, бегучы на рухомае ззянне. Але не паспеў пастух зрабіць і некалькі крокаў, як пачуў нейкі грукат, падобны да грому, залапаталі нябачныя крылы, навісла адчуванне жудаснага, смяротнага жаху. Той чалавек, што даў мне гэты яблык, азірнуўся, шукаючы хоць якога паратунку. І, нястрымна несучыся ўверх па схіле і ўвесь час чуючы за спінаю грукат, ён зачапіўся за адзін з застылых кустоў, і адтуль проста яму ў рукі ўпаў спелы яблык. Вось гэты. У той самы момант лапатанне крылаў, гром хваляй пракаціліся над самай яго галавой. Ён упаў і страціў прытомнасць. Калі ж ён ачуўся, дык убачыў, што ляжыць сярод чорных развалін сваёй вёскі, а я разам з таварышамі перавязваю параненых. Прывід? Але яго рука ўсё яшчэ сціскала залаты яблык з таго дрэва. Некаторыя мае таварышы таксама ведалі легенду, ведалі, што гэта за плод мог быць.

Незнаёмец памаўчаў.

— Вось, гэта ён.

Гэта была самая незвычайная гісторыя, якую можна было пачуць толькі ў вагоне трэцяга класа на сасекскай чыгунцы. Здавалася, рэальнасць была толькі покрывам над фантастычным, і вось яно, фантастычнае, вытыркаецца з-пад гэтага покрыву.

— Дык гэта ён?— толькі і мог вымавіць Хінчкліф.

— Паводле легенды,— працягваў незнаёмец,— гэтыя гушчары карлікавых дрэваў разрасліся з таго самага яблыка, які Адам захапіў з сабою, калі разам з Евай вымушаны быў пайсці з райскага саду. Ён заўважыў, што трымае нешта ў руцэ, глянуў, убачыў напалавіну з'едзены яблык і з агідай шпурнуў яго. І вось яны прараслі ў пустыннай даліне, сярод векавых снягоў, і вогненныя мячы стаяць на варце, каб зберагчы іх у Судны дзень.

— Але ж я думаў, што ўсё гэтыя легенды — звычайныя...— Хінчкліф запнуўся,— небыліцы, ну, прыпавесці. Няўжо вы хочаце сказаць, што там, у Арменіі...

Незнаёмец адказаў на няскончанае пытанне тым, што расціснуў кулак і паказаў яблык.

— Але ж вы не ведаеце, ці на самай справе гэты яблык з Дрэва ведаў. Можа, той чалавек убачыў, ну, скажам, нешта накшталт міражу. Дапусцім...

— Паглядзі на яго,— спыніў Хінчкліфа незнаёмец.

Яблык і сапраўды меў незвычайны выгляд, быццам не зусім нават і яблык: ён быў нейкага загадкавага, залаціста-палымянага колеру, нібы мякаць плоду была згусткам самога святла. Хінчкліф глядзеў на яго і ўсё больш яскрава ўяўляў сабе пустынную даліну сярод гор, вогненныя мячы на варце, незвычайныя старажытныя вытокі тае гісторыі, якую толькі што пачуў. Ён працёр вочы.

— Але ж...

— Вось такі самы гладзенькі, наліты ён ужо тры месяцы, і нават больш. Не сохне, не вяне, не гніе.

— А вы самі сапраўды верыце ў тое, што гэта...

— Забаронены плод.

У сумленнасці і цвярозым розуме апавядальніка сумнявацца было нельга.

— Плод ведаў,— прамовіў ён.

— Дапусцім, гэта так,— памаўчаўшы, загаварыў Хінчкліф, усё яшчэ не адводзячы вачэй ад яблыка.— Але гэта, урэшце, не тыя веды, якімі мы валодаем. Я маю на ўвазе, што гэта нельга назваць ведамі. Адам і Ева ўжо елі яблык.

— Мы атрымалі ў спадчыну іх грахі, а не іх веды. Дзякуючы гэтаму яблыку, усё зноў стала б ясна і зразумела. Мы б змаглі пранікнуць ва **ўсё**, праз **ўсё**, зразумець самы глыбокі сэнс **усяго**, што нас акружае.

— Тады чаму ж вы яго не ясце?— з энтузіязмам усклікнуў Хінчкліф.

— Я ўзяў яго, таму што хацеў яго з'есці,— адказаў незнаёмец.— Але чалавецтва здрабнела. Калі проста з'есці яблык зноў, гэта наўрад ці прынясе...

— Веды — гэта сіла,— перапыніў яго Хінчкліф.

— Але ці шчасце гэта? Я старэйшы за цябе ў два разы, а то і больш. І я зноў і зноў браў у рукі яблык і кожны раз скалануўся пры думцы: колькі ж чалавек мог бы спазнаць, якое яно жудаснае — гэта пранікненне ўва **ўсё!** Падумаць толькі, увесь свет зробіцца раптам бязлітасна зразумелы!

— Гэта было б вялікай перавагай,— запярэчыў Хінчкліф,— у цэлым.

— Падумаць толькі, можна было б зазірнуць у думкі і сэрца кожнага з тых, хто вакол цябе, у самыя таямніцы яго душы — таго чалавека, якога кахаеш, каханнем якога даражыш...

— Адразу ж было б відаць ману,— падхапіў Хінчкліф, моцна ўражаны гэтай думкай.

— І горш за ўсё: спазнаць сябе, пазбавіцца сваіх самых патаемных ілюзій. Убачыць сябе на сваім месцы. Усё тое, чаму перашкаджала твая пажаднасць, твае слабасці. Ніякіх выратавальных надзей на будучыню.

— Гэта таксама было б выдатна. «Пазнай сябе», ведаеце ж...

— Ты малады...

— Калі вы не збіраецеся яго есці, і калі ён вас так непакоіць, чаму вы яго не выкінеце?

— Ты мяне зноў, напэўна, не зразумееў. Я не ўяўляю сабе, як можна **гэта** выкінуць, такі цудоўны, наліты святлом плод? Той, у каго ён ёсць, ужо звязаны па руках і нагах. Але, з другога боку — аддаць! Аддаць таму, хто прагне ведаў, хто не збаіцца гэтага поўнага пазнання...

— Вядома, яблык можа быць і атрутным,— задумліва прамовіў Хінчкліф.

У гэты момант яго позірк спыніўся на нейкім нерухомым прадмеце за акном. Гэта быў канец белай шыльды з літарамі «...мвуд». Хінчкліф устрапянуўся:

— Бацюхны, Холмвуд!

І містычны туман, што ўжо пачаў быў завалодваць Хінчкліфам, быў раптам разагнаны свежым подыхам надзённых турбот.

У наступную хвіліну ён з чамаданам у руцэ адчыніў дзверы вагона. Праваднік ужо ўзняў зялёны сцяжок. Хінчкліф скочыў на зямлю. «Трымай» — пачуў ён ззаду і, павярнуўшыся, убачыў, як заззялі цёмныя вочы незнаёмца і як той у адчыненыя дзверы вагона працягнуў яму празрысты залацісты яблык без паперы. Цягнік ужо рушыў з месца. Інстынктыўна Хінчкліф узяў яблык.

— Не!— закрычаў незнаёмец і паспрабаваў схапіць свой скарб, вярнуць яго.

— Назад!— спыніў яго праваднік, праціскваючыся наперад, каб зачыніць дзверы. Незнаёмец крыкнуў нешта яшчэ, але Хінчкліф не разабраў. Потым яго галава і рука вытыркнуліся з акна, і нарэшце цягнік увайшоў у цень ад моста, і незнаёмец імгненна знік. Уражаны, Хінчкліф стаяў, сціскаючы ў руцэ дзівосны яблык і не адводзячы вачэй ад апошняга вагона, што хаваўся за паваротам. З хвіліну ён не мог апрытомнець, але, прыйшоўшы да памяці, заўважыў, як два ці тры мужчыны на платформе з цікавасцю назіраюць за ім: ці не новы настаўнік граматычнай школы прыехаў распачынаць сваю кар'еру? Яму ў галаву раптам прыйшла думка, што для іх ягоны плод быў, напэўна, усяго толькі жалю вартым падабенствам апельсіна. Ад гэтае думкі Хінчкліфу зрабілася сорамна, і ён засунуў яблык у бакавую кішэню фрэнча, якая пры гэтым вельмі недарэчы выпнулася. Але з гэтым нельга было нічога зрабіць, і Хінчкліф, няўмела хаваючы сваё адчуванне няёмкасці, накіраваўся да мужчын, каб спытацца дарогі да граматычнай школы і даведацца, як можна даставіць туды свае рэчы: чамадан і дзве бляшаныя скрынкі, што ляжалі на платформе. Во дурны! Развесіў вушы, наслухаўся казак!

Ён дамовіўся, што багаж завязуць за шэсць пенсаў на грузавіку, а сам ён пойдзе пешшу. У галасах мужчын прагучала іранічная нотка, і Хінчкліф, сумеўшыся, адзначыў, што яго знешні выгляд усё ж кідаецца ў вочы.

Незвычайная шчырасць суразмоўцы ў цягніку і містычная загадкавасць яго гісторыі падштурхнулі думкі Хінчкліфа ў іншым напрамку; бы туман, яны засланілі ад яго надзённыя клопаты. Рухомыя агні! Але не паспеў ён яшчэ пакінуць станцыю і пазбавіцца ад трывожных разважанняў, як думкі аб новай пасадзе, аб уражанні, якое ён павінен будзе зрабіць на ўсіх жыхароў Холмвуда і ў асаблівасці на супрацоўнікаў школы і дзяцей, зноў вярнуліся да яго, надаючы яшчэ больш бадзёрасці. Не, ўсё ж неверагодна, наколькі нязручна можа адчуваць сябе далікатны малады чалавек з шыкоўнай знешнасцю з-за нейкага там не вельмі й вялікага, меншага за тры дзюймы ў дыяметры, да таго ж яшчэ такога прыгожага, ярка-залацістага яблыка! Схаваны ў кішэню чорнага фрэнча, ён гвалтоўна вытыркаўся адтуль, безнадзейна псуючы ўвесь знешні выгляд. Мінаючы маленькую бабульку ў чорным, Хінчкліф адчуў, што яе позірк імгненна спыніўся на гэтым гузаку. Адна пальчатка ў яго была надзета, другую ён трымаў разам з кіем у руцэ, і несці яблык адкрыта, ва ўсіх на вачах, было немагчыма. У адным месцы, дзе дарога ў горад здавалася дастаткова схаванай ад чужога вока, Хінчкліф дастаў з кішэні сваю ношку і паспрабаваў схаваць яе ў капялюш. Але яблык быў занадта вялікі, і капялюш недарэчна матляўся з боку на бок. Якраз у той момант, калі Хінчкліф зноў узяў яблык у руку, з-за вугла дома вынырнуў хлопчык, памочнік мясніка.

— Халера!— вылаяўся Хінчкліф.

Ён гатовы быў з'есці яблык і адразу ж набыць здольнасць ведаць **усё**, але яму здавалася вельмі недарэчным ісці ў горад, смакуючы сакавіты плод (а ён, відаць, і на самай справе быў сакавіты). Калі б яму сустрэўся хто-небудзь з хлапчукоў і ўбачыў яго за такім заняткам, гэта магло б сур'ёзна адбіцца на дысцыпліне ў школе. А акрамя таго, ад соку твар можа зрабіцца ліпучым або сок, крый божа, трапіць на манжэты фрэнча. Ці яшчэ чаго добрага ён акажацца такі самы кіслы і моцнадзейны, як і сок цытрыны, і пазбавіць колеру ўсё яго адзенне.

За паваротам дарогі з'явіліся дзве прыгожыя, асветленыя сонцам дзявочыя постаці. Дзяўчаты не спяшаючы ішлі ў горад і жвава размаўлялі. У любы момант яны маглі азірнуцца і ўбачыць ззаду ўсхваляванага юнака з нейкім незразумелым ззяючым жоўтым памідорам. Во дзе смеху будзе!

— Гэ-эх!— Хінчкліф з ўсёй сілы шпурнуў сваю ношку за мураваную сцяну ў чыйсьці сад, што падступаў у гэтым месцы да дарогі. Як толькі яблык знік за сцяной, Хінчкліфа ахапіла лёгкае адчуванне страты, якое захавалася, аднак, усяго з нейкую хвіліну. Потым ён узяў у руку кій і пальчатку і, неяк сарамліва абагнаўшы дзяўчат, бадзёра пакрочыў далей.

Уначы ён прысніў сон. Ён бачыў даліну, вогненныя мячы, пакручастыя дрэвы... Ён раптам зразумеў, што гэта сапраўды быў яблык з Дрэва ведаў, які ён так бяздумна выкінуў. Ахоплены пачуццём невыказнага адчаю, Хінчкліф прачнуўся.

Раніцой гэтае пачуццё адчаю і раскаяння прайшло, але пасля, калі ён не адчуваў сябе шчаслівым альбо не быў заняты сваімі справамі, яно зноў вярталася і непакоіла яго. І нарэшце аднойчы, каля адзінаццаці гадзін вечара, калі заліты месяцовым святлом Холмвуд спаў, пачуццё раскаяння ахапіла Хінчкліфа з падвоенай сілай і падштурхнула яго да рашучага кроку. Ён выйшаў з дому, перамахнуў цераз сцяну, што акружала спартыўную пляцоўку, прайшоў праз маўклівы горад на Стэйшн Лэйн і пранік у сад, куды калісьці выкінуў яблык. Але там, сярод роснай травы і лёгкіх, амаль бязважкіх галовак дзьмухаўцоў, ужо нічога не было.

**З англійскай пераклаў**
**Юрый ЛОБАЧ**





# Вечар на Іллю Прарока

**Падзея нібыта даўняя, але што было, тое было... У верасні ў Мінску ў тэатры оперы і балета меў месца быці дабрачынны вечар народнага мастака СССР прафесара Іллі Сяргеевіча Глазунова. Сродкі ад яго адпісаны ў юбілейны фонд Францішка Скарыны і на рэстаўрацыю Спаса-Ефрасіньеўскай царквы ў Полацку. Да высакароднай дзеі высакародна падключыўся Дзяржаўны акадэмічны беларускі хор і Мітрапалітаў хор Святадухаўскага кафедральнага сабора. Добра, трэба сказаць, спявалі, але не пра тое ка́зань...**

**Да прысутных звярнуўся І. С. Глазуноў. Сярод усялякага такога Ілля Сяргеевіч заклікаў беларусаў узнесці разам з рускімі сталёвы кулак адзінства перад абліччам супольнага ворага; паведаміў, што нас, славянаў, нехта спрабуе пасварыць; звеставаў, што Вялікая Русь — гэта ўсё тое, што мае ў сваёй назве корань «рос» альбо «рус»: Расія, Беларусь, Малаpoсія; няўхвальна выказаўся пра той перыяд гісторыі Беларусі, калі яна ўваходзіла ў Рэч Паспалітую; выказаў захапленне скасаваць прозванне імператара Мікалая І — Палкін; асудзіў другога расійскага манарха за тое, што той не прыняў парады Міклухі-Маклая і не далучыў Новую Зеландыю да імперыі — тады б сёння новазеландскія замарожаныя куры, якіх выкідаюць на маскоўскія прылаўкі, лічыліся б айчыннымі; выказаў сваю нелюбоў да дзекабрыстаў, бо яны былі масонамі; паведаміў, што нарадзіўся ў 1930 годзе ў горадзе Санкт-Пецярбурзе; прадэманстраваў веды ў санскрыце і беларускай мове; прыхапіў на невуцтве акадэміка Ліхачова; выказаў згоду з курсам Гарбачова і нашага ўраду; перад гэтым паведаміў, што мы ідзём да таго, каб стаць калоніяй Амерыкі; параўнаў Майсея і Буду не на карысць апошняга; асудзіў крышнаітаў; распавёў, што не мае да таварыства «Памяць» ніякага дачынення і нават судзіўся з Васільевым.**

**Прафесар жывапісу трапна зымітаваў манеру гаворкі Фурцавай і Брэжнева, а таксама адкрыў акалічнасці напісання ім партрэта нябожчыка генсека; адказаў, што з творчасцю мастака Аляксандра Ісачова не знаёмы, а з Заірам Азгурам знаёмы, але лепш бы яго ў вочы не знаць; заявіў пра сваю асабістую нянавісць да «Левага марша» і наогул да левага мастацтва; падкрэсліў, што адзіная ўзнагарода, якую ён мае,— ордэн, уручаны каралём Лаоса; асудзіў мінскіх карэспандэнтаў «Правды» і «Известий» за тое, што яны ўтойваюць ад усесаюзнага чытача вынікі місіянерскага служэння Глазунова на Беларусі.**

**Народны мастак Саюза ССР выказаў незадаволенасць з прычыны таго, што Беларусь, якая пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы, дапамагае Арменіі, якая пацярпела ад землятрусу; зрабіў агульную заяву ў тым плане, што годзе ўжо славянам пасабляць каму б там ні было; заклікаў братоў-беларусаў паўстаць на новае змаганне; расказаў, што калі падарожнічае чыгуначным транспартам, дык купляе ўсё купэ — каб не ўбіўся які падсусед-грузін з мандарынамі.**

**Тыя, што зладзілі дабрачынную акцыю, абвясцілі прысутным, што дата вечарыны састыкавалася з днём анёла І. С. Глазунова — праваслаўным святам святога Іллі Прарока. У сувязі з гэтым Мітрапалітаў хор некалькі разоў адспяваў у гонар цезаімянінніка «Многая лета». Той, у сваю чаргу, растлумачыў залу, што імя Ілля азначае «богам дадзены».**

**У заключэнне І.С. Глазуноў паінфармаваў, што мае тысячу задумаў, што ён поўны сілы і на доказ таго гатовы тут жа перагрызці батарэю паравога ацяплення.**

**У завяршэнне вечара галоўны распарадчык аб'явіў І. С. Глазунова адным з самых разумных людзей нашай краіны.**

**Сяргей КРАПІВІН**



«Бацькоўскі дом»

Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА

# ПАДШЫЎКА

## Чытаючы «Политический собеседник»

**Няма і палавіны сэнсу ў яе словах,**
**Усё ў іх дзікае — пустыя гукі...**
**Шэкспір, «Гамлет».**

Артыкул Т. Бумажковай «Укрощение иных точек зрения», апублікаваны ў № 4 «Политического собеседника» за гэты год, не заслугоўваў бы ўвагі гэтаксама, як і другі яе опус — «Барьер политической слепоты» («ПС», 1989, № 1), як сачыненні Н. Шэлдышавай «Нам бы научиться спорить» («ПС», 1989, № 3), «Когда размагничен нравственный компас...» («ПС», 1989, № 7), як і многія іншыя, што з зайздроснай рэгулярнасцю ўпрыгожваюць старонкі гэтага выдання. І я, мушу прызнацца, быў дужа здзіўлены, калі прачытаў у № 6 «ЛіМа» матэрыял А. Сульянава, прысвечаны разбору інсінуацый Бумажковай, які з прычыны нейкага дзіўнага непаразумення рэдакцыя называе публіцыстыкай. Дайце рады, каго ад каго бараніць: А. Адамовіча ад Т. Бумажковай? В. Быкава ад Н. Шэлдышавай? Я разумею, пачуцця гумару можна і не мець. Але ж не ў такой меры. Вось ужо святая праўда: якіх толькі дзівосаў на калёсах не плодзяць дэмакратыя і публічнасць! На поўным сур'ёзе палемізаваць з Т. Бумажковай, Н. Шэлдышавай — далібог жа, гэта перабор нават для педагогікі супрацоўніцтва...

Калі я чытаю такога кшталту «артыкулы», «водгукі», «пісьмы», мне кожнага разу згадваецца адна вельмі тонкая заўвага Д. І. Пісарава, якая сёння гучала б так: калі б жыў Пётр Іванавіч Бобчынскі, ён не ўзяўся б прасіць Хлестакова перадаць гасудару, што жыве, бач, у такім-бо горадзе Пётр Іванавіч Бобчынскі. Ён проста напісаў бы ў «Политический собеседник» і... маўчу далей: а раптам прыклад І. Шахаўцова станецца заразлівым, і мяне, як гэта здарылася з А. Адамовічам, пацягнуць да адказу «за знявагу гонару і годнасці»? Добра, калі б яшчэ так, можа быць горш. Дакляраваў жа Я. Сямашка «Вожыку» «залезці да яго ў нару — балазе зусім побач яна — і там паціснуць лапку, ды так, каб «пискнул»...» («ПС», 1989, № 8). А раптам і праўда малойцы з «ПС» кінуцца з кулакамі? Ім гэта — як рэпу згрызці...

Але ці не супярэчу я, аднак, сабе, кажучы пра тое, што «публіцыстыка» «Политического собеседника» не вартая аніякай увагі? Не, не супярэчу. Хто хоць бы збольшага пазнаёміўся з маімі нататкамі ў «Знамени юности», на якія спасылаецца Т. Бумажкова, той згодзіцца: 99 працэнтаў зместу яе артыкула я цалкам абышоў увагай, абмежаваўся аналізам толькі адной думкі, якая нават не належала ёй асабіста (не належыць, зрэшты, і аўтарытэтам, на якія яна спасылаецца), а складае агульны духоўны набытак тых любамудраў, хто «дыялектыцы вучыўся не паводле Гегеля». Строга кажучы, наогул нідзе не вучыўся... Гаворка ішла аб рэальным гуманізме — аб праблеме, якая сапраўды заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі. І не толькі з прычыны тэарэтычнай і практычнай яе значнасці сёння, але яшчэ і таму, што яна вельмі перакручаная ў нас ідэялогіяй класавага эгаізму, якая ідзе ад марксісцкай некампетэнтнасці — палітычнай амбіцыйнасці «правадыра ўсіх часоў і народаў». Я спрабаваў давесці, што кляцьбіты так званага «абстрактнага гуманізму» укладваюць у тэрмін «абстрактны» зусім не той сэнс, які звязвае з гэтым паняццем дыялектыка, і, як вынік гэтага, усё ставяць з ног на галаву: сапраўдны гуманізм прэзэнтуюць як абстрактны, а перакручаны ідэалогіяй эгаізму — як гуманізм найвышэйшай пробы. Бумажкова чамусьці ўхілілася ад абмеркавання гэтай праблемы па сутнасці, абмежаваўшыся тою заўвагаю, што «прафесар узносіцца ў такія гегельянскія вышыні, адкуль разгледзець сутнасць пытання робіцца немагчымым». Ахвотна допускаю, што Т. Бумажковай усё гэта на самай справе здаецца «гегельянскімі вышынямі». Але што скажаце рабіць, калі такога роду пытанні не вырашаюцца на ўзроўні такіх мілых ёй логікі і стылістыкі Камароўскага рынка? Хоць, зрэшты, якія ж гэта «гегельянскія вышыні» — бачыць у чалавеку не толькі прадстаўніка пэўнага класу, але і нацыі, сусветнай чалавечай агульнасці, нарэшце? Гэта ж проста як букі — аз — ба. Альбо, кажучы мовай сучасных шкаляроў, тут і вожыку ўсё зразумела.

І дарма думае Т. Бумажкова, што прычынай майго выступлення ў «ЗЮ» было жаданне абараніць А. Адамовіча і В. Быкава. Перакананы: яны цалкам раўнадушна глядзяць на «бумажныя» (даруйце міжвольны каламбур) крытычныя стрэлы Т. Бумажковай і ў маёй абароне аніякай патрэбы не маюць. Не адчуваю я да гэтых выдатных дзеячаў беларускай культуры і містычнай багавейнасці, як лічыць чытачка Н. Пятрова, якая прыслала ліст у «ПС», хоць глыбока шаную за талент і грамадзянскую мужнасць. Трэба, нарэшце, зразумець, і не толькі Т. Бумажковай: «імя» — не наменклатурная пасада, яно набываецца праз талент і працу.

Наогул у рэдакцыі «Политического собеседника» даволі своеасаблівы погляд на «плюралізм думак», «культуры нязгоды», «адмову ад манаполіі на ісціну», прыхільнікам і паборцам якіх яна сябе выстаўляе. Гэтае крэда часопіса гранічна шчыра выказана ў артыкуле Н. Шэлдышавай «Нам бы научиться спорить». Я цытую: «Калі за «нефармаламі» прызнана права вучыцца на сваіх уласных памылках, дык, мусіць, варта за сталымі («зрелыми») людзьмі пакінуць права проста і без увагі на асобы («прямо і нелицеприятно») казаць пра тыя памылкі, якія могуць падпільноўваць маладых людзей, не спанатраных («искушенных») у палітыцы» (пер. з рускай — рэд.).

Такое вось палюбоўнае размежаванне правоў і абавязкаў: адны — вучацца, другія — павучаюць. Як табе падабаецца, чытач, гэтая хатняга вырабу «Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна»? Бедныя, не спанатраныя ў палітыцы маладыя людзі, што б з вамі сталася, калі б не Т. Бумажкова, не Н. Шэлдышава? Але, дзякаваць богу, «Политический собеседник» і яго аўтарскі калектыў заўсёды на сваім пасту!

Гэтым я зусім не хачу сказаць, што сярод маладых людзей, якія прыхіляюцца да нефармальных аб'яднанняў, няма людзей безадказных, якія ўспрымаюць дэмакратыю як патэнт на ўсёдазволенасць. Яны ёсць! Але мяне цікавіць наступнае. Сяму-таму хацелася б выставіць крытыку, якой падупалі ў рэспубліцы некаторыя партыйныя і савецкія работнікі, як канфрантацыю з партыяй. Пазіцыя, што тут казаць, даволі зручная. Але яна, кажучы мовай Сталіна, наскрозь гнілая: партыйны функцыянер любога рангу — гэта яшчэ не партыя. Памянёную акалічнасць варта было б улічваць і Я. Сямашку, які нагнятае страх у сваім «рэпартажы» з выязнога пасяджэння савета па нарысе і публіцыстыцы ў СП БССР («ПС», 1989, № 4).

З чыстай нагоды я быў на тым пасяджэнні і магу засведчыць: ніякі гэта не рэпартаж. Бо рэпартажу, як справядліва сказана ў прэамбуле самім «Политическим собеседником», супроцьпаказаны «адсябяціна» і «адхіленні». Што да матэрыяла Я. Сямашкі, дык у ім гэтай адсябяціны і адхіленняў больш чым трэба! Так што, паўтараю, аўтар мае рацыю: гэта не рэпартаж. Вось толькі, далібог, не ведаю, да якога жанру яго аднесці? Янотакі, зрэшты, сказаць бы я мог, ды баюся, што Я. Сямашка ў крыўду кінецца.

Вонкавая канва падзей перададзена аўтарам дакладна, не прычэпішся. Але затое інтэрпрэтацыя — вось ужо дзе разгарнулася Сямашкава фантазія, не пашкадаваў ён і атычнай солі. Калі верыць Я. Сямашку, дык мала ці не ўсё пасяджэнне круцілася вакол «Политического собеседника» і артыкула Т. Бумажковай. І пачаў гэты «спектакль», пастаўлены ў «найлепшых традыцыях ждануўскіх пагромаў», Ю. Чарнічэнка. Патрасаючы «Политическим собеседником», ён, як засведчыў Я. Сямашка, адкрываючы пасяджэнне, «гаркнуў»: «Дзе тут сіяністы? Дзе масоны? Пакажыце мне іх!» Паслухайце, найшаноўнейшы, вы ж на вачах у публікі махлюеце картамі. Так, факт, як той казаў, меў месца. Але няўжо не зразумела, што саркастычныя рэплікі, якія былі кінутыя Ю. Чарнічэнкам з нагоды бумажкоўскага артыкула, трэба прымаць адназначна: даносны стыль аўтарэсы «ПС» яму глыбока агідны. Як зрэшты, і іншым удзельнікам пасяджэння. Сабралася ж бо не «Памяць», сабраліся людзі прыстойныя, публіцысты, крытыкі, пісьменнікі. Але надта ж карціць Я. Сямашку стварыць імідж Т. Бумажковай, а заадно і «Политическому собеседнику». Такое жаданне нам. рэдактара часопіса зразумелае і нават вартае пахвалы. Але навошта перакручваць факты?

Можна падумаць, з'едліва падколвае ён, што «ў рэспубліцы на званне «Гонар нацыі» правялі рэферэндум, і сярод безлічы прэтэндэнтаў Адамовіч набраў 99,9 працэнта галасоў...» Рэферэндум, сапраўды, не праводзілі і 99,9 працэнта галасоў прынята было збіраць толькі на выбарах у Вярхоўны Савет СССР. З таго часу, праўда, сітуацыя змянілася, і сёння, каб сабраць нават 51 працэнт галасоў пры адным прэтэндэнце, даводзіцца ехаць у беларускую глыбінку... Што ж да Алеся Адамовіча, дык яму, думаецца, не прыйшлося б выпраўляцца ў такія ваяжы — яго падтрымала б інтэлігенцыя і ўсе выбаршчыкі ў Мінску, Гродне, Магілёве, якія мысляць дэмакратычна... Вядома, рэдакцыя «ПС» разам з «аўтарскім актывам» і натхняльнікамі накшталт вядомага С. Я. Паўлава прагаласавалі б супраць. Але гэта іх асабістая справа...

Перунамі і маланкамі асыпае Я. Сямашка ў № 8 галаву «Вожыка», які дазволіў сабе недарэчны намёк з прычыны фотагенічнасці «Политического собеседника» з пункту гледжання нашых сённяшніх маральных і грамадска-палітычных крытэрыяў. Так і не вырашыўшы, якую «меру пресечения» выбраць на дзёрзкага крыўдзіцеля — ці то да віску «пацісснуць лапку», ці то ўхапіцца за КК БССР (ах, як шкада, што скасаваны артыкул 58!),— аўтар з жалем перадае справу на суд непрадузятага чытача. З гонарам жонкі Цэзара — матроны, чые нявіннасць і іншыя жаночыя цноты, як усім добра вядома, па-за падазрэннямі, Я. Сямашка прапануе: «Хай непрадузяты чалавек возьме ў рукі падшыўку «Политического собеседника» і скрупулёзна перагартае з першага нумара да апошняга. Пры самай вялікай рупнасці ён не знойдзе ў нашым часопісе ніводнай закаручкі, якая хоць бы аддалена нагадала яму пра ўсхваленне Сталіна альбо выгароджванне сталіністаў».

Ну дзіва што! Хапіла б досціпу сёння, на чацвёртым годзе перабудовы, усхваляць Сталіна ў органе ЦК КПБ. Як мне казалі, гэтага не робяць ужо адкрыта нават «Молодая гвардия» і яе галоўны рэдактар Ан. Іваноў. І ўсё ж... Хай не збянтэжыць вас абражана-высакародная пастава Цэзаравай жонкі. Тым болей, што цнота гэтай матроны, як дакладна ўстаноўлена цяпер залішне цікаўнымі гісторыкамі, мроілася толькі самому Цэзару.

Адразу ж і папраўлюся: не пра Сталіна гаворка, хоць маральнае пачуццё патрабуе ўчыніць, нарэшце, хоць бы суд гісторыі над гэтым крывавым катам свайго народа. Але Я. Сямашка мае рацыю: Сталін мёртвы, а шпыняць мёртвага — не вялікая заслуга. Аднак жа, не след бы пры гэтым не забывацца на мудрую асцярогу Маркса: мёртвыя маюць кепскую звычку хапаць жывых. Так, Сталін мёртвы, але ці мёртвы сталінізм? Ці памерла разам са Сталіным і сталінская ідэалогія? Ці яна па-ранейшаму балюе, схаваўшы свой твар пад маскай «сацыялістычных ідэалаў і каштоўнасцяў»?

Ідучы за парадай Я. Сямашкі, падымаю падшыўку «Политического собеседника». У нумары трэцім за гэты год чытаю: «Чаму ў праекце праграмы БНФ «Адраджэнне» ёсць пункт, які супярэчыць асновам сацыялізму: «БНФ падтрымлівае любыя формы ўласнасці, у тым ліку на сродкі вытворчасці...» Не маючы на мэце аналізаваць праект праграмы, які на шырокае абмеркаванне не апублікаваны, хачу задаць сабе толькі адно пытанне: ці не занадта размытая ў гэтым выпадку мэта, якое мы хочам дасягнуць?» Здаецца, ясна: эканамічная праграма БНФ носіць антысацыялістычны характар, арыентавана на рэстаўрацыю капіталізму ў Беларусі. Няясна іншае: што крамольнае выявіла журналістка ў тым пункце праграмы, які яна цытуе, і адкуль у яе такая зайздросная ўпэўненасць, што ён «супярэчыць асновам сацыялізму»? Заснавальнік нашай партыі і дзяржавы Ленін адкрыта прызнаваў, што ён не можа сказаць, «якім сацыялізм будзе, калі дасягне гатовых формаў». А вось аўтарка артыкула Н. Шэлдышава ведае.

Якія ж гэта, аднак, такія формы ўласнасці, якія ўвялі крытыка ў такую містычную жудасць, што яна нават не адважылася іх назваць, пазначыўшы шматкроп'ем? Я спецыяльна пацікавіўся. І вось што выявілася. Пасля той мясціны, на якой журналістка абарвала сваю выпіску, ідзе: «...кааператыўную, індывідуальную, калі яны садзейнічаюць росту жыццёвага ўзроўню народа». Ба, падумаў я, дык гэта ж тыя самыя формы ўласнасці, пра якія ішла гаворка на сакавіцкім (1989 г.) пленуме ЦК КПСС і якія партыя заклікала як мага больш развіваць. Не, крытык яўна паспяшалася прымерваць лаўры Касандры.

Я пытаюся ў Я. Сямашкі: адкуль у часопіса гэтая «одна, но пламенная страсть» да адчужанай ад народа формы ўласнасці? Адкуль глыбокая перакананасць у тым, што мэтазгоднасць павінна быць вышэйшая за закон і маральнасць? Ды ўсё адтуль жа, ад «мудрага, роднага і любімага», з якім Я. Сямашка і «Политический собеседник» нібыта не маюць і не жадаюць мець нічога агульнага.

Вельмі бядуе ў № 7 тая ж Н. Шэлдышава з нагоды некалькіх пакаленняў, якія «будавалі сацыялізм і верылі ў яго». «Што ж,— сумна пытаецца яна,— будзем і далей пад маскаю барацьбы са «сталінізмам» дыскрэдытаваць іх веру і маральныя перакананні? Перакананні, за якія яны плацілі жыццём?» Пра якія пакаленні вядзе гаворку Н. Шэлдышава? Ці не пра тое пакаленне ўкраінскіх сялян, якое было свядома падвергнута голаду Сталіным і ягонай камарылляй у 1932—1933 гадах? Можа, пра тое пакаленне сялян-малдаван, якіх Сталін і «асабіста таварыш Брэжнеў» змарылі голадам у годзе 1946? Але не, калі верыць Н. Шэлдышавай і «Политическому собеседнику», яны адышлі ў нябыт выключна па маральным перакананні. Ці, можа, гаворка ідзе пра тыя мільёны нашых дзядоў і бацькоў, якіх Сталін заключыў у канцлагеры? Можа, яны «будавалі сацыялізм і верылі ў яго, плацячы за свае перакананні смерцю?» Ці пра тыя пакаленні сялян, якіх ён прымацаваў да зямлі, аплачваючы іх рабскую працу «палачкамі»?




Мал. Анатоля ГАРМАЗЫ

Сталін здрадзіў сацыялізму, здрадзіў Леніну, у вернасці якому кляўся. Але што гаварыць пра гэта з людзьмі, для якіх нават сам тэрмін «сталінізм», выяўляецца, «не дакладны». Яны, як тыя паганцы, пра якіх першыя хрысціяне казалі: вочы маюць, але не бачаць, вушы маюць, але не чуюць.

Аднак досыць з мяне гэтых прагулак па гэтым «ветраградзе» нашай ахоўнай публіцыстыкі. Не, марна, зусім марна апелюе Я. Сямашка да падшыўкі «Политического собеседника». І пра паклёп гаворку вядзе марна. Пабойцеся бога, які паклёп? Дый навошта ён? Дальбог, ён зусім непатрэбны: «Я правду о тебе порасскажу такую, что хуже всякой лжи».

Я далёкі ад думкі, што людзі з падобным светаўспрыняццем і такімі маральнымі арыенцірамі не павінны мець сваёй трыбуны. Але як камуніст і марксіст-філосаф не магу не шкадаваць, што такой трыбунаю стаў орган ЦК КПБ.

P. S. **Ужо пасля таго, як матэрыял быў зададзены ў набор, азнаёміўся з № 10 часопіса. Ну і што, спытаецца чытач! А нічога — «усё той жа толк і тыя ж вершы ў альбомах». Вось ветэран А. Дрозд з наіўнасцю малога дзіцяці пытаецца: а за чый жа кошт трэба было праводзіць індустрыялізацыю, калі краіна была сялянская! Вось А. Рыжкоў і В. Глушкоў, парушаючы элементарныя законы элементарнае логікі, пнуцца абвергнуць факты, прыведзеныя ў артыкуле А. Казловіча ў «Литературной газете». Але я хацеў бы прапанаваць «Политическому собеседнику» вось што: няхай праанілізуе праграму БНФ па сутнасці, абапіраючыся на тэкст, а не апелюючы да плётак. Тады і пагаворым. У тым ліку і пра пункт 6 цяперашняе Канстытуцыі СССР. А заадно — і пра экспертызу, на падставе якой Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў сваё, скажу шчыра, дужа і дужа спрэчнае з прававога пункту погляду рашэнне.**

**Валянцін АКУЛАЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар**

Ігар ГУКОЎСКІ

# ДАМІНО

## «Мы песнямі сабе дарогу мосцім»



На час прадстаўлення сцэна ператвараецца ў парк адпачынку. У «Парку» з'яўляюцца двое, яны ўносяць і старанна ўстанаўліваюць статую. Праз імгненне на вачах у здзіўленых гледачоў статуя ажывае і ператвараецца ў чалавека, які, не даючы гледачам ачомацца, хапаецца за мікрафон і пачынае весці музычна-тэатралізаваную праграму «Парк». А песня з аднайменнай назваю канчаткова збівае ўсіх з панталыку сваім сюррэалістычным тэкстам. І, як усякая нечаканасць, багата прыпраўленая светлавымі эфектамі, дзейнічае гіпнатычна.

На жаль, гэтае прадстаўленне, задуманае ўдзельнікамі мінскае рок-групы «Даміно», так і не было пастаўлена на сцэне. Спачаткуміналі розныя тэхнічныя цяжкасці, затым — усялякія бюракратычныя перашкоды, а потым... Ведаеце, як бывае. Б'ешся іншы раз як аб сценку, безвынікова імкнешся да мэты, палаеш жаданнем здзейсніць задуманае і столькі часам сіл ідзе на гэта, што калі ўжо нібыта і «можна», ніхто не замінае, знікае жаданне і хочацца ісці далей, шукаць нечага новага, нязведанага.

Гэты пошук і вылучае групу. Бо ж нават назва «Даміно» за менш чым двухгадовы тэрмін яе існавання некалькі разоў зведала нязначныя метамарфозы. Музыканты шукалі тое адзіна дакладнае сэнсавае і гукавае адценне слова, якое найбольш поўна адлюстроўвала б іхні твар. Так з'явілася назва «ДО-МІ-НОр» — па імені музычнага акорду, потым «ДО-МІ-НО» — музыканты нібыта падкрэслівалі, што за гэтым звычным нам «до» і «мі» ідуць зусім не «рэ» ці «фа», а «НО»! — нечаканасць, якой павінна стаць творчасць ансамбля. Урэшце прыйшлі да класічнага «ДАМІНО», якое змяшчае ў сабе цэлы калейдаскоп значэнняў. Гэта і гульня, і маскарадны касцюм, і скарачэнне ад усё таго ж «до-мінор». Маскарадны касцюм загадкавы тут невыпадкова. Група схільная да відовішчных формаў падачы музычнага матэрыялу, надае вялікае значэнне сцэнаграфіі, светлавым эфектам і, вядома, касцюмам. Таму студыйныя запісы групы па ступені эмацыянальнага ўздзеяння непазбежна саступаюць яе канцэртным выступленням. Словам, студыйная адзінота музыкантам не пагражае.

Аднак зусім нядаўна выйшаў першы магнітафонны альбом групы, які, напэўна, у памяць аб нязздзейсненым прадстаўленні, атрымаў назву «Парк». У ім ярка прадстаўлена выканаўчае майстэрства ансамбля. Ягоныя песні вельмі разнастайныя, і па тэкстах, і па стылёвым накірунку. Тут і пранікнёны блюз («Горад вялікі»), і дынамічны хард-рок («Мотакрос»), і песня-жарт з вельмі няпростым падтэкстам («Аўтамабіль»)... Імкненне да стылёвае разнастайнасці часта мяжуе ў «ДАМІНО» з няўпэўненасцю, немагчымасцю вызначыць і адабраць лепшае. Вядома, пошук і эксперымент з'яўляюцца эліксірам творчага даўгалецця любой групы. Але, я думаю, мітусня ў шырокім калейдаскопе сучасных стыляў і накірункаў адно забірае ўвагу ад галоўнага, ад тае працы, вынікамі якое з'явіліся лепшыя кампазіцыі калектыва — «Парк», «Горад вялікі», «Даміно»...

Хочацца верыць, што вельмі хутка група заявіць пра сябе гучна. Для гэтага ў яе ёсць галоўнае — сур'ёзнае стаўленне да сваёй творчасці і шматабяцальны запас нерэалізаваных музычных ідэй.

Рок-группа «ДАМІНО».

Музычны кіраўнік, лідэр-гітара — Мікалай ЧОРНАВОКІ.
Вакал — Святлана ГАЎРЫЛЕНКА, Аляксандр ПЕРЦАЎ.
Рытм-камп'ютэр, электронныя барабаны, перкусія — Уладзімір ПАТЭНТ.
Бас-гітара — Уладзімір ПЛОТНІКАЎ.
Гукарэжысёр — Ігар АРЦЯНКОЎ.
Аўтар тэкстаў — Алег ЦІМ.
Мэнэджэр — Андрэй РАМАШЭЎСКІ.





Юрый СВЕТАЎ

# Пра карысць «Залатой сярэдзіны»





Дажылі. Вось ужо і на праклятым Захадзе танцуюць пад рок, які вырас на прасторах нашае рэспублікі. Не ў масавым, праўда, пакуль яшчэ парадку, але — танцуюць. Зірніце на гэтыя здымкі. Яны зроблены ў Заходняй Германіі. На выступленні брэсцкага гурта «Залатая сярэдзіна».

Спытаецеся, чаму менавіта яму выпала пракладваць сцяжыну нашаму року да заходняга слухача? Адкажу: на гэта ёсць шэраг прычын. Па-першае, як ні круці, а ад Брэста да ФРГ бліжэй, чым ад любога іншага горада. Па-другое, «Залатая сярэдзіна» — каманда сур'ёзная, добра ўзброеная, са стажам кантакту з замежнай публікаю. І, па-трэцяе, у ФРГ у берасцейцаў ёсць сябры — музыкі гурта «Рыэл Дыл» з Аўгсбурга, з якімі яны пазнаёміліся ў час сумесных выступленняў у Польскай Народнай Рэспубліцы. З дапамогаю «Залатое сярэдзіны» гурт з Аўгсбурга змог наведаць Беларусь, даць серыю канцэртаў у Гомелі, Магілёве і сталіцы рэспублікі. І вось — візіт у адказ.

Вядома, такое неабходнае нашай краіны валюты першае катэгорыі гэтакія творчыя кантакты пакуль не даюць. Але справа ж не толькі ў грошах і нават не ў іхняй колькасці! Трэба спачатку навучыцца хаця б разумець адно аднаго лепей. І паважаць.

Малайчыны, нічога не скажаш, берасцейскія музыкі. Змаглі ўсё ж такі разварушыць тамтэйшую, дужа спакушаную (і зусім не халодную, як прынята чамусьці думаць пра немцаў) публіку. Не ведаю, як наконт тэкстаў на незнаёмай мове, але тэхніку выканання заходнегерманскі глядач цаніць умее. На мякіне яго, як гэта — на жаль! — іншым разам здараецца ў нас, не правядзеш. Калі ўжо пляскаюць і «ю-бель» (накшталт нашага «брава») крычаць, дык, напэўна, ёсць за што.

Што ж, пачатак закладзены. Хто наступны?

P. S. Тым, хто яшчэ не ведае. «Залатая сярэдзіна» створана ў сярэдзіне 70-х гадоў студэнтамі Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Лаўрэат і ўладальнік прыза глядацкіх сімпатый першага рэспубліканскага фестывалю маладзёжнае песні «Наваполацк—86». У 1988-ым гурт стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Прапісаны ў Палацы культуры Брэсцкага домабудаўнічага камбіната.



Група «Акварыум» у складзе Б. Грабеншчыкова і А. Цітова знаходзілася ў дваццацідзённым турнэ па ЗША. Найцяплейшы прыём музыканты сустрэлі ў Тэхасе, Лос-Анджэлесе і Сан-Францыска. Амерыканскі дыск «Акварыума», «Рэйдзіо Сайлэнс» («Радыё Маўчанне») цяпер надзвычай папулярны ў Амерыцы. Нагадаем, што з 12 песень «Рэйдзіо Сайлэнс» 10 запісаны на англійскай мове. Думкі крытыкаў, аднак, раздзяліліся: адны лічаць, што можна і не зразумець, адкуль выканаўца — з Захаду ці з Расіі, іншыя пераканаты, што амерыканскі дыск «Акварыума» — тыповая руская музыка. Сам Грабеншчыкоў ацэньвае пласцінку так: «Гэта, вядома, не ідэал, але маленькі крок наперад».

Пашыраюцца міжнародныя кантакты ленінградскага рок-клуба: у 1989 годзе «ДДТ» і «Аліса» канцэртавалі ў Венгрыі, «Нуль» — у Фінляндыі, «Джунглі» і «Поп-механіка» — у Вялікабрытаніі. Аднак канцэрты «Кіно» ў Даніі закончыліся суцэльным правалам: так, на адзін «сэйшн» у Капенгагене было рэалізавана толькі 65 білетаў.

«ДДТ» і «Небяспечныя суседзі» далі ва Уфе сумесны дабрачынны канцэрт. Зборы з канцэртаў пайшлі ў фонд дапамогі пацярпеўшым у чыгуначнай катастрофе пры выбуху прадуктаправода ў ліпені гэтага года.

Адзін з фундатараў «Мроі», бас-гітарыст У. Давыдоўскі, выказаў жаданне пакінуць гурт. Канчатковае гэтае рашэнне ці не, пакажа час, хоць, хто ведае, можа, «ён яшчэ вернецца»!

У верасні ў Мінску адбыўся сумесны канцэрт беларускіх і дацкіх рокмэнаў, арганізаваны пад эгідаю «Нон-стопа». З нашага боку ўдзельнічалі «Рэй», «Мроя», «Мясцовы час», «Зарціпо», «Радыяцыя», «Кандор», «Жоўты прысмак», з дацкай — «Клюге кіндэр».

Да існуючых рухаў «Рок супраць апартэіду», «Рок супраць наркаманіі», «Рок супраць ядзернай пагрозы» і іншых дадаўся яшчэ адзін — «Рок супраць багатых». Сярод удзельнікаў — панк-групы «Смерць Кэнэдзі» і «Клэш».

Падрыхтаваў У. КВЯТКОВІЧ

Упершыню на Беларусі пра Данчыка даведаліся гадоў дзесяць назад, калі з гастроляў па ЗША вярнуліся ў Мінск «Песняры». Пасля аднаго канцэрта да Мулявіна падышоў сінявокі хлопчык і на цудоўнай беларускай мове сказаў, што ён тутэйшы беларус, любіць народныя песні і дзякуючы дапамозе мамы і таты нават запісаў уласны дыск. Мулявін і астатнія замілаваліся...

А сёння сінявокі Данчык збірае ў Мінску і іншых гарадах Беларусі поўныя залы. Амерыканскі спявак, наш суайчыннік, пакарае слухачоў той высокай мерай непасрэднасці, якая вылучае сапраўдны талент. Разам з Данчыкам у канцэртах браў удзел даўні знаёмец (яшчэ па тых гастролях у ЗША), былы «пясняр» Леанід Барткевіч і Сяргей Сокалаў-Воюш. Гэтую кароткую інфармацыю можна было б падсумаваць словамі пра тое, што «Данчыкаў прыезд стаў значнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі». Можна было б... калі б дадзенае словаспалучэнне даўно ужо не ператварылася ў банальны штамп. А ў дадзеным выпадку так і было — малады чалавек з далёкіх Злучаных Штатаў давёў многім, як можна без высокіх слоў і ўсялякай афектацыі любіць беларускае слова і «шанаваць свае песні».



Фота Цімура ГРЫБА









Заканчэнне.
Пачатак на 2-й стар. вокладкі

Можа, з адкрыццём музея яе там не будзе...

А што будзе! Мабыць, фотаздымкі, якія паказваюць каналы на месцы калісьці паўнаводных і рыбных Цны і Бобрыка...

Ці будзе паказана ў гэтым музеі гісторыя Пінска, дзе князямі сядзелі прамыя нашчадкі Рагнеды і Яраслава Мудрага, якія далі князёў Астрожскіх, у тым ліку знакамітага ваяводу і палітыка Канстанціна! Ці знойдзецца месца там нашаму першаму рэвалюцыянеру-дэмакрату, паэту Францішку Савічу, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, чыя маці паходзіць з Палесся, чыя п'еса «Пінская шляхта» была напісаная пінчуцкай гаворкай!

Гэтыя пытанні задаеш таму, што на нашай памяці — гвалт і здзек з гісторыі. Не толькі езуіцкі касцёл знішчылі ў Пінску. Камусьці надта было трэба заасфальтаваць вуліцу Леніна (былая вуліца Касцюшкі), ператварыць адну святыню ў кінатэатр «Дружба», а ў францішканскім кляштары — адчыніць Дом афіцэраў. Усё аніяк не могуць давесці да ладу дом Бутрымовіча. У касцёле Караля Барамея, дзе доўга быў склад, мяркуюць зрабіць залу арганнае музыкі...

Ці не лепш вярнуць яго царкве! Здолеў жа пробашч касцёла Успення дзевы Марыі ксёндз Казімір Свёнтак наладзіць канцэрты. І не замінаюць яны багаслужбе... Пра айца Казіміра, які зняў фільм аб прыродзе Палесся, які адзін з алтароў прысвяціў ахвярам фашызму, які зрабіў усё дзеля ўпрыгажэння і без таго прыгожае святыні, цёпла пісаў Караткевіч у эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Зірніце на гэтыя штыхі. Іх паставілі побач са званіцай, з якое відаць увесь горад і прастор за Пінаю. Зірнеш на іх — і смешна: ну проста ліліпуты ў параўнанні з гожым збудаваннем 1817 года!.. А даўней, калі не было тут штыхоў, недалёка стаяў «бацька ўсіх народаў»...

Мы, здаецца, паразумнелі. Захаваць тое, што засталося ад даўняга часу, зберагчы і данесці да нашчадкаў — ці можа быць што-небудзь больш святое!

# PINK FLOYD



Уладзімір ЗАЙЧАНКА

# «Шкада, што цябе з намі не было»

Чуткі пра тое, што «Пінк Флойд» павінны прыехаць у Саюз, спачатку мелі вобраз простых рок-плётак паміж музыкантамі і фанамі, пакуль гэта не было афіцыйна пацверджана газетамі і ТБ. Саюзнае ТБ у адной са сваіх паўночных перадач пра класічную музыку знайшло ў сабе сілы паказаць пару кліпаў групы і інтэрв'ю з Дэвідам Гілмарам, які цяпер стаў фактычна адзіным лідэрам групы. У гэтым інтэрв'ю журналіст, які гутарыў са знакамітым гітарыстам вельмі нязмушана, спрабаваў дамагчыся адказу: чаму ж «Пінк Флойд» усё-такі вырашылі прыехаць у СССР менавіта цяпер! Гілмар, які паўстаў перад тэлегледачом на фоне шматлікіх «залатых» і «плацінавых» пласцінак, раскадзеных за ягонай спінаю і развешаных на сцяне, стомлена распавядаў, што даўно марыў пабываць у нас, і вось, нарэшце, гэта ўдаецца перад вялікім турнэ па Еўропе. Вядома, гэтыя пяць канцэртаў у Маскве будуць убытачныя для групы, але ўсё пакрыецца даходамі ад звычайных «нармальных» выступленняў у далейшым. Выходзіла так, што «Пінк Флойд» ідзе на вялікія ахвяры, толькі б любым чынам з'явіцца ў СССР. Затым Гілмар падкрэсліў, што іхні прыезд стаў магчымы толькі дзякуючы таму, што ў нашай краіне вельмі многае змянілася і «дзверы адчынены». Ну што ж, ура-ура. Ура нашай перабудове і рок-перабудове ў канцэртных філарманічных арганізацыях, якія яшчэ ў 1983 г. пасля выхаду альбома «Канчатковы надрэз» толькі за адну фразу: «Брэжнеў узяў Афганістан...» аб'явілі гурт па-за законам, а цяпер рэзка расчынілі дзверы, даўшы магчымасць легендарнай «Флойд» даць некалькі канцэртаў.

У выпадку з «Флойд» мне асабіста хочацца верыць, што ім «сапраўды вельмі трэба прыехаць да нас і пайграць менавіта для нас...» Бо я веру, што яны і праўда ўсе вельмі добрыя хлопцы і не заўсёды «камерцыя» — галоўнае ў іхнім жыцці. Так, напрыклад, адзін мінскі кааператыў дамовіўся пра выступленні ў нашым горадзе са «Скарпіёнз», у момант іхніх гастроляў у Ленінградзе. Паколькі нашыя грошы не igралі для групы вялікае ролі, то яны былі згодныя даць тры бясплатныя (!) канцэрты пры ўмове, што члены гурта ў час знаходжання ў нашым слаўным горадзе-героі не будуць пакутаваць ад недахопу алкагольных напояў, чорнае ікры і блізкага кантакту з фіналісткамі гарадскога конкурсу тутэйшых прыгажунь. Пакуль прадстаўнік кааператыва абдумваў маральна-этычны бок гэтага пытання, вясёлыя хлопцы са «Скарпіёнз» выправіліся пакараць іншыя краіны, а да нас вырашылі прыехаць «Пінк Флойд».

Іншая справа, што ТБ-інтэрв'ю з Гілмарам было знята так, што міжволі ўзнікала думка, нібыта канцэрты ў Расіі для «Флойд» — простая дабрачыннасць (што, зрэшты, напэўна так і было), быццам важ сталічнае філарманічнае групы ў далёкую вёску для канцэрта ў падшэфным калгасным клубе.

Нарэшце — 3 чэрвеня, Масква, спорткомплекс «Алімпійскі», 30 тысяч гледачоў, а можа, нават і болей. Вядома, я прыйшоў сюды раней, каб паглядзець «апарат», які стаў такім жа легендарным, як і музыканты, і апісанне ягоных шырокіх магчымасцей зафіксавана ва ўсіх «рок-і-іншых» энцыклапедыях. Тэхнічная аснашчанасць фірменных гуртоў заўсёды ўражвае, як бы ты ўнутрана ні быў гатовы да яе загадзя. Тое, што ў іх ёсць на сцэне ўсё, што трэба для «задавальнення іхніх музычных запатрабаванняў» — гэта зразумела, але калі вось прыходзіш на выступленне Інгві Мальсціма, а ў яго на сцэне проста так стаяць у рад 30 (!) камплектаў калонак «Маршал» і па два ўключаныя ўзмацняльнікі на кожным, то гэта дзейнічае на кожнага тутэйшага музыку мацней за паведамленне ў газетах пра тое, што жыццёвы ўзровень у нашай краіне трохі ніжэй, чым у заходнеафрыканскіх краінах у стадыі развіцця або ў Арабскіх Эміратах.

Усё, што было выстаўлена «Флойд» для канцэрта, уражвала сваімі гіганцкімі памерамі. Панарама з двух бакоў грандыёзнае сцэны мела выгляд чорных вежаў двухпавярховае вышыні. Вышэй, на узроўні 4—5-га паверхаў, на стальных канатах было замацавана яшчэ па паўсотні калонак з кожнага боку. У цэнтры — знакаміты велізарны белы круг, які ў час канцэрта стане месцам паказу галаграфічных і светлавых эфектаў, а таксама экранам для дэманстрацыі відэакліпаў. Перад сцэнаю на падвесцы чатыры магутныя асвятляльныя сістэмы, якія па пракладзеных пад столлю рэйках будуць «лётаць» у любым накірунку.

«Флойд» пачаў свой першы канцэрт з уступнае кампазіцыі альбома 1975 г. «Шкада, што цябе з намі няма» — і адразу над групаю з'явілася чырвона-зялёная галаграфічная фігура. Затым запаліліся пражэктары, і мы нарэшце ўбачылі музыкантаў. Цяпер у «Пінк Флойд» тры асноўныя музыканты — Гілмар, Райт і Мэйсан, але на сцэне іх 11 чалавек. Яшчэ адзін гітарыст, яшчэ адзін клавішнік, яшчэ адзін ударнік, саксафаніст, басіст і негрыцянскае трыо вакалістак.

Заканчэнне на стар. 26.

Адам ГЛОБУС

# КРАЯВІД



Эсэ

На першы погляд краявід — гэта нешта вялікае, велічнае і непарушнае, але ўявім, што мы сочым за ім праз акно аўтобуса і раптам у салон трапляе матылёк. Ён, небарака, фуркоча крылцамі па шкле. Маленькі шары матылёк разбурыў велізарны панарамны від, якім яшчэ імгненне таму мы захапляліся. Можна пачаць даводзіць, нібыта пейзаж застаўся, а матылька зараз зловім і выпусцім у фортачку, што аб'ектыўна... Вось на гэтым «аб'ектыўна» спынімся, бо нас цікавіць не той краявід, што існуе незалежна ад чалавека, у дадзеным выпадку ад нас — пасажыраў, а ландшафт, які мы бачым.

Так, з першага прыкладу вынікае, што ўбачыць краявід досыць цяжка, бо ўвесь час нешта ці нехта перакрывае, загароджвае яго. Згадаем хрэстаматыйны прыклад, калі Аляксандр Македонскі спытаў у філосафа Дыягена: «Што я магу зрабіць дзеля цябе?» Той сказаў, каб імператар адышоў, бо засланяе сонца. Аляксандр Македонскі саступіў, вольны філосаф убачыў сонца і... краявід. Здарэнне ўвайшло ў гісторыю, бо з'яўляецца хутчэй выключэннем, чым правілам. У дадзеным выпадку разумнае перамагло дыктат — тыран і заваёўнік, кумір вайскоўцаў ды імперскіх настаўнікаў саступіў. Толькі, пэўна ж, трэба было жыць ў бочцы, каб замест залатых манет папрасіць золата сонца. А ў нашым выпадку ўсё атрымліваецца інакш, але кампазіцыя, як ні дзіўна, застаецца. Нам таксама «засланяюць сонца» розныя куміры, і мы ў большасці сітуацый не прапаноўваем ім сысці, бо так, у ценю, і ўтульней і спакайней. За шырокай спінаю... Як за каменнай сцяною... Як у Хрыста за пазухай... Памятаем. І мы пагаджаемся, скараемся, пазбягаем канфліктаў, прымаем палон як дадзенасць, наканаванасць, неабходнасць. І нават калі ўступаем у бой, дык з мэтаю змяніць аднаго куміра на іншага, адну заслонку на іншую.

Толькі цяпер мы пакінем размову пра іерархію, пра шырокія спіны ды стромкія прыступкі. Уявім, што мы пераадолелі іконна-кумірную хваробу і выйшлі да новае мяжы. Аляксандра Македонскага няма, ён скарыўся і саступіў, але мы не ўбачылі краявіда, бо Дыяген пад час размовы стаяў на ўзбярэжжы, а мы сядзім у кватэры і чытаем, і каб убачыць нават простае неба, неабходна падысці да акна. На гэтым зусім кароткім шляху наш погляд зачэпіцца за дарагія і любімыя рэчы, якія так старанна выбіраліся, набываліся і прыносіліся ў дом, пад свой дах. Кожная рэч — частка капіталу, частка золата, якога не папрасіў філосаф, бо, вядома, не меў дома і кватэры, а здаволіўся бочкаю. А ў бочку шмат не нацягнеш. Вось мы ізноў апынуліся перад загарадкаю такой стракатай, прывабнай, намацальнай. Руку працягнем і... Нам цяжка пералезці праз яе, цяжка адсунуць тое, што з такімі складанасцямі шукалася, набывалася, прыносілася, а потым рупліва прышрубоўвалася, ставілася, вешалася, чаплялася... Мэбля! Лакіраваная. Крый бог драпіна. Кілімы мяккія. Канапы шырокія, фатэлі глыбокія... Колькі такіх, як мы, патанула?! Сталы з абрусамі аксамітнымі. Тэлевізар — штучнае акно. Колькі такіх, як мы, глядзяць менавіта ў яго?! Магнітафон — аднаўляльнік радасці. Паліцы з кнігамі. Але мы звычайна чытаем дзеля задавальнення, а не дзеля разваг. Вось і зіхацяць на цэлафаніраваных карэнчыках слоўцы — «прыгоды» і «фантастыка». Крый божа, даць каму пачытаць! І божа крые нас лакам і цэлафанам, а мы баімося, што знаёмы згубіць фарцовую кнігу. Хай губляе, чорт з ёй.

І ўсё ж нарэшце акно. Неба. Яно — аснова краявіду. А тым, хто не верыць, мы параім практыкаванне. Вазьміце карцінку з фотакраявідам, з якога-небудзь маскультурнага часопіса, і нажніцамі адстрыжыце ад яе неба — экстэр'ер ператорыцца ў інтэр'ер, узнікне адчуванне даху, века па-над галавою.

Аднойчы я заўважыў, што ў горадзе неба плоскае, як жалезны ліст. Асабліва ў ясны сонечны дзень — роўнае, светлае і плоскае. Нават раніцаю і ўвечары, калі сонца ачырвоньвае яго, неба застаецца плоскім. Не выратоўваюць і аблокі з хмарамі, яны выглядаюць дэкаратыўнымі і адасобленымі ад плоскасці неба. Пэўна таму мы і пачуваем сябе нармальна пад плоскаю столлю. Але надыходзіць момант, калі мы свядома і несвядома імкнемся пакінуць кватэру, дом, горад...

Вернемся да акна. Мы стаімо і бачым плоскае неба, якое мае дзіўны край. Зверху і з бакоў яно абмежавана рамаю, а знізу абрэзана нажніцамі архітэктараў — дахі, коміны, карнізы. Рамы нам перашкаджаюць убачыць краявід. Паўстае новая перашкода — архітэктура. Нездарма імператары любілі архітэктуру, і росквіты дойлідства прыпадаюць на часы імперый і абсалютызму. Можна нават скласці парафраз — благі той імператар, які не марыў стаць архітэктарам.

Але з усіх творцаў, больш між іншым трэба спачуваць архітэктарам. Не паважаць, а менавіта спачуваць. Калі музыка, жывапіс, літаратура, кіно існуюць дзякуючы нашай добрай волі, дык архітэктура існуе без уліку нашых жаданняў. Скульптуру з вашага дазволу мы ў гэтым эсэ аднясем да часткі архітэктуры. Цяпер уявім, што мы архітэктары і робім праект, і нарабілі памылак. Без памылак нічога не зробіш. Незаўважныя на праекце памылкі пад час будаўніцтва павялічыліся да пачварных памераў, увасобіліся ў трывалых, ці як кажуць, вечных матэрыялах. Мы бачым іх і нічога не можам выправіць. А калі да ўласных памылак дадаць хібы будаўнікоў?! Жах. Спачуваю, але не апраўдваю, бо архітэктар зрабіў тое акно, праз якое мы цяпер глядзімо на неба, на свет.

Адсунуць у бок архітэктуру будзе значна цяжэй. Ёсць нават спакуслівае словазлучэнне — архітэктурны краявід. Але мы не спакусімся. Давядзецца апрануцца і выйсці з дому, сесці ў аўтобус і паехаць на вакзал, а там — на электрычку. Нарэшце мы за горадам. Мы стаім у полі і глядзім на далягляд, на край зямлі і неба. Вось ён — краявід — край-я-від. Мы бачым наш край.



Фота Алены АДАМЧЫК

Не ведаю, як іншым, а да мяне пачуццё волі прыходзіць толькі тады, калі бачу далягляд. Скажам: «Вольнаму воля». Закрыем вочы (мы ж, вядома, нікуды не паехалі) і скажам: «Вольнаму воля». І мы ўбачым краявід. Не будзем апісваць яго, бо тут занадта суб'ектыўна.

Здаецца, можна і скончыць. Мы ўбачылі краявід і адчулі сябе вольнымі, мы рассунулі загарадкі і выйшлі на прастору, дзе замест плоскага неба над намі светлы купал. Але мы ўсё ж вернемся на вакзал і возьмем новы білет, толькі не на прыгарадную электрычку, а на самалёт. На ракету білетаў не даюць, і таму пра фантастычныя краявіды мы гаварыць не будзем, пакінем гэтую асалоду аматарам цэлафаніраваных вокладак і амерыканскага кітчу. Мы паляцім на марское ўзбярэжжа. Мы там пабачым: чыстую лінію — мяжу паміж небам і морам, шырокую гарызантальную плоскасць, што распасцёрлася прад вачыма. Праваруч — колькі скалаў. Леваруч — пляж. І раптам нешта надзвычайнае ўзнікне перад намі: вертыкальная скала, камень. Ягоная вертыкаль утварае з гарызанталлю просты кут. Вертыкаль дае гарызанталі сэнс. Адно існуе дзякуючы другому. Мы ўбачым ідэальны краявід, пад запаветным святлом нябеснага купала.

Мы зноў у кватэры пад плоскай столлю, за акном плоскае неба. Але мы падыдзем да паліцы з кнігамі, разгорнем адну з іх і прачытаем: «Толькі горад дае духу тое поле дзейнасці, дзе апошні набывае самасвядомасць».



# «Шкада, што цябе з намі не было»

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 23.

Дэвід Гілмар, вядома, цэнтральная фігура «Флойд». Вельмі спакойны, стрыманы, ён амаль не перамяшчаўся па сцэне, займаючы сваё месца ля мікрафона, і ступаў толькі крок-два ўбок, калі яму трэба было пераключыць гітарны сінтэзатар на новае гучанне альбо дадаць што-небудзь ва ўзмацняльніку. Што ж да стылю ігры Гілмара — то гэта асаблівая школа, адзін з трох ці чатырох зусім своеасаблівых і цяпер ужо класічных гітарных метадаў ігры, створаных Джымі Хендрыксам. Хоць на пытанне пра стыль ягонай ігры Гілмар адказаў: «А чорт яго ведае!». «Ці лічыш ты сябе тэхнічным музыкантам!» — Ён усміхнуўся: «Не, ні ў якім выпадку. Мая тэхніка — смяхоцце. Я выпрацаваў стыль, які можна хутчэй ахарактэрызаваць як «поўзанне па грыфе». Для гэтага не патрабуецца асаблівае тэхнікі, я ніколі не быў хуткім гітарыстам. Я не ведаю, як характарызаваць свой стыль. Вельмі важную ролю для мяне іграе мелодыя». Як сцвярджае Гілмар, у ягонай ігры выкарыстоўваюцца блюзавыя матывы і блюзавае гучанне. Гэта ягоны фундамент. «Псіхадэліка плюс блюз — гэта якраз тое, што я раблю»,— кажа ён.

Побач з Гілмарам, у цэнтры групы, другі з астатніх ісцінных «Флойдаў» — ударнік Нік Мэйсан. Ягоная бліскучая «кухня» са здвоенага камплекта чорнага «Людзвіга» стаіць на падлозе. Мэйсан здаваўся нейкім стомленым і знешне абыякавым да ўсяго, што адбывалася наўкол. Для яго гэта просты радавы канцэрт — нічога незвычайнага. Руціна. Усміхнуўся толькі адзін раз — калі ў самым канцы выйшаў з-за барабанаў раскланьвацца перад гледачамі. Усё выступленне сядзеў ні на што не зважаючы, трохі павярнуўшы набок галаву ў навушніках. Стукаў роўна, без збівак і без акцэнтавання моцнае долі. Усе акцэнты, збіўкі і іншыя цуды рабіў за яго другі, малады барабаншчык, які сядзеў за ягонай спінаю. Ён скакаў, выкрыкваў нешта, стукаючы па шматлікіх сольных барабанах, «сегментах», талерках, развешаных на спецыяльным штаціве, і быў поўны энергіі і аптымізму ўвесь канцэрт.

Такія ж нашмат весялейшыя былі і яшчэ двое «новых флойдаў» — бас-гітарыст і саксафаніст. Мне здаецца, што ў такім спалучэнні «статычных» ветэранаў і няспынна «заведзеных» пачаткоўцаў была закладзена адна са сцэнічных ідэй паводзін «Пінк Флойд».

Між тым першая кампазіцыя скончылася, і «Флойд» пачалі «пракатваць» адну за адной песні са свайго апошняга альбома «Мамантальнае вар'яцтва». Велізарны круг, які вісеў за іхняй спінаю, ператварыўся ў экран для паказу футурыстычных відэакліпаў, прычым выява ішла строга сінхронна з музыкаю. У кампазіцыі «Калі ласка ў машыну» на экране з'явілася камп'ютэрная мультыплікацыя ў выглядзе шасціногага механічнага страшыдлы, які павольна напаўзаў на гледача. Гучанне дасягнула нейкае вельмі высокае надрыўнае ноты, прычым музыка прыносіла ледзь не фізічную пакуту. Псіхадэліка, пра якую гаварыў Гілмар, узадзейнічала проста містычна. Нічога падобнага да «Флойд» ніхто ў Саюзе не паказваў.

Канец кампазіцыі. Публіка выказвае бурнае захапленне. Гілмар падыходзіць да мікрафона і кажа па-руску: «Дзень добры, прывітанне! Дзякуй!» Нейкі хлопец зрывае з сябе белую кашулю і кідае на сцэну. Гілмар з гідкасцю бярэ яе двума пальцамі і выносіць са сцэны. Канцэрт працягваецца. У ход ідуць усё новыя і новыя светлавыя, піратэхнічныя і гукавыя эфекты. Кожная кампазіцыя падмацавана пэўным і, як відаць, строга адпрацаваным наборам эфектаў. Лазеры, колькасць якіх проста не паддаецца вылічэнню, пакрываюць залу ва ўсіх накірунках, мяняючы свой колер і форму. «Лётаюць» пражэктары на падвесных кранах. Нарэшце прама на сцэне адчыняюцца квадратныя люкі, і аднекуль «з-пад зямлі» на тэлескапічных штатывах выпаўзаюць уверх платформы, на якіх размяшчаецца яшчэ адна серыя каляровых пражэктараў, якія круцяцца ва ўсе бакі. Усё гэта зіхаціць, мяняецца, крыштальна чыстае і магутнае гучанне працінае залу...

Другое аддзяленне пачынаецца кампазіцыяй з «Жывёл» і з'яўленнем гіганцкае свінні, якая праплывае на ўзроўні 4-га паверха па зале. Гэта выклікае гучныя крыкі. Усё аддзяленне прысвечана «баявікам», уключаючы «Бярэмя», «Так», «Яшчэ адна цагліна ў сцяне», дзе хор у пятнаццаць тысяч гледачоў актыўна падтрымлівае выкананне песні. І, вядома, «Грошы» — тут кантакт музыкантаў з гледачамі набыў новыя адценні. На экране з'явіліся зліткі золата, падалі манеты, рукі лічылі пачкі долараў, гэта і справакавала гледачоў на тое, што яны пачалі кідаць грошы прама на сцэну. Манеты кідалі жменямі, яны зіхацелі ў рознакаляровых агнях, ляцелі ў музыкантаў, якія спачатку былі проста здзіўлены непрадбачаным паваротам канцэрта, а потым паспрабавалі паказаць, што зусім не маюць патрэбы ў матэрыяльнай дапамозе з боку савецкіх гледачоў: Гілмар проста пайшоў ўглыб сцэны, а саксафаніст, якому кінулі «срэбра» прама ў трубу, калі ён выконваў сваё сола, дастаў з кішэні нейкую англійскую драбязу і таксама кінуў у залу ў выглядзе здачы.

Так, з кожным прыездам заходніх груп у СССР спосаб іхняга кантактавання з публікай робіцца ўсё больш дэмакратычны. Пры выступленні «Юрая Хіп» (першымі з суперзорак, якія рызыкнулі прыехаць да нас) іх ахоўваў кардон міліцыі, якая выйшла роўным «жалезабетонным» строем і аддзяліла залу ад групы ў той момант, калі вакаліст «Хіпаў» прапанаваў усім патанцаваць. Якое ж было ягонае здзіўленне, а прыхаваць яго ён і не спрабаваў, калі ўсяго за дзве хвіліны выстраілася шарэнга бравых маскоўскіх міліцыянераў у чорных валёнках і кажухах. Такія адміністратыўныя меры перасцярогі выклікалі здзіўленне і ў лідэра Міка Бокса, які ў сваім інтэрв'ю прэсе адзначыў, што ім асабліва не спадабалася прысутнасць міліцыі.

Выдае на тое, што пажаданні былі ўлічаны, бо ўзмоцненыя нарады міліцыі зніклі і гледачы атрымалі магчымасць кідаць у заезжых суперзорак усё што захочуць. У «Скарпіёнз» кідалі запаленымі бенгальскімі агнямі і прапалілі пластык барабана. У Інгві Мальстыма кінулі пустую бутэльку з-пад напоя, трапіўшы, на ягонае шчасце, не ў адну з васьмі каштоўных гітар, а ў яго самога. Ён казаў пра гэта ў інтэрв'ю Ленінградскаму ТБ. На пытанне: «А ў вас там таксама кідаюць у музыкантаў бутэлькамі з-пад «Бураціна»!» — вельмі эмацыянальна адказаў: «Ну што вы! Ноў, ноў, ноў!»

І вось у «Пінк Флойд» ужо пачалі кідаць грошы. Магчыма, узняўся ўзровень жыцця народа! Было б няблага ўвесці падобную практыку на ўсіх канцэртах нашых рок-клубаў, якія маюць патрэбу ў фінансавых сродках трохі болей...

Канцэрт уступіў у фінальную стадыю. Над сцэнаю закруціўся гіганцкі шар з храміраванага металу. Промні лазераў, адбіваючыся ад ягонае паверхні, зіхацяць, асляпляючы сваім бляскам. Трохмятровы шар праплывае над сцэнаю злева направа, накіроўваючыся ў цэнтр белага круга, дзе ён раскрываецца пялёсткамі, як гіганцкая металічная кветка. У сярэдзіне яго яшчэ адзін шар, меншы памерам, ён зіхаціць чырвонымі агнямі. Гэтае відовішча — яшчэ адзін цуд інжынернае думкі з арсеналу «Пінк Флойд». Ну, здаецца, усё! Усе цуды паказаны, праграма падышла да канца. Музыканты раскланьваюцца, пакідаюць сцэну. Гледачы апладзіруюць. Праходзіць пяць, восем, можа, дзесяць хвілін — натоўп ля сцэны не разыходзіцца. І раптам група зноў з'яўляецца на сцэне. Гэта добра адпрацаваны трук — чаканне гледачоў змяняецца захапленнем, фаны кідаюцца да сцэны — і тут іх сустракаюць апошнія цуды, якія «Флойд» пакінулі пад самы канец: серыя выбухаў на сцэне, два гіганцкія феерверкі па баках — фантаны агню метраў на дзесяць у вышыню і, нарэшце тое, што ўсе прынялі за чорныя дэкаратыўныя шчыты, якія маскіравалі край сцэны. А гэта апынулася раптам радамі магутных квадратных пражэктараў, якія ўдарылі вогненнымі слупамі ўверх і літаральна адкінулі ўсіх, хто ірваўся да сцэны, метраў на пяць назад. «Пінк Флойд» сыгралі яшчэ тры песні.

Будзем спадзявацца, што ў будучыні нам пашчасціць яшчэ на адну сустрэчу з «Пінк Флойд», а пакуль я магу сказаць кожнаму, хто не трапіў на гэты канцэрт, толькі адно: «ШКАДА, ШТО ЦЯБЕ З НАМІ НЕ БЫЛО!»





## ТРОЙДЗЕН

Віктар ЧАРОПКА

# З пакалення рускага



Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА

Вядома, што гаспадары Вялікага княства Літоўскага, Гедымінавічы, у традыцыях сярэдневяковай генеалогіі выводзілі свой род ад рымскіх арыстакратаў, таму асабліва і не былі зацікаўлены ўдакладняць сапраўднае паходжанне сваіх продкаў. І ўсё ж ёсць доказы іх беларускага паходжання. «Хроніка Быхаўца» перадае словы былога вялікага князя літоўскага, караля польскага Ягайлы, які звяртаецца да свайго стрыечнага брата Вітаўта з просьбай, каб той дапамог яму пасватаць Соф'ю Гальшанскую. «А цяпер прашу цябе, высватай мне ў жонкі ў князя Сямёна малодшую пляменніцу Соф'ю, яна з пакалення рускага». І гэта сказана пра Гальшанскіх, якія, паводле летапісаў, вялі свой род ад вялікіх князёў Літвы Кітаўрасаў (дарэчы, менавіта ў заходнерускім фальклоры знаходзім вобраз Кітаўраса).

Да роду Кітаўрасаў, паводле беларуска-літоўскіх летапісаў, належаў і герой нашага нарыса Тройдзен. На ягонае славянскае паходжанне ўказваюць імёны братоў Борзы, Лесія (як не нагадаць, што гэта распаўсюджанае беларускае імя Лесь, Алесь), Серпуція, Свелкенія.

Мне запярэчаць: нельга па імёнах вызначаць этнічную прыналежнасць іх уладальнікаў. Можна і пагадзіцца, хаця калі б тыя вялікія князі былі балтамі, дык, пэўна, і размаўлялі б па-жмойцку або аўкштайцку і не называлі б сваіх сыноў імёнамі з чужой мовы, а тым болей не ўзводзілі яе ў ранг дзяржаўнай не толькі на славянскіх землях, але і на балцкіх.

А вось яшчэ адно цікавае паведамленне літоўска-беларускіх летапісаў, на якое даследчыкі не звярталі ўвагі. Татарскі хан Балакай патрабуе даніну ад міфічнага наваградскага князя Скірмунта Мінгайлавіча, нашчадка Палямонавічаў, якія былі, паводле летапісаў, валадарамі старажытнай Літвы. Хан патрабуе даніну на той падставе, што атрымліваў яе «за предков его, князей русских». Безумоўна, гэты запіс не мог з'явіцца ў летапісах выпадкова. Летапісцы добра ведалі, ад каго вялі свой род вялікія князі літоўскія.

Магло быць, што менавіта ў асяроддзі літоўскай феадальнай вярхушкі славянскага паходжання і шукала наваградскае баярства сабе князёў. Спачатку іх выбар спыніўся на Міндоўгу, які або залежаў ад наваградскага князя Ізяслава, або ў якасці найміта разам са сваёй дружынай служыў яму (на што якраз і ўказвае Іпатаўскі летапіс: «Даниил возведе на Кондрата Литву Миндовга Изяслава Новгородьского»). Калі ж Міндоўг не спраўдзіў надзеі наваградскіх феадалаў, яны пасадзілі на пасад Войшалка, а пасля ягонай смерці выбралі зноў-такі славяніна Тройдзена. Пасля наваградцы, працягваючы традыцыю, прывялі да ўлады яшчэ аднаго прадстаўніка крывіцка-дрыгавіцкага роду з Літвы — Лютавера. Паводле хронікі Дусбурга, ён быў бацькам вялікіх князёў літоўскіх Віценя і Гедыміна, вялікага князя полацкага Воіна і князя Фёдара (зноў звяртаю ўвагу на славянскія імёны як самога Лютавера, гэтак і яго сыноў).

Зразумела, маё выказванне аб славянскім паходжанні вялікіх князёў літоўскіх яшчэ не вырашае гэтае заблытанае пытанне. Аднак ёсць падстава для дыскусіі, у ходзе якой калі і не адкрыецца ісціна, дык затое, можа, будзе зроблены крок для высвятлення адной з таямніц нашай гісторыі. Хоць і не так гэта важна, якая кроў цякла ў жылах вялікіх князёў. Істотна іншае: чаму і каму служылі яны. А служылі яны продкам беларускага і літоўскага народаў. Свой талент палітыкаў, ваяводаў, дыпламатаў, сваё жыццё аддавалі яны барацьбе за незалежнасць двух братніх народаў ад крыжакоў і татара-манголаў. Таму імёны Міндоўга, Тройдзена,

Валянцін
**АКУДОВІЧ**



# ПОКАЗКІ

## ДЖАМАЛУНГМА

На пачатак я раскажу вам пра чалавека, які хацеў стаць Джамалунгмай. Вось каб я быў Джамалунгмай,— разважаў гэты чалавек,— то мяне ведалі б нават пінгвіны.

Зразумела, калі чалавек чаго захоча і будзе хацець доўга, то яго жаданне споўніцца. Аб гэтым гавораць яшчэ ў школе, а ў школе абы-чаго гаварыць не будуць...

Урэшце так яно і атрымалася. Аднойчы раніцай у полі за вёскай мы ўбачылі нешта такое, ад чаго капелюшы паляцелі з галоў.

Як потым казалі вучоныя, гэтая гара была нават на некалькі сантыметраў вышэйшая за Джамалунгму і пра Джамалунгму хутка ўсе забыліся, бо яна ўжо не была найвялікшай гарой.

Цяпер самыя дужыя мужчыны з усяго свету, і нават сёй-той з пінгвінаў, ехалі да нас, каб выпрабаваць сваю мужнасць на стромкіх схілах найвялікшай гары. Не многім з іх шанцавала зраўняцца з вяршыняй, аднак былі і шчаслíўчыкі. Пра іх назаўтра пісалі ў газетах, і той чалавек, што стаў гарой, злаваўся на газеты і зайздросціў ужо не Джамалунгме, а гэтым людзям і нават, часам, неразумным пінгвінам.

Але пра чалавека, які стаў гарой, я хацеў расказаць зусім з іншай нагоды... Няма чаго і казаць, як нам прыемна, што зараз пра нашу вёску ведаюць ва ўсім свеце... Так, гэта вельмі прыемна, толькі нашыя рукі цяпер заняты не працай, а капелюшамі, бо мы ніяк не можам прызвычаіцца да гары і кожную хвіліну задзіраем галовы...

## КАХАННЕ

Мы і жагнуцца не паспелі, а Богусь ужо сядзеў на чарапічным даху касцёла. Аднак гэтага яму падалося мала і ён усцягнуўся на самы крыж, дзе і ўладкаваўся сяк-так.

Першы анёл, які вяртаўся, мяркуючы па яго стомленых руках, аднекуль здалёк, толькі прабурчаў незадаволена: «Што, іншага месца не знайшлося?». А другі анёл, яшчэ зусім маладзенькі, так і аслупянеў, убачыўшы Богуся. Анёл стаяў слупам у паветры і лыпаў вачыма.

— Гэй, ты, лупавокі,— закамандаваў Богусь,— злётай у вёску па Маню.

Маня хутка прыйшла і, нічога не пытаючыся, залапатала, як сячкарня:

— Дурны ты, Богусь! Каб меней піў гарэлкі, а болей чытаў кніжак, дык ведаў бы, што першае каханне існуе не для таго, каб закаханыя бралі шлюб, а для таго, каб потым усё жыццё з замілаваннем успамінаць тыя шчаслівыя хвіліны.

— Хай сабе,— толькі й адказаў Богусь.

— Ну, калі ты такі дурны, дык і сядзі сабе тут, як варона,— раззлавалася Маня і пабегла дахаты, адкуль хутка з'ехала вучыцца ў горад. Але замуж яна так ніколі і не выйшла, бо ў яе, выявілася, былі надта валасатыя ногі, а на той час якраз надышла мода на міні. Калі мода скончылася, Маня была ўжо старая дзеўка і ёй больш нічога не заставалася, як усё жыццё з замілаваннем успамінаць пра сваё першае каханне. А Богусь так і не злез з крыжа. Так і тырчыць там ці то як распнуты, ці то як варона, і мы ўсе — і анёлы, і людзі — даўно ўжо да яго прывыклі. Бо калі гэта было — тая мода міні.

## ТАМ, ДЗЕ НЕБА СЫХОДЗІЦЦА З ЗЯМЛЁЙ

Там, дзе неба сыходзіцца з зямлёй, жылі маленькія мужчыны і яшчэ меншыя ад іх жанчыны. Вядома, пад нізкім небам і дрэвы і людзі не могуць вырасці высокімі. Праўда, у дробязях гэтыя людзі нічым не адрозніваліся ад нас, хіба што на пісьме не мелі вялікіх літар. І помнікаў у іх не было, бо помнікі, як вы разумееце, ставяць адно вялікім...

Як я ўжо казаў, жылі яны чорт ведама дзе, але бабы з нашай вёскі адвеку ездзілі да іх па голкі, а мужыкі — каб падзівіцца. Раней ездзілі коньмі, а потым, як паклалі калейку, на цягніку. Што-што, а голкі ў іх атрымліваліся файныя. Далібог, ва ўсім свеце нітхо не рабіў лепшых. Больш спрытная баба такой голкай магла з плётак спадніцу выштукаваць. Толькі ўсё гэта ў мінулым...

Аднойчы апынуўся ў тых мясцінах надта вучоны чалавек.

— Апамятайцеся, людзі — накінуўся ён,— зямля круглая і неба аднолькава высокае ўсюды.

— Калі яно аднолькава высокае, то чаму мы маленькія?! — упікнулі яго.

— Няма маленькіх людзей, ёсць дурныя і разумныя,— растлумачыў ён.

— На ўсё боская воля,— напомнілі яны.

Але не быў бы то вучоны. Хадзіў ён там, хадзіў і неяк пераканаў іх, і яны пагадзіліся, што зямля круглая, а неба аднолькава высокае ўсюды...

І тады гэтыя людзі кінулі рабіць голкі і, каб замацаваць сваю веліч, звялі ўсё жалеза на помнік таму надта вучонаму чалавеку.

Выдатны атрымаўся помнік. Па-сапраўднаму вялікі і дакладны ў апошняй дробязі. Шкада толькі, што ён і да гэтага часу марнуецца ля кузні, бо няма каму ўсцягнуць на пастамент. Вядома, якія там людзі пад нізкім небам, адно што прызываюцца людзьмі...

От жа і лаюць нашы бабы таго надта вучонага чалавека, от жа і лаюць.

## НА ТЫМ І ГЭТЫМ СВЕЦЕ

Не ведаю як зараз, але яшчэ за панамі наша аддзяленне пекла знаходзілася якраз паміж польскім і расейскім. Аб гэтым нам паведаміў кульгавы Яўхім, які трапіў туды не ў тэрмін, па нейкай там бюракратычнай памылцы, і быў адпушчаны дахаты чакаць свайго часу.

З нашай вёскі шмат хто дзе бадзяўся, але калі мы сышліся ў Яўхіма, дык нават вядомы пляткар Здзенек зашпіліў свой язык на ўсе гузікі. Зрэшты, гэта і зразумела. Багата цікавых падзей робіцца на гэтым свеце, ды што гэтага свету — кропка, а ўсё астатняе там, і ты туды ідзеш назаўсёды.

— Там, на нашай дзялянцы — ціха,— пачаў Яўхім.— Я нават падумаў, што наблытаў. Навакол усё гудзе, стогне, енчыць, а ў нас хіба што вохкне нехта — і зноў ціхамень. Я тады ўбок, дзе нейкі хударлявы панок кракавяк на чырвонай патэльні скача. Убачыў ён мяне і крычыць: «Прошам пана, прошам пана». Зразумеў я, што, здаецца, не туды трапіў, але панок прычапіўся, нават скакаць перастаў. Куды, кажа, пан пойдзе, дзе лепшай долі знойдзе? І абслуга тут далікатная, і патэльні ці не парыжскага вырабу; да таго ж іх не якім там алеем ці лоем змазваюць, а самым натуральным маслам... А хай пан пагля́дзіць, што ў вас робіцца,— ківае ён туды, дзе ціха,— абслуга — не абслуга, быдла нейкае рагатае; увесь час адно крэкча і рыкае. А ўмовы, што за ўмовы: у гной па самую патыліцу загоняць і па галовах капытамі скачуць. У мяне хоць і прыпякае часам, аднак як пусцішся ў скокі, дык нават і надта весела.

Толькі я падумаў, што, можа, і сапраўды гэты далікатны панок мае рацыю — усё жыццё быў я мужыком, з гною не вылазіў, дай хоць тут панам пабуду...

Толькі я гэта падумаў, як па другі бок ад нашай дзелянкі нехта крычыць:

— Ты куды, свінячае рыла?! Ці ж не бачыш, што ў яго і аднаму на патэльні месца не хапае? А ў мяне глядзі якí абсяг і глыбіня: што мора.

Азірнуўся я, а там у сажалцы з пульхаючай смалой вусаты генерал плавае, але пры гэтым у яго яшчэ неяк і шабляй атрымліваецца махаць...

Тут Яўхім змоўк, а мы распачалі сварку. Лаянка, лямант — енк такі стаяў, што, мабыць, у пекле цішэй. Адзін крычыць: і думаць няма чаго, трэба згаджацца на патэльню; другі кулакамі, як вятрак, махае і даводзіць, што паколькі сажалка неабсяжная, то ў ёй заўсёды можна знайсці месца, дзе не так пячэ; трэці...

Ды што казаць, хіба ўсё за адным разам перакажаш?

Стаміўшыся ад сваркі, мы прычапіліся да Яўхіма.

— А хто яго, хлопцы, ведае? Што ні кажы, да гною мы з маленства прывычныя, а як яно ў іншым месцы будзе — наперад ці ўгадаеш?

Яно так, наперад у такой цьмянай справе не вельмі ўгадаеш. Толькі і да Яўхіма даверу няма. Яго і за гаспадара нітхо ніколі не лічыў. Споўдаўся ўсё жыццё па падворку, абы дзень да вечара. Ат, што тут казаць, калі нават на той свет чалавек не справіўся ў свой тэрмін трапіць. Хіба з сапраўдным гаспадаром такое магло здарыцца?

## АРГУМЕНТ

Адзін з нас ведаў аргумент, а ўсе астатнія ішлі туды, куды дзьме вецер.

Сёння вецер быў з аднаго боку, заўтра з іншага, і рана ці позна мы зноў вярталіся туды, дзе на невялічкай выспе за вёскай сядзеў той, што ведаў аргумент.

— Куды гэта вы, хлопцы? — шкадуючы, пытаўся ён і пазяхаў так, што нават дурны разумеў: гэты чалавек ведае аргумент, і яму няма патрэбы куды б там ні было ісці і недзе нешта шукаць.

Звычайна яму не адказвалі, толькі хіба найбольш стомлены абразліва буркне:

— А табе што за справа, абібок?!

І мы шлі далей, хоць сёй-той, употайкі ад іншых, доўга азіраўся туды, дзе пад хваіняй сядзеў гэты з аргументам і сачыў за дымам над камінамі. І неаднойчы сяму-таму карцела запытацца, чаму ён сядзіць, калі ўсе мы ходзім? Але запытацца пра такое неяк не выпадала, бо калі адзін пытаецца ва ўсіх — гэта зразумела, але

хіба ўсе пытаюцца ў аднаго?

І мы йшлі далей і мелі вялікі гонар за сваю справу, сэнс якой быў у няспынным руху. І калі што нас палохала, дык гэта не стома, пабітыя ногі ці смага, а спакой. Раптам вецер сціхаў і мы спыняліся, як бы спаткнуўшыся, бо мы ішлі туды, куды дзьме вецер, а іншага кірунку ў нас не было.

Што ў такія хвіліны рабілася — цяжка расказаць, ды, дзякаваць богу, усялякі раз вецер падымаўся ізноў, а разам з ім падымаліся і мы, каб ісці далей.

Так здарылася, так аднойчы павінна было здарыцца, што вецер суняўся якраз тады, калі мы праходзілі паўз выспу, на якой сядзеў той, з аргументам. Упершыню мы не енчылі, не камячылі апратку, не кусалі сябе за локці. Упершыню наша змучаная сціжма затаіла жах, бо на нас, шкадуючы, паглядаў гэты лайдак і абібок. Але на гэты раз, напэўна, ад збянтэжанасці, мы не вытрывалі і запыталіся ў яго, які такі важкі аргумент ён мае пры сабе, што не баіцца сядзець на адным месцы, калі ўсе астатнія спыняюцца толькі тады, як спыніцца вецер?

— Колькі б вы ні хадзілі, хлопцы, і там, куды вы прыйдзіце, у вас пад нагамі будзе зямля, над галавой — неба, а дармаед з пугай — на карку,— так адказаў ён. І паўтарыў:— Усюды.

Толькі не многія з нас пачулі яго словы, бо ў гэтую хвіліну з поўначы данёсся подых ветру і мы ўсхапіліся...

Мы ўсхапіліся і з'едліва паглядаючы гэтаму абібоку ў твар, пайшлі паўз выспу туды, куды гнаў нас вецер.

## АПОШНЯЯ СПОВЕДЗЬ ІНКВІЗІТАРА

Бог даў чалавеку ўсё, што яму трэба. Звера ў лесе, рыбу ў рэчцы, збожжа ў полі, агонь, жонку і дзіця ў хаце. І калі б бог лічыў, што чалавеку патрэбны крылы — ён даў бы яму крылы. І кісельныя берагі, і малочныя рэкі.

Вось чаму як толькі нехта хацеў удасканаліць альбо перарабіць на лепшы заведзены богам парадак, мы раскладвалі вогнішча на выгане за вёскай і клікалі кáта...

Гэты хлопец яшчэ бегаў у кашулі, а я ўжо казаў, што будзе дзень — і мы спалім яго на выгане за вёскай. І аднойчы сэрца маё залямантавала: гэта страшней за буру, страшней за перуна і боскую кару.

Я паклікаў кáта, укленчыў перад людзьмі і пасыпаў галаву попелам — аднак мяне не паслухаліся.

— Чаму цябе палохае забаўка, якую падлетак выштукаваў з паваленага дрэва? Кажы! — пыталіся з усіх бакоў.

Я з усіх сіл намагаўся перакласці лямант сэрца на разумныя словы, але ў мяне нічога не атрымалася. Я ж таксама не ведаў, якая пагроза хаваецца ў пляскатай бязглуздзіцы, што так шпарка коціцца ўніз па сцежцы, смешна падскокваючы на выбоінах.

Людзі паволі разышліся, а кола падхапілі дзеці і доўга забаўляліся, пакуль яно не выкацілася за вёску.

Першы раз кола вярнулася возам, адкуль цёмнаскуры гандляр выцягнуў сякеры і ланцугі.

Другі — карэтай з чалавекам, які сказаў, што ад гэтага дня і да скону мы ягоныя халопы.

Трэці — цягнікам, куды паселі лепшыя з нашых хлопцаў.

Чацвёрты...

Чацвёртага разу не было.

Толькі самалёты праляцелі над намі — і ў чэраве тых самалётаў сядзелі лепшыя з нашых хлопцаў. Мы яшчэ махалі ім рукамі, а ў небе далёка на захадзе і далёка на ўсходзе, далёка на поўначы і далёка на поўдні ўжо выраслі паганыя грыбы.

І мы ўсе памерлі.

І калі мы ўсе паміралі на ахутанай гарачым попелам зямлі, дзе зусім нядаўна было столькі вады, людзей і вёснаў, я успомніў, што гэты пякельны агонь пачаўся з таго нераскладзенага вогнішча на выгане за нашай вёскай.



Афармленне Язэпа ЗАМОРСКАГА





Геральд КІСЯЛЁЎ

# «Мы з табою, салдат!»

Стракатая чарга ў вінна-гарэлачны аддзел. Людзі з зайздроснай цярплівасцю пераступаюць пад дробнай імжою з нагі на нагу, гультаявата перакідваюцца слоўцам-другім, угледаюцца ўперад, у расчынены праём дзвярэй, дзе чырвонатварая ад холаду прадаўшчыца жвава адгаворвае прагных аматараў шматградуснага допінгу.

— Канчаецца! — па змеепадобнай чарзе вестка прабягае глытальнай сутаргаю, распальваючы немудрагелістыя алкагольныя страсці.

Там, ля дзвярэй, ужо і не чарга зусім, а базарная сумятня. Забываючы пра чалавечую годнасць і прыстойнасць, людзі кідаюцца на штурм запаветнае цытадэлі.

— Прапусціце інваліда! — загарлалі два-тры мужчыны, укліньваючы некага ўперадзе сябе ў гэты калаўрот ля прылаўка і спрытна працуючы локцямі. Той, каго яны рухаюць,— у моднай чорнай куртачцы з сінтэтыкі і імпартных джынсах. Са спіны чалавек як чалавек.

— Ведаем мы гэтых інвалідаў! — лямантуе дробненькі мужчына ў насунутай на вочы кепцы.— Ён такі інвалід, што галава з пахмелля баліць...

Яго падтрымліваюць:

— У яго на лобе не напісана, што ён інвалід! Няхай дакументы пакажа!

— Ды ты што, дзядзька, Ігарка не ведаеш? — абрывае яго самавіты грамадзянін з чаргі.

— Ах, вам дакумент! — выбухае той, у чорнай куртцы, і азіраецца. Чарга змаўкае. На твары ў хлопца там, дзе ва ўсіх вочы,— упадзіны, прыкрытыя запалымі павекамі. Відовішча не для слабанервовых.

— Праходзь, гаротненькі! — шкадуе яго нейкая спагадлівая цётка,— хіба ж мы не людзі, не разумеем?

Расступаюцца і паперадзе хлопца. Ён нібыта па вуліцы прасоўваецца да прылаўка. Прадаўшчыца ўжо ведае яго:

— Табе якой, Ігарочак?

— Мне пару беленькіх, Лілечка!

І вось хлопцавы кішэні ўжо адтапыраныя. Шырока ўсміхаючыся, ён выціскваецца з чаргі, дзе трое ўдзячных выпівак прымаюць яго ледзь не ў абдымкі, па-сяброўску ляпаюць па спіне, перакладваюць змесціва з ягоных кішэняў у свае.

— Ну дзякуй, Ігарок! Без цябе б капцы! Ну, землякі, куды пойдзем?

— А давайце да мяне! — паблажліва прымае іхнія ўхвалы хлопец у чорнай куртачцы.— Жонка яшчэ на працы, да чатырох пасядзець паспеем.

— А што? — згаджаецца тройка.— На вуліцах цяпер мільтоны шныпарыць, засекчы могуць, дый холадна...

Некалькі разоў бачыў я на вуліцах нашага раённага гарадка гэтага хлопца са спустошаным тварам у кампаніях людзей, і маладых, і пажылых,

але аднолькава неяк нясвежых і памятых, якія заўсёды таропка ідуць у вядомых напрамках, аднак не ведаў, хто ён такі. А вось нецвярозым не бачыў ніколі, выдумляць не буду. Ці то ён сам хаваўся ў такім стане ад людзей, ці то хлопцы сябры-прыяцелі бераглі яго ад непрыемнасцей.

А аднойчы рэзанула слых, драпанула сэрца — «афганец».

Я патэлефанаваў яму, каб дамовіцца аб сустрэчы.

— Калі ласка, прыходзьце ў любы час! Я заўсёды дома!

— Але, можа, вы чымсьці занятыя, я не хацеў бы замінаць...

— Ды не! Я заўсёды вольны, цяпер вось тэлевізар гляджу.

Падумалася, што я памыліўся нумарам.

І вось у дамоўлены час я ўваходжу ў пад'езд дзевяціпавярхоўкі, дзе гарсавет выдзеліў яму на першым паверсе двухпакаёвую кватэру. Мне не прыйшлося націскаць на кнопку званка. Дзверы расчыненыя, у іх корпаюцца двое хлопцаў, не зразумееш, хто з іх — ён.

Адзін хлопец выпростваецца. На выгляд дужы, плячысты, ва ўсё той жа моднай курткачцы, відаць, толькі з вуліцы, зычлівым жэстам правае рукі запрашае ў пакой. Па дарозе тлумачыць:

— На пяць хвілін выйшаў, у краму хадзіў, а назад трапіць не магу, ключ у замку заела. Добра, Андрэй дапамог, сусед. У фортку пралез, потым — я за ім, разам замок знутры раскалупалі.

У пакоі ён сядае за часопісны столік спіной да акна. Кідае на стол пачак «Гродно», прысоўвае да мяне кансервавую бляшанку, напалову забітую акуркамі.

— Курыце!

Сам шчоўкае запальнічкаю, ловіць полымем кончык заціснутай у вуснах цыгарэты. Полымя дрыжыць так блізка ад ягонага твару, што здаецца, зараз апаліць яму бровы. Нарэшце полымя і цыгарэта сустракаюцца, і ён з палёгкаю зацягваецца.

Пакутліва пачынаецца размова. Нібыта перада мною — вузенькае бярвенца на ашаламляльнай вышыні, і неадменна трэба па ім прайсціся. Трэба за нешта ўхапіцца на пачатак.

— О, колькі ў вас кніг!

У мэблевай «сценцы» імпартнай вытворчасці, апроч традыцыйных сервізаў і куфляў, шчыльны рад кніг. Прабягаю позіркам па карашках: Шукшын, Салаухін, Джэк Лондан, Франсуаза Саган, прычым усе шматтомнікі. Пазайздросціў — у мяне такіх кніг няма. Першае маё бестактоўнае пытанне:

— Хто ж у вас чытае?

— Я чытаю.

— Не разумею...

— Жонка мне ўголас чытае.

— А-а-а...

— Чуеш, Ігар, я гэты замок выкідваю! Я табе з двух замкоў адзін зраблю! — Сусед зазірае ў пакой, высокі, стройны хлопец, з-пад каўняра кашулі відаць цяльняшку. Напэўна — Ігараў падарунак. Дзе б яшчэ жыхар нашага гарадка мог атрымаць гэтую неадменную дэталь экіпіроўкі дэсантнікаў?

— Рабі як лепш! — адгукаецца мой суразмоўца.

Пяць гадоў таму назад ён сам бы справіўся з замком. Тады ў яго былі вочы і рукі. А цяпер адной трохпальцай рукою навобмацак многага не наробіш. Цяжка бачыць, як звісае з локця левае рукі пусты рукаў. Цяжка глядзець у твар, які не адказвае позіркам.

Цяпер ягонымі рукамі сталі рукі суседскіх хлопцаў. Яны прыбягаюць самі, пасля школы ці заводскай змены: Андрэй, Саша, Казік, Яўген. І клікаць не трэба.

— У мяне ўвесь горад у сябрах,— усміхаецца Ігар.— Да арміі столькі не было. Варта адно ў горад выйсці, толькі чуеш: салют ды прывітанне! І не толькі хлопцы мяне так сустракаюць, ёсць сябры і старэйшыя. Вось у маім доме двое такіх, вялікія знаўцы футбола. Я без іх ніводнага матча не гляджу!

Зноў ён вымавіў гэтае слова — **«гляджу»**. Немагчыма ўстрымацца ад другога нетактоўнага пытання. Падумалася: пра што б я ні пытаўся ў гэтага чалавека, якую б бяскрыўдную форму ні стараўся знайсці для пытання — ўсё будзе нетактоўным.

— Вы глядзіце тэлевізар?

І тут здалося, што ён зірнуў мне ўважліва ў самыя вочы.

— Гляджу, але, вядома, не так, як вы. Люблю глядзець кіно, праграму «Час», нават у кінатэатр з жонкай хаджу...

Не адразу да мяне дайшло, што ён не проста ўпарціцца ў нязбытным, выдаючы жаданае за сапраўднае, але і на самай справе бачыць, выклікаючы з запаснікаў свядомасці тыя жывыя вобразы і карціны, якія назбірала яму памяць у дзяцінстве і кароткім, як успышка маланкі, юнацтве. Да таго страшнага дня 2 студзеня 1982 года, дакладней, да тае ракавое ночы, з другога на трэцяе.

...Яна апусцілася на горы, нібыта чорная чадра, схаваўшы ў непраглядная цемрадзі насцярожана маўклівыя адхоны і камяні, гулкія калідоры цяснін з хуткімі, як яшчаркі, рэчкамі, прыдарожныя кішлакі. І нават зоркі, што зіхацелі нібыта алмазы, не маглі саўладаць з цемраю.

Аддзяленне нашых дэсантнікаў на трох бронетранспарцёрах выехала з размяшчэння роты ў батальён. Напярэдадні, у другую навагоднюю ноч, была праведзена паспяховая аперацыя па ліквідацыі душманскае банды. Настрой у хлопцаў быў выдатны.

Ігар вёў другі БТР, стараючыся трымаць зададзены інтэрвал з машынаю, што ехала наперадзе. Пад коламі адступала назад шырокая паласа галоўнае афганскае трасы, якую нашы хлопцы трапна назвалі па аналогіі са знакамітым зімнікам па лёдзе Ладажскага возера — «дарогаю жыцця».

Уперадзе быў паварот, дзе дарога з правага боку агінала гару. Злева ад дарогі — паўразбураны бязлюдны кішлак. Каварнае месца. Менавіта тут у сакавіку 1981 года на душманскіх мінах падарваліся дзве нашы машыны з толам. Ад хлопцаў і машын не засталося нічога, апроч дзвюх велізарных варонак. Дарожнікі засыпалі іх друзам. Але сотні машын пасля праехалі па ім, прыкаталі, утрамбавалі — і засталіся ўсё-такі дзве ямкі, метраў за пятнаццаць адна ад адной.

Здвоеныя фары абмацвалі дарогу, вежавы пражэктар вырываў з цемнаты далёка наперадзе плямы і абрысы гліняных хатак пакінутага людзьмі кішлака. Наводзіў яго кулямётчык Сатвалдыеў. У глядзельную адтуліну Ігар бачыў, як мякка, на тармазах, скаціўся ў першую ямку першы бронетранспарцёр. Ззаду Ігара на камандзірскім сядзенні драмаў прапаршчык Салаўёў.

Ігар падрыхтаваўся паўтарыць манёўры першае машыны. І тут, быццам нехта ўдарыў па галаве, нешта пырснула ў вочы ад шчытка прыбораў. Кабіну зацягнула дымам, патыхнула гарэлым. Нейкае імгненне Ігар сядзеў за рычагамі ў шокавым стане. Глуха, як скрозь сценку, пачуў спалоханы голас Сатвалдыева:

— Мама, я паміраю...

Потым — стогн Салаўёва. Калі ачуўся, зразумеў, што жывы. Выбраўся цераз люк з машыны, развернутай душманскай процітанкавай мінаю. Паветра секлі кулямётныя чэргі. Усведамленне небяспекі кінула яго пад колы свайго бронетранспарцёра. Хоць нейкае прыкрыццё. Абмацаў твар, зразумеў: правага вока больш няма. Азірнуўся. Побач, таксама пад коламі, стогне Салаўёў, заліты крывёю, непрытомны. Гараць і суседнія машыны. Што там з хлопцамі?

Ад трэцяе машыны нехта бег. Гэта быў знаёмы хлопец з іхняга батальёна.

— Хлопцы, вы жывыя? З нашых адзін я застаўся.

Ён разарваў медпакет і перабінтаваў Ігару галаву і левую руку. Нахіліўся над Салаўёвым, той ужо памёр.

— Пабягу да першага, а раптам там хто-небудзь жывы! — хлопец вынырнуў з-пад машыны, і ноч, раскрэсленая трасіруючымі кулямі, праглынула яго. Мільгануў ягоны цень ля палаючай машыны. Ігар бачыў, як ён раптам спатыкнуўся і асеў на дарогу. Гэта было апошняе, што ён памятаў.

Ачуўся ён дні праз два. Белая столь, справа цемра. Павярнуў галаву — рад нікеліраваных ложкаў, засланых белым, перабінтаваныя галовы, вокны — у белых фіранках. Яму сказалі, што жывым ён застаўся адзін з тых адзінаццаці, хто трапіў у душманскую засаду. Але нехта ўсё ж такі паспеў выклікаць па рацыі падмацаванне.

Ігар бачыў левым вокам яшчэ два тыдні. Але ўжо ў Ташкенцкім шпіталі яго нагнала тая непраглядная афганская ноч, ён цалкам страціў зрок, калі хірург выцягнуў асколак гранаты з левага вока. А праз некалькі дзён прыйшлося згадзіцца і на ампутацыю левае рукі.

Мы з вамі, як ні будзем старацца, не зможам спасцігнуць тую бездань, у якую лёс кінуў чалавека, нехалі здаровага і жыццярадаснага. Паспрабуйце хаця б дзень праходзіць з завязанымі вачыма, зашнураваць адной рукою чаравік! Усё гэта будзе толькі слабым ценем таго, што стала жорсткай праўдаю для Ігара.

Ён не адразу знайшоў у сабе сілу напісаць гэтую праўду маці з бацькам. Дакладней, папрасіў гэта зрабіць суседа па палаце. І атрымаў доўгачаканае:

— Сынок, родны, мы чакаем цябе...

Наперадзе ў Ігара было доўгае лячэнне ў розных шпіталях, і ўсюды знаходзіліся людзі, якія не шкадавалі часу і душы, каб удыхнуць у знявечанага хлопца веру ў жыццё.

Дактары і медсёстры, нянечкі і суседзі па палаце, сябры і саслужыўцы — дзесяткі людзей, імёны якіх ён ужо і забыўся, аддавалі яму сваю дабрыню і ўнушалі: жывы, хлопец, жыццё — гэта вялікі цуд, не ўсё яшчэ страчана, і, калі ты моцна захочаш, знойдзеш сваё месца ў жыцці, а можа, асабістае шчасце.

І сустрэўся яму чалавек, які адсунуў на другі план і радню, і сяброў. Чалавек па імені Алена. Не, яны не сябравалі да арміі, проста, як кажуць, былі шапачныя знаёмыя, сустракаючыся на вуліцы, здароўкаліся. Гэтая блакітнавокая, паўнаватая дзяўчына чымсьці падабалася Ігару, але яна не ўваходзіла ў кола ягоных сяброў. І на службу праводзіла зусім іншага, і таго абяцала чакаць. Але не ўсе чаканні ўзнагароджваюцца, і не кожнае пачуццё вытрымлівае праверку часам.

Відаць, усё-такі жыла Алена ў Ігаравай памяці, калі аднойчы ў сяброў, якія зайшлі наведаць яго ў ваенным шпіталі, ён спытаў:

— Як там Алена, замуж яшчэ не выйшла?

І пачуў тое, што баяўся і спадзяваўся пачуць — «не». Папрасіў перадаць Алене, што хацеў бы пагаварыць з ёю. І хіба магла яна не пайсці на гэты покліч? Бо клікаў жа чалавек, які перажыў такое...

Усё адолела каханне, якое ўзнікла спачатку са спачування. 15 кастрычніка 1982 года яны абмяняліся заручальнымі пярсцёнкамі. Алена ведала, на што ішла, уяўляла, што іхняе шчасце не будзе лёгкае. Але зразумела і адчула, што ніхто на свеце не зробіць гэтага хлопца шчаслівым, апроч яе. Няхай яна не выцягвала яго з-пад агню тае халоднае афганскае ночы, але яна выцягне яго з яшчэ горшае бяды — з адзіноты і цёмнае глухое крыўды на несправядлівасць лёсу.

Мы ідзём з ёй па гарадскіх вулках, міма перадзімовае аголенасці садоў і хатак, што нібыта сціскаюцца ад снежаньскага холаду. Я праводжу яе з работы дамоў, каб мець мажлівасць пагаварыць сам-насам, без Ігара.

— Алена, вам цяжка з Ігарам?

— Усякае бывае.

— Што, у яго цяжкі характар?

— А як вы думаеце, ён можа быць лёгкі ў такога чалавека? Іншы раз ён бывае вельмі рэзкі і грубы, але не гэта мяне палохае.

— А што менавіта?

— Жыве ён, як па рацэ плыве. Усё ў яго нібыта ёсць, як ва ўсіх людзей. Кватэра, сям'я, сын. Праўда, ён больш у маіх бацькоў жыве, чым у нас, але на выхадныя мы яго бяром да сябе. І сяброў у Ігара нямала, але яшчэ больш розных там прыяцеляў, сабутэльнікаў. Прыходжу з працы — сядзяць, бражнічаюць. І мой сярод усіх на роўных п'е. Колькі я іх разганяла... Сталі да чатырох «накачвацца», да майго прыходу. Яны ж як робяць? Бяруць яго з сабою ў краму, каб ён ім без чаргі ўзяў і потым частуюць яго. Бывае, прывядуць дамоў п'яненькага, паставяць перад дзвярыма, кнопку націснуць, а самі — уцякаць! А п'яны ён дзікі робіцца, рука ў яго хоць адна ды цяжкая.

Мне вельмі хочацца заспакоіць Алену, хаця з галавы не выходзіць тая жывая карцінка, якую аднойчы назіраў ля дзвярэй віна-гарэлачнага аддзела.

Яна іранічна ўсміхаецца:

— Вы думаеце, я не адрозніваю ўспышкі сяброўскіх пачуццяў ад звычайнага п'янства? Я не супраць бутэлькі на стале, калі заходзяць ці заязджаюць да нас ягоныя армейскія сябры. Сёлета Алмат Шарыпаў гасцяваў, Юра Сулема заходзіць, таксама былы дэсантнік...

Разумею, вядома: п'янства Ігара — не прычына, а вынік. Дайце яму хоць нейкую справу, і ён пераменіцца, яму піць не будзе калі! У мяне, шчыра кажучы, іншы раз рукі апускаюцца! Ні ад каго няма дапамогі...

— А вашыя бацькі і сяброўкі, а Ігаравы таварышы?

— Таварышы яго і спойваюць. З маіх бацькоў — дрэнныя памочнікі. Ледзь што, абодва ў адзін голас: «Мы цябе папярэджвалі!» Сяброўкі? Я іх усіх разагнала, а некаторыя і самі ад мяне адвярнуліся. Ведама ж, не паслухалася іх!

Мне трэба яшчэ спытацца ў Алены пра нешта самае галоўнае. І не хочацца яе затрымліваць, бо чакае яе Ігар, можа, так, як ніхто з нас, з відушчых. І па твары Алены бачу, што сэрцам яна ўжо даўно там, побач з чалавекам, якому патрэбная, як дыханне.

— Іду і баюся,— закусвае яна вусны,— а раптам яго дома няма...

Можа, тая ж абывацельская падазронасць да нармальнага натуральнага пачуцця, якую я ўпарта і часам беспаспяхова душу ў сабе, прымушае мяне вымавіць словы:

— Алена, а вы не раскайваецеся?..

— Э-эх, і вы таксама...

Яна акідвае мяне позіркам, поўным пагардлівага расчаравання ўва мне і яшчэ нечым, апантаным, невынішчальным.

— Даруйце мне,— апускаю я галаву перад гэтам невыносна пільным позіркам. І згадваю Ігаравы словы:

«Сто пяцьдзесят дзён я праваляўся ў ваенным шпіталі, і сто трыццаць чатыры з іх да мяне прыходзіла Алена, на дзень па два разы».

Бачачы маё раскаянне, Алена мяняе гнеў на ласку. Вось і знаёмы пад'езд. Асцярожна, нібыта ў чужую кватэру, націскае Алена кнопку званка. За дзвярыма — упэўненыя крокі.

— Дома,— азіраецца яна на мяне, радасць перапаўняе яе твар, які так і свеціцца. Дзверы гасцінна расчыняюцца.

— А я не адна, Ігарок, са мною мужчына,— хутка кажа мая праважатая нейкім асаблівым буркатлівым галаскам,— ты спадзяюся, не раўнуеш да карэспандэнта раённай газеты...

Ігар моцна цісне сваёй трохпальцай рукою маю руку:

— Даўнавата не бывалі...

Я ўжо станаўлюся сваім чалавекам у гэтым доме. Апускаюся ў тое ж самае крэсла. Ігар, як заўсёды, займае месца спіною да акна. Цяпер я здагадваюся: ён робіць гэта спецыяльна, каб не траўмаваць сваім выглядам суразмоўцу.

— Ігар, табе не сумна без працы?

— А-а-а... і не кажыце! — ягоны твар моршчыцца.— Узнагародзілі мяне бестэрміновым адпачынкам і пенсіяй, а справы не далі! Не, я за пенсію не крыўджуся, у іншага зарплата меншая за маю пенсію. Але ж я яшчэ не стары дзед! Ну, рук у мяне няма, дык ногі ёсць! Дайце мне які-небудзь станочак, каб я нагамі працаваў, правай рукою я дэталь трымаць магу... Чуў, што сляпыя ў Мінску і Гомелі ў арцелях дужкі гнуць нажным спосабам. Вось бы мне такі станок!

Напэўна, усё гэта не так проста, як думае Ігар. Узнікае мноства праблем: куды паставіць гэты станок, да якога завода яго прывязаць, як забяспечыць яго матэрыяламі...

Як гэта зрабіць — трэба думаць усім разам, не адгароджваючыся ад чужое бяды.



# АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

## ПОЧЫРК МАЙСТРА

**...І запляталіся у песню**
**сугуччы вобразаў і рыс,**
**і ашаломлены раменік**
**Стаяў**
**з вачамі нарасхрыст.**

**Крутымі плечамі варочаў,**
**вадзіў рукой па валасах...**
**Яму б такі**
**магутны почырк,**
**Яму б так**
**вогненна пісаць!**

**Адрозню я**
**ў любым хаосе,**
**о майстра, літары твае,**
**дзе рыска кожная узнёсла,**
**як свята,**
**ззяе і пяе.**

1966

ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

*У сёмым нумары нашага часопіса названыя дзесяць лепшых кніг 1988 года. Першае месца заняў зборнік вершаў Алеся Разанава «Вастрыё стралы». Гэтая кніга была таксама другою па выніках апытання чытачоў «Крыніцы».*

*Як і летась, у дванаццатым нумары часопіса мы знаёмім чытачоў з аўтарам кнігі-лідэра. Чытач, мусіць, памятае, што лепшаю кнігаю 1987 года стаў зборнік п'ес Уладзіміра Караткевіча «Старыя беларускія хронікі». Сябар і таварыш пісьменніка — гісторык літаратуры Адам Мальдзіс — падзяліўся ўспамінамі пра яго. Успаміны пра Алеся Разанава пісаць яшчэ рана. Літаратуразнаўцы ж усё аніяк не могуць падступіцца да творчасці гэтага арыгінальнага і амаль заўсёды нечаканага паэта. Таму мы звярнуліся да Алеся Разанава: «Пашукай у сваіх шуфлядах вершы і паэмы, якія не трапілі ў друк». Просячы аб гэтым, мы памяталі, як цяжка «праходзілі» кнігі паэта.*

*Алесь Разанаў пашукаў і перадаў нам свае раннія вершы. Калі яны пісаліся, аўтару было 18—23 гады. Некаторыя з гэтых вершаў былі «абстрыжаныя» (у дужках мы паказваем выразныя радкі), іншыя наогул не трапілі ў першыя зборнікі паэта.*

*Знаёмячы вас з даўнімі творамі Алеся Разанава, паведамляем, што для вызначэння дзесяці лепшых кніг 1989 года створана журы ў наступным складзе:*

**Янка БРЫЛЬ — народны пісьменнік,**
**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК — паэт,**
**Сяргей ДУБАВЕЦ — крытык, празаік,**
**Сяргей КРАЎЧАНКА — кіраўнік рок-гурта «Уліс»,**
**Галіна ТЫЧКА — крытык.**

*Як і летась, мы вызначаем дзесяць кніг, найбольш папулярных сярод чытачоў. Нагадваем, што на прыз чытацкіх сімпатый не могуць прэтэндаваць зборы твораў, зборнікі выбраных твораў, перавыданні.*

*Чакаем вашых лістоў да 1 лютага 1990 года!*

## МЭТА

**Навошта ты з вяршынь крылатых**
**за мной паслала пасланца?!**
**І вось брыду,**
**нібы пракляты,**
**дарогай дрогкай без канца.**

**Не адпачыць,**
**не разагнацца,**
**не захіліцца ад абраз...**
**А саступіць —**
**і столькі цацак,**
**і столькі радасцяў ураз.**

1967

* * *

**(Сцюдзёнае паветра разлілося**
**крыштальнаю празрыстасцю крыніц...**
**Цябе заб'юць —**
**і толькі адгалоссе**
**павісне, як танюсенькая ніць.)**

**Адчайным крыкам**
**вецер панясецца,**
**Заломяць дрэвы рукі ўвышыню...**
**А ў дальняй вёсцы**
**маці**
**ўстрапянецца**
**і будзе доўга**
**слухаць**
**цішыню.**

1967

* * *

**Па кім гэты звон, па кім!**
**Званар, калі ласка, пакінь,**
**пакінь будзіць гэты звон,**
**забудзь, што ён з даўніх дзён,**
**забудзь, што лунала душа,**
**забудзь, што спявала ў вушах.**
**Сваё адзвінелі вякі,**
**пакінь, калі ласка, пакінь**
**і не спрабуй зразумець,**
**чаму пераджытак-медзь.**
**Такі ўжо, відаць, закон:**
**замоўкнуць павінен звон.**
**Зацішша — куды ні кінь.**
**Па кім гэты звон, па кім!**

1967



Афармленне Генадзя БАНКОВА

* * *

**Сарвецца лук,**
**пагнуцца коп'і,**
**і куля пройдзе ўрыкашэт —**
**нібы ўсё выпіта да кроплі,**
**нібы ўсё спалена**
**ушчэнт.**
**Нічога ў далях не ірдзее...**
**Як несці крыж адвечны —**
**жыць,**
**калі апошняя надзея**
**лістком апаленым дрыжыць!!**
**Сівы туман.**
**Падман.**
**Бяссілле.**
**Здзічэе птушка на ляту...**
**І толькі роспач жывіць хвілю,**
**якая**
**зрушыць немату.**

1967

* * *

**У векавечных дрэвах**
**пажараў жарало.**
**Свіціцца:**
**недарэмна**
**былое ажыло.**
**Патайныя праявы...**
**За сцішанасцю лад**
**налева і направа**
**гусцее далягляд.**
**«...У раку адну і тую ж...»**
**Ды оздарам яроў,**
**бадзянне,**
**ты ратуеш**
**рахункі звездароў.**
**Услед памкнуцца звадкі,**
**набракне дзень кляцьбой...**
**Мы даўнія здагадкі**
**пачнём святліць сабой,**
**лугамі,**
**берагамі,**
**світанкам, што імжыць,**
**забытыя багамі,**
**асуджаныя жыць.**
**Як яблыкі,**
**імёны —**
**з зярнятамі ўнутры...**
**У свеце задумёным**
**шалёныя вятры.**

1968

## ДРЭВЫ

**На ўсход**
**гарлапаняць пеўні,**
**а захад,**
**як боль,**
**прыціх.**
**Губляючы вас, напэўна,**
**губляем сябе саміх.**
**Пляліся рукамі людскімі**
**і лапці,**
**і кашалі...**
**Вы нашы браты,**
**якія**
**па нашых слядах не пайшлі.**
**Вы засталіся шумліва**
**расці ўвышыню і ўглыб,**
**каб рушылі мы шчасліва**
**дарогаю птушак і рыб.**
**Мо быў бы**
**наш крок дарэмны**
**і ўсхліпам быццё сплыло,**
**калі б,**
**паміраючы,**
**дрэвы**
**не слалі сваё цяпло,**
**калі б не паілі нас ветрам**
**у душныя ночы і дні,**
**калі б не ішлі у нетры**
**шурпатыя іх карані.**
**О, як хрустальна штогод**
**звінела лісцё**
**і каралі...**
**Ды ў час шалёных нягод**
**яны разам з намі**
**ўміралі.**
**(Закручаны рух учарашні**
**і заўтрашні**
**ўшчэнт,**
**да вузла...**
**Нам дзіўна,**
**нам горка,**
**нам страшна,**
**што вы не трымаеце зла.**
**Сякера звінела і секла,**
**ды шчодры, як брага, азон...**
**Пашчасціць —**
**у самае пекла**
**шпурне нас вар'яцкі разгон.)**
**Вяртаемся беспярэстанку,**
**як хворыя,**
**зноў і зноў**
**да вашае калыханкі,**
**да шэпту зялёных слоў.**
**Вы нас разумееце моўчкі,**
**нам большай любві не сустрэць...**
**А красак дасціпныя вочкі**
**нам будуць у вочы глядзець.**
**Расхрыстаны,**
**перамогшы,**
**дыхае лес пад дажджом.**
**Мы ваша цвіценне ўбярогшы,**
**тым самым**
**сваё ўберажом.**

1969

* * *

**Іх далячыні развялі,**
**І хоць трагедыяй — адведка,**
**сумуе ястраб па зямлі,**
**па вышыні**
**сумуе**
**клетка.**

**Як апякае рану ёд,**
**як высь аблытваюць цянёты —**
**не мае сэнсу сам палёт**
**без перашкодаў да палёту.**

**Няхай пачатку страчан след —**
**ляціць працяг,**
**і час у сведкі,**
**што знітаваны гэты свет**
**саюзам ястраба і клеткі.**

1970

# Гандлярка і паэты

**Вікторыя ТЫЛЕЦ**

**Кнігарня. Аддзел беларускай кнігі. Не ведаю, як у сталіцы або іншых гарадах, а ў нас, у Віцебску, у гэтым аддзеле ніколі няма чаргі, за выключэннем выпадкаў, калі ў продажы з'яўляюцца творы Уладзіміра Караткевіча. Роўнымі радочкамі стаяць кнігі. Яны такія розныя: цікавыя і не, зусім новыя, якія яшчэ пахнуць друкарскай фарбай, і пажоўклыя ад часу. І лёс у іх неаднолькавы: адны даволі хутка трапляюць да чытача, яны яшчэ не адзін раз будуць перавыдавацца, бо стваральнікі іх, людзі таленавітыя, дзеляцца скарбамі сваёй душы з іншымі людзьмі, другім жа кнігам наканаваны незайздросны лёс: доўгія гады пакрывацца пылам, пакуль іх не спішуць, бо адны з іх губляюць сваю актуальнасць, асабліва гэта датычыцца публіцыстыкі і палітычнай літаратуры, а другія — таварны выгляд. І каб мелі яны пачуцці, то зайздросцілі б, напэўна, некаторым томікам Васіля Быкава, Пімена Панчанкі, Леаніда Дайнекі, Уладзіміра Арлова, якія не затрымліваюцца доўга на паліцах кнігарань.**

І калі ў мяне пытаюцца, ці праўда, што кнігі на беларускай мове купляюць горш, чым на рускай, я не магу адказаць адназначна, бо ведаю, што кніга Леаніда Дайнекі «Меч князя Вячкі» імгненна знікла з кнігарань, а вось кніга М. Зяньковіча «Эпоха в лицах» і на мове ж, здаецца, прэстыжнай, а даволі доўгі час мазоліла вочы і пакупнікам, і прадаўцам. З горам напалам нейк прадалі, праўда, дзякуючы кнігарні «Кніга—поштай», якая высылала гэтае выданне тым пакупнікам, якія ў сваіх лістах прасілі не канкрэтную кнігу, а што-небудзь з прозы на рускай мове.

З паэтычнымі зборнікамі апошнім часам проста бяда. Нейкі заземлены, рацыянальны стаў чытач, не прывабівае яго паэтычнае слова. І ўсё ж зборнікі Яўгеніі Янішчыц, Рыгора Барадуліна, Раісы Баравіковай карыстаюцца большым попытам, чым зборнікі рускамоўнай паэзіі Э. Скобелева і Б. Спрынчана.

І ўжо нашто драматургія слаба разыходзіцца, але кніга Аляксея Дударава «Дыялог» карысталася ўстойлівым попытам, а вось кніга І. Навуменкі «В бору на рассвете», зноў-такі праз «Кнігу — поштай», ідзе за мяжы рэспублікі. Не скажу, што кніжка кепская. Справа тут у іншым. Занадта ж многа і часта выдаецца шаноўны Іван Якаўлевіч. Ва ўсіх кнігарнях паліцы ломяцца ад яго кніг: тут і падпіснoе шасцітомнае выданне твораў (тыраж 37 тысяч экземпляраў, хто яшчэ можа пахваліцца такім тыражом?!), а яшчэ ў выдавецтве «Юнацтва» запланавана кніга на 1990 год (у плане рэдакцыйнай падрыхтоўкі яе не было!), па-за планам сёлета выйдзе у «Мастацкай літаратуры» «Выбранае». Прыязджаюць выдаўцы ў кнігарню, паказваем ім такую колькасць кніг гэтага аўтара, пытаемся, чаму яго столькі выдаюць. А ў адказ чуецца крыху вінаватае, што гэта загад «зверху». Вось цікава было б даведацца, што гэта за «верх» такі загадкавы, і хто ж такі ўсемагутны сядзіць на ім, на тым «версе». Я вельмі б ужо прасіла яго, каб ён загадаў выдаць слоўнікі беларуска-рускія для школьнікаў, бо выдаўцы ўвесь час тлумачаць, што немагчыма выдаць дастатковую колькасць слоўнікаў, бо няма паперы. А слоўнікі, каб вы ведалі, самая дэфіцытная кніга. Вось нядаўна ў продажы быў маленькі слоўнічак, для вучняў пачатковых класаў, раскупілі яго за тыдзень. Атрымаў яго кніжны гандаль значна меншую колькасць, чым заказвалі. Цяпер абуджаецца нацыянальная самасвядомасць, расце цікавасць да роднай мовы, яе пачынаюць вывучаць і дарослыя. Нарэшце, у продажы з'явіўся «Беларуска-рускі слоўнік» у двух тамах, а вось «Русско-белорусский словарь», які выходзіў крыху раней, ужо даўно знік з кнігарань. Але ж для вучняў сярэдняга і старэйшага ўзросту яны не вельмі зручныя: дарагія (больш як восем рублёў каштуе двухтомнік) дый цяжкія да таго ж, дзяўчынцы дык такі слоўнік і падняць цяжка.

Вось і пакутуюць бацькі і вучні, марнуюць час у пошуках слоўнікаў. А дзе ж вы бачылі, каб якую-небудзь мову можна было дасканала вывучаць без дапамогі слоўніка. І паспрабуй работнік кнігарні растлумач ім, абураным, чаму гэта на шматтомныя выданні лідэраў нашай партыі і папера ёсць, і паліграфічных магутнасцей хапае. Даўмеўся ж нехта быў выдаць васьмітомнік Л. Брэжнева па-беларуску. А хто купляў тыя кнігі? Частку, рызыкуючы нарвацца на скаргу, у нагрузку аддалі, а частку спісалі. І як растлумачыць цікаўным, чаму так часта выдаюцца Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Максім Танк? Што не могуць яны ахвяраваць паперу, прызначаную на выданне іх кніг, на нейкія там, хоць і вельмі патрэбныя беларускаму люду, слоўнікі. А выдавецтва «Беларусь» дык тое наогул не ведае куды паперу дзяваць. І штогод выдае для замежнага чытача серыю даволі непрывабных і нецікавых брашур аб дасягненнях нашай рэспублікі ў народнай гаспадарцы, у галіне навукі, культуры — і на англійскай, і на іспанскай, і на французскай мове. Не хоча іх браць кніжны гандаль: ну, адкуль у нас у Віцебску тыя французы альбо іспанцы?! І кожны год на 10—15 кніг больш выходзіць, а на 1990 год семнаццаць такіх выданняў запланавана. Калі выдавецтву «Беларусь» няма чаго выдаваць на гэтай паперы, хай аддасць яе выдавецтву «Юнацтва», якое не выканала наш заказ на кнігу Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі», тлумачачы гэты факт недахопам паперы, або выдавецтву «Навука і тэхніка», каб тое слоўнік Насовіча выдала.

Кніжны гандаль цяпер на гаспадарчым разліку. Мы робім заказы, разлічваючы на іх, і раптам частка кніг пераносіцца на другі год, а потым і на трэці. На нашы пытанні мы чуем, што паліграфічная база слабая, а то яшчэ і такое, што пісьменнік да гэтага часу рукапіс не здаў. Цікава, а што, Сімяон Полацкі таксама своечасова рукапіс не здаў, яго ж кніга вершаў пераносілася з аднаго года на другі. І заўважыла я адну акалічнасць: перша-пачатковая цана была 2 рублі 60 капеек, потым стала 3 рублі, а выйдзе зборнік вершаў коштам 4 рублі. Ну як? Ці па кішэні такая кніжка, напрыклад, студэнту? І гэта не адзіны прыклад. Тое самае і з «Анталогіяй беларускай паэзіі», і з новай кнігай В. Быкава. І яшчэ ёсць шмат прыкладаў. Думаю, не варта іх пералічваць, каго гэтае пытанне зацікавіць, то можна ўзяць планы выдавецтва «Мастацкая літаратура» за 3 апошнія гады і ўсё ўбачыць на ўласныя вочы. Чым тлумачыцца такое павышэнне цэн? Чула, што каньяк ад тэрміну вытрымкі мацнее, і, вядома ж, кошт яго вышэйшы. Мо і пісьменніцкія рукапісы, у рэдактарскіх сталах паляжаўшы, таксама набываюць нейкія асаблівыя мастацкія вартасці, таму й кніжкі становяцца даражэйшымі?.. Але на гэтае пытанне акрамя выдаўцоў ніхто не адкажа. А пытанняў да іх шмат. Навошта зборнікі паэзіі выдаваць на мелаванай паперы? Яны ж надта дарагія атрымліваюцца. Чаму анатацыі ў кнігах падобныя адна на другую, як блізняткі, і не раскрываюць зместу кнігі? Куды знікла перавыданне кнігі Алеся Адамовіча «Сыновья уходят в бой», якое было ў плане рэдакцыйнай падрыхтоўкі? У «Палажэнні аб кнігарні — апорным пункце выдавецтва» сказана, што магазін-апорны пункт можа прымаць папярэднія заказы па планах рэдакцыйнай падрыхтоўкі. Што ж мне цяпер адказаць пакупнікам, якія пакінулі паштоўкі на кнігу А. Адамовіча? Калі аднаму з іх я паведаміла, што кнігі не будзе, то ён з такім абурэннем сказаў мне: «Мала таго, што з Беларусі чалавека выжылі, дык і кніжку яго цяпер не купіш, трэба камусьці, каб і не чыталі яго на Радзіме». І калі я пачала тлумачыць, што кніжны гандаль тут зусім не вінаваты, ён мяне і слухаць нават не стаў. Вось тут табе і прэстыж выдавецтва, і прэстыж кнігарні — апорнага пункта...

Часта чытаем і чуем, што, маўляў, пара паставіць заслону «шэрай літаратуры», каб не з'яўлялася яна на паліцах кнігарань. А хто ж яе прапускае? Выдавецкія работнікі, рэцэнзенты першыя знаёмяцца з новымі творамі і вырашаюць іх далейшы лёс. Мы, работнікі кніжнага гандлю, верым у іх сумленнасць і кампетэнтнасць, бо перад намі толькі тэматычны план з кароткімі і цікавымі анатацыямі. Заўсёды з нецярплівасцю адкрываеш новы план. Паглядзіш, а там: той — сваяк нейчы, той — у часопісе прэстыжным працуе, а той — начальнік нейкі ці акадэмік.

А вось прыклад сёлетні, свежанькі, як кажуць. На семінары работнікі выдавецтва вельмі цікава расказвалі пра запланаваныя выданні, значна больш, чым у анатацыях. Перад намі выступалі паэты, празаікі, літаратуразнаўцы. Адказвалі на шматлікія пытанні работнікаў кніжнага гандлю. Ну і я пытанне задала загадчыку рэдакцыі прозы, ці не мог бы ён больш падрабязна спыніцца на кнігах некаторых аўтараў, уключаных у тэматычны план, і назвала два прозвішчы. Ён пачырванеў і адказаў, што можна сказаць толькі тое, што напісана ў анатацыі, бо рукапісаў яшчэ няма. А ў тых жа анатацыях так ужо хваляць гэтыя кніжкі! Тэмы, праўда, цікавыя. Але да цікавай тэмы яшчэ і талент пісьменніцкі патрэбны. Я не крытык, але асабістую думку я маю права мець? Дык вось, на маю думку, папярэднія кнігі гэтых аўтараў мелі не вельмі высокія мастацкія вартасці, аб чым сведчыць і попыт пакупнікоў, і тая аднадушная падтрымка кнігагандлёвых работнікаў, якую я адчула, калі выказала сваю думку на тым семінары. Кніга С. Паўлава «Імперская паранойя», бядачка, з 1984 года шукае сваіх пакупнікоў і ніяк не знойдзе. І вось, калі з'яўляюцца на паліцах кнігарні «шэрыя» па зместу кнігі, я адразу гляджу, хто ж рэцэнзент, хто ж рэдактар, хто ж пайшоў на змову са сваім сумленнем? І яшчэ адно балючае пытанне — тыражы. Яны павінны быць узгоднены з заказамі кніжнага гандлю. Абавязкова. А то атрымліваецца, што за памылкі ў вызначэнні тыражоў нясе адказнасць толькі кніжны гандаль. Кнігі, тыражы на якія вызначаны няправільна, залежваюцца ў кніжным гандлі, утвараючы звышнарматыўныя запасы, за якія даводзіцца плаціць павышаныя працэнты Дзяржбанку (замест двух працэнтаў — восем). І што дзіўна: усе выдавецтвы размешчаны ў адным будынку, а сувязі аніякай не падтрымліваюць. У 1986 годзе «Мастацкая літаратура» выдала кнігу Якуба Коласа з паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка» тыражом 200 тысяч. Творы праграмныя, у школе іх вывучаюць, а кніга атрымалася даражаватая: 2 рублі 70 капеек. Колькі разоў назірала: збіраецца чалавек купіць яе для вучня, а потым зірне на кошт і пакладзе на паліцу — дорага, маўляў, у бібліятэцы возьме. На сённяшні дзень у гандлёвай сетцы больш за 100 тысяч экземпляраў гэтае кнігі асела. Нам застаецца чакаць, пакуль не народзяцца і не вырастуць новыя пакаленні школьнікаў. А выдавецтва «Юнацтва» на 1990 год зноў запланавала таго ж «Сымона-музыку». Тое самае і з творамі Янкі Купалы атрымалася: «Мастацкая літаратура» выдала кнігу тыражом 200 тысяч, а на наступны год «Юнацтва» — амаль падобную — тыражом 30 тысяч. А мы ж пісалі свае заўвагі ў выдавецтвы наконт гэтых кніг. Чаму да іх ніхто не прыслухаўся? На 1990 год плануюць творы Дуніна-Марцінкевіча на рускай мове тыражом 80 тысяч выдаць. Зноў нашы заўвагі без увагі астаюцца.

Пайшла мода да юбілеяў двухтомнікі выдаваць. А тыя двухтомнікі змяшчаюць творы, якія стаяць на паліцах асобнымі выданнямі. Кожны год рабілі заўвагі наконт гэтага выдавецтву «Мастацкая літаратура», і ўсё дарэмна.

У аддзеле падпісных выданняў плануецца чатырохтомнік І. Пташнікава. У 3-і і 4-ы тамы будуць уваходзіць творы, якіх таксама нямала ў гандлёвай сетцы: «Алімпіяда» і «Мсціжы». Добра калі пісьменнік, які часта выдаецца, так жа часта сустракаецца з чытачамі. Але звычайна тыя, хто часта выдаецца, ездзяць на выступленні рэдка. Напрыклад, я не чула ніколі, каб Пташнікаў кудысьці ездзіў выступаць. Мабыць, на хлеб з маслам ім зарплаты і ганарараў хапае, альбо баяцца, як бы карона з галавы не звалілася. А вось тыя, хто выдаецца рэдка, вельмі часта ездзяць на выступленні па лініі Бюро прапаганды пры СП БССР. Можа, ім часу на напісанне твораў не хапае з-за гэтых паездак, хто іх ведае. Але ведаю адно: калі пісьменнік гадоў за пяць ніводнай кніжкі не выдаў, пра яго ўжо й чытачы забыліся. Паслухаеш, бывае, такога выступаючага — сэрца баліць! Ну якая там прапаганда нашай літаратуры! Жарцікі нейкія танныя, анекдоцікі, і вельмі-вельмі рэдка пачуеш аб літаратурным працэсе ў рэспубліцы, аб адметных з'явах у нашай літаратуры, аб творчасці маладых, якія прыйшлі ў нашу літаратуру. А нам жа трэба выхоўваць чытача, узгадоўваць яго. Часта не ведання мовы бракуе нашаму чытачу, а чытацкага густу. Знайшлося ж 112 тысяч чытачоў, якія за 3—4 тыдні набылі «Замежны дэтэктыў», а вось 90 тысяч не знайшлося, каб набыць «Кар'ер» Васіля Быкава, бо частка тыражу гэтай кнігі яшчэ не рэалізавана. Вось і атрымліваецца, што ездзяць некаторыя нашы пісьменнікі на гастролі з пацяшальнай праграмай, і праз гадзіну пасля выступлення мала хто ўжо памятае, што гаварыў той пісьменнік і як яго прозвішча. І ў той жа час ёсць група пісьменнікаў, якія выступаюць часта і цікава, і выступленні гэтыя — шэфскія. Вось у нас, напрыклад, часта бываюць Р. Барадулін, В. Іпатава, С. Законнікаў. Нашы мясцовыя паэты Д. Сімановіч, П. Ламан, У. Папковіч ніколі не адмаўляюцца ад шэфскіх выступленняў. Але чамусьці некаторых пісьменнікаў не хвалюе лёс іх кніг. Галоўнае — выдаць, а чытае там яго народ ці не чытае... Гэта ўжо нікога акрамя прадаўцоў не хвалюе.

Апошнім часам у планах выдавецтва з'явілася многа першых кніг паэтаў і празаікаў. Цікавасць да творчасці маладых расце. І як растлумачыць такі факт, што ў нашай абласной бібліятэцы няма кніжачак, якія выходзяць у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць», а наведнікі пра іх пытаюцца. Чаму ніхто не падказаў работнікам бібліятэкі, што на іх таксама можна падпісацца?

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што не апошнюю ролю ў сумным лёсе беларускамоўных кніг іграе кніжны гандаль. Паназірайце за прадаўцамі ў кнігарнях. Ці часта вам прапаноўвалі беларускую кнігу, ды яшчэ з веданнем справы? А шчырую ўсмешку, зацікаўленасць, жаданне дапамагчы вам у пошуках кнігі вы часта сустракалі? Я думаю, што не вельмі часта. Таму што ў кніжны гандаль ідуць часта зусім выпадковыя людзі. Ну як ты на першы погляд вызначыш, прыдатны гэты чалавек працаваць у кніжным гандлі ці не? Вызначыць гэта можна толькі тады, калі ўбачыш, як чалавек працуе. І калі высвятляецца, што чалавек зусім непрыдатны да нашай справы, звольніць яго мы не можам аніяк. Вось і стаіць ля прылаўка ці то вартаўнік, ці то манекен.

І калі ў кнігарні такіх чалавека-адзінак некалькі, тады бяда. І выйсця няма. Бо калі чалавек не жадае ні мову тую ведаць, якую матчынай завуць, ні кніжкі тыя, што на гэтай мове, ніколі не разгорне, як яго прымусіш? Двухмоўе ў нас. І ўсё тут. Каго ні возьмеш, ну ўсе чыста масквічы з-пад Полацка.

І калі да гэтага часу недзе ляжыць 251 экземпляр кнігі Пімена Панчанкі «І вера, і вернасць, і вечнасць» і 114 экземпляраў зборніка вершаў Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду», і калі пакупнік не мае надзеі набыць «Статут Вялікага княства Літоўскага», бо кнігарня яго не заказала, то тут ужо не выдаўцы, не пісьменнікі вінаватыя, а мае калегі, кнігагандлёвыя работнікі, якія не ўмеюць, а то й проста не хочуць працаваць. А пры брыгаднай форме працы паспрабуй вызнач, хто прадаў кніг больш, а хто менш. Трэба нейк мяняць сістэму заахвочвання, бо сістэма, якая існуе цяпер, чамусьці не спрацоўвае, не ўлічвае працу кожнага, і атрымліваецца ўраўнілаўка: і манекен, і сапраўдны прапагандыст кнігі часцей за ўсё аднолькавую зарплату атрымліваюць. Ёсць, вядома, і энтузіясты, якія не толькі за грошы працуюць. Але колькі іх, тых энтузіястаў?..

Галоўнае ў справе ў нашай, каб мы цягнулі гэты воз разам: і пісьменнікі, і выдаўцы, і кнігагандлёвыя работнікі. І галоўнае — каб у адным напрамку, а не як у той байцы Крылова пра лебедзя, рака і шчупака. Трэба дапамагаць агульнай справе не толькі словам, але і канкрэтнымі дзеяннямі. Мы ж адну справу робім. Мы ж паплечнікі, аднадумцы, і тут ужо асабістыя крыўды і амбіцыі не павінны мець месца.

**Святлана БАРТОХАВА**



**Здаецца, за ўвесь час існавання «Крыніцы» ніводнае запрашэнне да размовы не выклікала такой колькасці лістоў ад чытачоў, як гэтае, наконт куміраў і шантажу. Колькасць занадта «важкая»: падлік можна весці... на кілаграмы. Тэма ўсхвалявала нават тых, хто ніколі і ні ў якое надвор'е ні ў адну рэдакцыю не пісаў.**

**Разабрацца ў такім акіяне пошты было вой як нялёгка. Закасаўшы рукавы, я мужна паспрабавала хоць неяк усё гэтае мноства сістэматызаваць, уціснуць у рамкі тыповасці, але шматлікія развагі і парады чытачоў ніяк не ўтрымліваліся ў гэтых самых рамках, а настойліва выпіралі з іх сваёй арыгінальнасцю. Калі падрабязна затрымлівацца на апошніх, дык для іх аналізу, прынамсі, не хопіць аб'ёму паловы часопіса. Таму няхай не крыўдуюць нашыя карэспандэнты, калі я не працытую іхнюю думку. Як казаў знакаміты Казьма Пруткоў, «нельзя объять необъятное»...**

## «МАЙЦЕ ГОНАР!..»

Гэта, бадай, найбольш далікатны выраз з тых, якія чытачы адрасавалі «фанатным шантажысткам» (азначэнне Зоі Стачук з Віцебскай вобл.). Думка большасці адназначная: выкарыстанне шантажу дзеля дасягнення «фанатных» мэтаў нікому з прадстаўніц цудоўнага полу хараства не дадае. Святлана М. з г. Магілёва, Ніна Г. з г. Светлагорска, Таццяна М. з Мінскай вобл. і іншыя аднадушна, хоць і кожная па-свойму, дзівяцца: «Хто б мог падумаць, што на свеце так шмат вар'ятак!»

Асабліва абурыліся тыя дзяўчаты, што самі закаханыя (альбо былі закаханыя) ў «зорак». Яны пераканаўся: каханне сапраўднае не мае нічога агульнага з метадамі, якімі карыстаюцца Аксана К., Каця К. і падобныя на іх, і не каханне гэта зусім, а «нешта парсюковае», «нявартае чалавека». Не можа быць высокага пачуцця там, дзе «брудныя душы», а менавіта такія душы, як сцвярджае Вера Прыходзька са Слонімскага р-на, «у гэтых вар'ятак».

«Ды якая ж ты мадона?! — звяртаецца да Зоі Д. яе цёзка з г. Мінска, Зоя А.— Тая, што аб'яўляе галадоўку з-за «мармурак», што шантажуе рэдакцыю — мадона? Цікава, як выглядаў бы твой партрэт, калі б які-небудзь сучасны Леанарда паспрабаваў адлюстраваць тваю сутнасць... Не хапае фантазіі ўявіць гэта! Я таксама кахаю Аляксандра Сярова (вось напісала гэтае «таксама» і нават уздрыгнула: чаму «таксама» — хіба ж ты яго кахаеш, хіба гэтак кахаюць?). Дык вось, я кахаю Сярова, і мне балюча ведаць, што такія як ты «лапаюць» ягоны партрэт бруднымі рукамі, асмельваюцца лічыць сябе закаханымі... Не зневажай узнёслае слова «каханне», яно не з тваёго лексікону!»

Наташа С. з г. Баранавічы прапануе: «Дарагая рэдакцыя, не пакутуйце, адкрыйце фонд, у які ўсе жадаючыя змогуць здаць па рублю на памінкі гэтых прыгажунь, што абдзеленыя (як яны лічаць) каханнем, а па сутнасці — дурных, інфантыльных дзяўчат, ім жа болей няма чым дапамагчы!»

«Ды няхай яны робяць з сабою, што пажадаюць, не трэба звяртаць увагі! — піша Людміла Косцікава са Смаленскай вобл.— Перакананая, што ніводная з гэтых дурніц не накладзе на сябе рукі. Яны карыстаюцца добра вядомым спосабам разбэшчанага дзіцяці: «Дай цукерку! Хачу-у-у цукерку!» — І калі не дасі, пачынаецца істэрыя з катаннем па падлозе. Цікава, ці ведаюць самі фанаткі, што выклікаюць адну пагарду і нічога болей? Бедныя іх бацькі, такіх эгаістак выгадавалі. Калі што-небудзь здарыцца — яны ж на трупах пройдуць, не сумняваючыся і не азіраючыся, абы дасягнуць свайго...»

Багата ў якіх лістах, разам з ацэнкамі з'явы, робіцца аналіз прычын яе ўзнікнення.

«Вы пытаецеся, адкуль гэта ўзялося? — разважае Таццяна Вялічка з Магілёўскай вобл.— Далёка шукаць не трэба. Мабыць, клапатлівыя мамы абмежавалі сваю ролю ў жыцці дачок толькі клопатам пра тое, чым іх пакарміць ды ў што апрануць, каб не горай, як у іншых. А душа засталася непакормленая і неапранутая, пустэча ў ёй запаўнялася чым хочаш — і вось вынік...»

«Благія суполкі нараджаюць благія норавы...» Не памятаю, хто гэта сказаў, але — у самае ачко. На кожным кроку пераконваешся ў гэтым... Мы выдатна засвоілі, што жыццё — барацьба, што ўсё трэба вырываць зубамі, бо ўсяго на ўсіх не хапае. Вось і змагаемся кожны па-свойму, ну а ў азарце барацьбы не ўспомніш пра добрыя манеры. Галоўнае — мэта. І гэта мы засвоілі з дзяцінства, у нас усюды так... Гэта ж вы, дарослыя, утварылі гэты няўтульны свет, напоўнілі яго манаю, пазбавілі сапраўднае прыгажосці, а мы — вашае люстэрка, дык няма чаго «на него пенять, коли рожа крива», і па-ханжаску адварочвацца, крывадушна лямантуючы: «А вось мы ў вашым узросце!..» Што пасееш, тое і пажнеш. Гэта ж вы ўтварылі ўбогі жабрацкі побыт, убогія магазіны, развялі ўсеагульнае п'янства, закупілі лавіну дурных індыйскіх фільмаў і іншую лухту і хочаце, каб на гэтым убостве задухмяніліся ружы нашае дабрачыннасці. У вашых руках усё, і куды загадаеце ад гэтага дзецца?» Вольга ГУБІНА, г. Мазыр.

«У лістах, што вы працытавалі ў падборцы, чутныя чыста істэрычныя ноты. Мабыць, прычыною таму і нерамантычнасць асяроддзя жыццёвага, і адсутнасць годных у стылёвых адносінах прыкладаў паводзін, і мары пра замoрскіх прынцаў, што трансфармаваліся ў абагаўленне акцёраў, і гэта таксама лёгка растлумачыць з пункту гледжання псіхалагічнага... Аддаленасць нараджае міф, адсутнасць побач яскравых натур заканчвае справу. Не вельмі высокая, на жаль, культура пачуццяў шантажыстак утварае бяссонніцу работнікам прэсы, да чыйго горла паднесены «нож» пагрозы закаханых, якія не ўмеюць нават, з нагоды слабай сваёй начытанасці, параўнаць сябе з правінцыйнымі паненкамі чэхаўскіх (ці больш ранейшых) часоў... Цікава, калі б звесці разам гэтых вашых карэспандэнтак, то ці не сталі б і яны, як іхнія духоўныя сёстры сто гадоў таму, спрачацца пра тое, у мундзір якога палка больш прыемна закахацца? А ўжо чалавек тут (у мундзіры) — справа апошняя...» Г. І. Н., г. Гомель.

## «НІБЫТА АБЕД ПА ТЭЛЕБАЧАННІ...»

Я падазравала, што чытачы не абмяжуюцца разважаннямі пра шантаж і шантажыстак, а гаворка абавязкова пойдзе і пра тое, што было прычынаю для гэтага «стыхійнага бедства». Так і здарылася.

Некаторыя аўтары лістоў лічаць улюбёнасць дзяўчат у куміраў чымсьці ненатуральным, не вартым павагі. «Перадурэюць, а потым яшчэ і самі смяяцца будуць са свайго глупства,— піша Аксана Сушко з Мінскай вобл.— Гэта ўсё нікуды не варта, таму што несур'ёзна. Знайшлі сабе каханне!»

Вельмі многія чытачы заклікаюць дзяўчат глядзець на жыццё цвяроза — бо ў кожнага куміра ёсць свае кола сяброў і блізкіх, можа, ёсць і каханая, якую ён ніколі не прамяняе на «эфемерныя радасці са шматлікімі прыхільніцамі» (Люда Ж., г. Віцебск).

«Мне здаецца, дзяўчаты не разумеюць і не ўяўляюць, што такое каханне сапраўднае. Каханне, якое людзі берагуць і праносяць праз усё жыццё. Яны проста ўлюбёныя ў песні, у галасы, ім падабаецца знешнасць артыста, манера выканання... «Каханне» гэтых дзяўчынак — нібыта «абед па тэлебачанні». Яно не мае ніякае асновы, ніякага фундамента, можа хутка і назаўсёды разбурыцца. Будзе згасаць зорны час іхняга куміра, будзе незаўважна знікаць і каханне, а ўзнікне новая «зорка», з'явіцца і новае каханне...» Таня Б., Копыльскі р-н.

«Я не буду ўтойваць, што мне падабаюцца Жэня Белавусаў і Юрый Шатуноў. Але я не магу дазволіць сабе пісаць у рэдакцыю і любой цаною дамагацца з імі сустрэчы. Перакананая, што, калі б я сустрэлася з Юрам альбо Жэням, нічога агульнага ў мяне з імі не было б. Можа, адбылася б размова, і ўсё на гэтым, канец...» Аня П., Гродзенская вобл.

## ВЕЛЬМІ СУБ'ЕКТЫЎНЫ ВОДСТУП

Некаторыя чытачы пытаюцца, як я сама стаўлюся да куміраў. Ну што ж, адкажу — не прэтэндуючы, вядома, на выказванне ісціны ў апошняй інстанцыі.

Мне, здаецца, не пашанцавала. Я ведаю вядомых людзей, якія ўражваюць і нават узрушваюць уяўленне, але да тае пары, пакуль яны стаяць на п'едэстале. Акцёр (мабыць, незвычайны), які на сустрэчах з гледачамі гаворыць пра вышыню чалавечага духу... Паэт (мабыць, таленавіты), што з трагічнай маршчынаю між брывоў чытае вершы пра любоў да блізкага... Спявак (мабыць, непераўзыдзены), які пад гукі музыкі клянецца ў вернасці таямнічай каханай...

Уладальнікі душ чалавечых, што прапаведаюць вышыню, чысціню, глыбіню, шырыню і г. д. Але вось адгучалі фанфары, згаслі агні, куміры зышлі ў звычайную будзённасць — і ... Выяўляецца, незвычайны акцёр не грэбуе спекуляваць на чорным рынку, таленавіты паэт элегантна здраджвае блізкаму свайму, непераўзыдзены спявак не саромеецца зняважыць жанчыну...

Мабыць, мне на самай справе не пашанцавала. А можа, гэта час такі, ці, дакладней кажучы, адрыжкі таго часу, калі паміж тым, што людзьмі гаварылася-прапаведалася, і тым, што на самай справе рабілася гэтымі людзьмі, была бясконцая бездань.

Я ні ў якім разе не жадаю кінуць цень на тых, хто вымушаны быць ідалам. Барані божа! Не ўсе каралі голыя. Можа (і нават безумоўна), ёсць сярод іх вартыя самых сябе і ў вольны ад п'едэсталаў час. Але як часта ўяўленні пра іх не адпавядаюць рэчаіснасці. Мо і таму яшчэ, што любімцы публікі гэтаксама людзі і, такім чынам, «ничто человеческое им не чуждо».

Справядлівы шматвяковы запавет: «Не ствары сабе куміра!» А калі ствараў, асцерагайся датыкнуцца да яго — каб святочны мармур не рассыпаўся пылам...

## РАМАНТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ З СУМНЫМ КАНЦОМ

Жыла-была дзяўчынка, звычайная, падобная на тысячы іншых. І, як многія яе аднагодкі, была яна закаханая. Не проста закаханая, а да слёз, да знямогі, да безразважнасці. Няцяжка здагадацца, што прадметам гэтых складаных пачуццяў стаў не які-небудзь аднакласнік Вася, а... Ну вядама ж, Ён быў «зоркаю». Гэта значыць, істотай незямной. А такія зусім не простыя смяротныя абуджаюць у дзяўчынак пачуцці няпростыя і бессмяротныя.

Нашая гераіня была закаханая ў моднага спевака. Вядома, у эстраднага. У оперных дзяўчаткі не ўлюбляюцца (а калі і ўлюбляюцца, дык не натоўпамі), хоць і сярод оперных ёсць маладыя і таленавітыя. Модны эстрадны спявак у дзяўчынку закаханы не быў. Ён нават не ведаў пра яе існаванне. А яна марыла пра сустрэчу са сваім кумірам і апантана верыла, што сустрэча гэтая перавернe ўсё жыццё...

І вось здарылася тое, чаго яна чакала, да чаго імкнулася ўсімі фібрамі душы: пасля нечалавечых намаганняў яна здолела сустрэцца са спеваком. Дзяўчынка падпільнавала яго позним дажджлівым вечарам каля пад'езда, кінулася насустрач і, ледзь не калоцячыся ад холаду і хваляванняў, загаварыла пра тое, якi ён цудоўны і надзвычайны, як яна яго кахае, як гатовая дзеля яго на ўсё, нават на смерць... А спявак, не даслухаўшы, з прыкрасцю адмахнуўся. Нібыта ад мухі. Ці як ад павуціння, што ліпне да твару. Яму даўно надакучылі ўлюбёныя дзяўчынкі з палымянымі вачыма, паляўнічыя за ягонымі аўтографамі, партрэтамі і нават гузікамі з пінжака. Ён быў папулярны, а прыхільніц — зашмат. І ўсе яны гаварылі адно і тое ж і паводзілі сябе аднолькава. Іх было многа, а ён — адзін... «Не ствары сабе куміра».

Гісторыя гэта не прыдуманая. Пацверджанне таму — лісты нашых чытачак, з якімі здарылася нешта падобнае. Усе яны, нібыта дамовіўшыся, пішуць, што многае аддалі б зараз за тое, каб адкруціць назад кола фартуны, што жорстка пасмяялася з іх. Як натхнёна жылі гэтыя дзяўчынкі да сустрэчы «жывым» са сваімі кумірамі і як многа згубілі — пасля...

Прывяду кавалачак з аднаго характэрнага ліста:

«У мяне было такое пачуццё, нібыта я прыйшла дадому з пахавання: быў каханы чалавек — і няма яго назаўсёды. Пасля ягонай панскай (менавіта панскай: з пагардаю, скрозь зубы) водпаведзі, пасля фанабэрыстага погляду (зверху ўніз, нібы на жабрачку) я была як аплёваная. Мама страшэнна спалохалася за мяне, калі ўбачыла мой белы твар... Лепей бы я з ім ніколі не сустрэлася, а проста марыла б пра яго і верыла ў яго выключнасць. Я не ведаю, як жыць зараз. У мяне нічога няма. Нават надзеі...» Л. К., 18 год, г. Мінск.

## «МУЖЫКІ, ДАВАЙЦЕ ДАКАЖАМ!..»

Вы, мабыць, заўважылі, што пакуль што былі працытаваны толькі «жаночыя» разважанні. Ад прадстаўнікоў моцнага полу прыйшло значна меней лістоў, чым ад дзяўчат. Ёсць некалькі прызнанняў у каханні да вядомых спявачак, але, мяркуючы па ўсім, ніхто з гэтых хлопцаў ніколі не закідваў рэдакцыі просьбамі даць адрас ці выслаць фотакартку «дамы сэрца», каханне іхняе — хутчэй «каханне ў сабе», падобнае на пакланенне Дасканаласці. Аднак, вернем-

(гл. «Крыніцу» № 6, 1989 г.)

ся «на кругі своя»...

Большасць аўтараў узяліся за пяро з прычыны закранутага мужчынскага самалюбства. Асудзіўшы «крымінальныя прыёмы» (Косця М., г. Гомель) шантажыстак, яны дружна засярodзіліся на першапрычыне «вар'яцтва» цудоўнага полу, а іменна: на ўсеагульным захапленні «зоркамі», альбо, як напісаў Мікалай Чорны з Брэсцкай вобл., «дзіцячай зоркавай хваробай».

«Усе гэтыя пагрозы не трэба прымаць усур'ёз, нічога яны сабе не зробяць (гэта я пра шантажыстак). Трэба растлумачыць гэтым дзяўчатам, што гэта перш за ўсё зневажае іхнюю асабістую годнасць... А зараз я звяртаюся да мужчынскае палавіны: мужыкі, давайце дакажам цудоўнаму полу, што вакол нашых дарагіх і адзіных заўсёды знойдуцца свае Кузьміны, Сяровы, Харацьяны...» Аляксандр С., г. Магілёў.

«У народзе кажуць: лепей сініца ў руцэ, чым журавель у небе». Многія дзяўчаты ў пагоне за «жураўлямі», гэта значыць, за «зоркамі», не бачаць тых, хто побач з імі. Я думаю, гэта таму, што жанчына заўсёды жыве адлюстраваным святлом. Растлумачу сваю думку: ва ўсе часы слабы пол бачыў сваё прызначэнне ў належнасці сільнаму, у прысвячэнні яму свайго жыцця. Не сакрэт, як жанчыны не любяць няўдачнікаў, бо нікому не хочацца ахвяраваць сабою дарэмна. Такім чынам, каб заваяваць жаночае сэрца, мужчына павінен імкнуцца стаць «жураўлём». А мы ж усе больш «сініцы»... Так што давайце паглядзім на сябе крытычна: ці заслугоўваем мы таго, каб нам прысвячалі жыццё?» Ігар С., г. Гродна.

## СПРОБА АБ'ЕКТЫЎНАГА РЭЗЮМЕ

Колькі б ні гаварылі мудрыя людзі, колькі б ні паўтаралі: «Не ствары сабе куміра!» — ва ўсе часы ледзь не кожны з жыхароў Зямлі стварае сабе гэтага самага куміра. Хоць бы раз у жыцці.

Усе закаханыя — куміратворцы, незалежна ад таго, ці варты іхні ідал пакланення. Кахаюць не толькі ідэальных — кахаюць і непрыгожых, і нямоглых, і нават злачынцаў. Таму што сэрца адмаўляецца вылічваць суадноснасць годнасці і заганаў у таго, кім яно «захварэла».

А калі ўжо сэрца выбрала з тысячы адзінага, яно абавязкова знойдзе ў ім нешта незвычайнае, часта нават непадуладнае тлумачэнню. Паспрабуйце сфармуляваць, за што мы кахаем,— наўрад ці знойдуцца патрэбныя словы. Але кахаем — і завіток каля вуха можа выклікаць слёзы замілавання, радзімка на руцэ здасца вяршыняй дасканаласці, паварот галавы прымусіць усё ўсярэдзіне пахаладзець... А гэта ж усяго толькі: завіток, радзімка, паварот галавы. Напэўна, звычайныя. Але — богападобныя, бо адухоўленыя нашым каханнем. Кожны каханы — кумір. Так было заўжды. І так будзе заўсёды, пакуль жыве чалавецтва.

Але гэта — пра пераўтварэнне КАХАНАГА ў прадмет пакланення. Гэта значыць, спачатку каханне, затым абагаўленне. А тэма ж у нас іншая: улюбёнасць у загадзя выбранае божаства.

Як бы мы ні ставіліся да ўлюбёнасці дзяўчынак у «зорак», як бы ні заклікалі іх абдумацца і азірнуцца вакол,— дзяўчынкі будуць закахоўвацца і закахоўвацца. Тут ужо нічога не зробіш. І няхай сабе такое каханне не вечнае, няхай яно было толькі прэлюдыяй да будучага «зямнога» пачуцця. Дзякуй, калі яно нараджала «души прекрасные порывы», выклікала жаданне «дацягнуцца да вышыні», імкненне стаць вартай свайго куміра. Галоўнае, каб гэтае каханне не правакавала на непрыстойныя ўчынкі. Усё павінна быць прыгожым! Але, могуць мне запярэчыць, усё ў свеце адносна і хто можа з поўнай пераканаўчасцю сказаць, што менавіта ён ведае, што такое прыгожа-непрыгожа... Адважуся даць параду: часцей прыслухоўвайцеся да сябе, да сваёй рэакцыі на тое, што адбываецца з вамі. Прыгожае тое, што нас узвышае. А ўзвышае нас тое, што прыгожа. Не зневажайце сябе непрыгожасцю — ці то ў пачуццях, ці ва ўчынках, ці ў адносінах. Нават у дробязях... «Усё павінна быць прыгожа!» — няхай гэта стане вашай замоваю, і тады не прыйдзецца саромецца пражытага.

## ВЫМУШАНЫ ДАДАТАК

У рэдакцыйнай пошце ёсць мноства пасланняў, аўтары якіх зразумелі запрашэнне да размовы, мякка кажучы, вельмі своеасабліва... Я нават занепакоілася, ці не сказала я ў былым артыкуле нешта такое, што натхніла юных чытачак папоўніць і без таго шматлікія шэрагі шантажыстак. Уважліва і нават прыдзірліва перачытала напісанае мною тады — не, сказана толькі тое, што сказана, і нічога болей. Ніякага намёку на тое, што «Крыніца» нібыта распасылае па гарадах і вёсках адрасы і фотакарткі ўсіх без выключэння «зорак». Ніякага намёку на запрашэнне шантажыраваць рэдакцыю. Ніякага намёку на маё ўласнае захапленне шантажом. Карацей, абсалютна ніякіх двухсэнсавых намёкаў я не знайшла. На ўсялякі выпадак прагледзела старонкі часопіса на свята — а раптам у друкарні ўмудрыліся нешта надрукаваць паміж радкоў, які-небудзь зашыфраваны заклік да масавага псіхозу. Не, друкарня ініцыятывы не праявіла. Так што нашыя нястомныя карэспандэнткі ўчынілі аблогу рэдакцыі па сваім асабістым жаданні.

А лісты — вось яны, пухнаценькія, цяжэнькія, падобненькія адзін на аднаго. Са зваротнымі адрасамі, з сапраўднымі імёнамі, з фотакарткамі дзяўчынак — прывабненькіх і не вельмі. Бедны, бедны Юра Шатуноў (абсалютная большасць ваяўнічых дзяўчат патрабуюць пераслаць лісты і фотакарткі менавіта яму), нават каб мелькам глянуць на кожны з гэтых фанатычных тварыкаў, яму давялося б не спаць, не есці, не спяваць... некалькі дзён. Не кажучы ўжо пра тое, каб прачытаць пасланні і адказаць хаця б на некаторыя.

Амаль кожнае прызнанне ў вар'яцкай закаханасці ў Ю. Ш. суправаджаецца гэткім самым вар'яцкім ультыматумам да рэдакцыі: так і ведайце, калі не выканаеце таго, аб чым прашу, дык... Не, вы толькі паспрабуйце ўявіць: калі НЕ..., дык тысячы і тысячы прыгожанькіх трупаў будуць ляжаць па ўсёй тэрыторыі Беларусі, а гэтаксама за яе межамі. Ну проста вялікае выміранне надыдзе, і ўсё тут. Ці не праўда, уражвае? Міжволі ўспамінаюцца выразныя азначэнні нашых чытачоў наконт асабістых якасцей гэтых актыўных істот...

Многія юныя шантажысткі нават не абцяжарвалі сябе тым, каб скласці асабістыя лісты: проста перапісалі ўжо надрукаваныя, падпісаўшы сваімі імёнамі (дзяўчаткі, даводжу да ведама і для агульнага развіцця: прысвойванне чужых тэкстаў называецца плагіятам і, дарэчы, крымінальна караецца).

Каб ізноў аматаркі бачыць жаданае ў сапраўдным не стараліся прачытаць нешта паміж радкоў, я павінна зрабіць чатыры недвухсэнсавыя заявы, суправодзячы іх дзеля большай пераканаўчасці клічнікамі:

— адрасы, нумары тэлефонаў і фотакарткі знакамітасцей рэдакцыя НЕ высылае!

— сустрэцца з кумірамі НЕ дапамагае!

— рассыланнем лістоў, фотакартак, бандэроляў і інш. па адрасах «зорак» НЕ займаецца!

— на пагрозы і шантаж з боку «фанатак» (і не толькі іх) НЕ рэагуе!

Прабачце ўжо...

**P. S. Колькі слоў спецыяльна для «фанатак». Спадзяюся, што адмоўная часціца «НЕ» не будзе ўспрымацца вамі як зацвярджальная і дарующая надзею. Адпаведна здароваму сэнсу, усё павінна чытацца менавіта так, як напісана: «НЕ высылае... НЕ дапамагае... НЕ займаецца... НЕ рэагуе!». Ну, а калі і цяпер нехта з вас паспрабуе зразумець па-іншаму,— усё-ткі засумнявайцеся ў сваіх высновах і будзьце ра-зум-ны-я. Вось так.**





Васіль САРЫЧАЎ

# Каралеўскае паляванне

*«Красота страшна...»*

А. БЛОК



**Яна не спала, зноў і зноў пракручвала нязвязныя абрыўкі гэтага цудоўнага вечара. Калі толькі і думала: не стаць пасмешышчам. Так і выходзіла на сцэну — бледная, з заплаканымі вачамі. І таму яшчэ больш мілая.**

**Не, гэта не сон, вось карона. Паблісквае бурштынам. Калі яе, студэнтку педінстытута, Святлану Луканаву абвясцілі першай, перахапіла дыханне. Няўжо і праўда яна!**

**Чатыры месяцы — нават успамінаць не хочацца — харэаграфія, макіяж, складанне кампазіцый на тры туры. Прагоны. Дамоў валаклася змардаваная.**

**Горад спаў...**

**І ўсё-такі, якое шчасце, што ўсё ўдалося. Глядач прыняў. І яе Джульету. І дзяўчынку-падлетка ў фотаконкурсе. І жрыцу ў «Грацыі». Гэта не вобразы, гэта яна, Света, у жыцці. Розная.**

**Авацыя залы. Кветкі. Рой фатографаў. Абмарачэнне фаварыткі, якая два туры брала прыз глядацкіх сімпатый,— сяброўкі, з якой шэсць гадоў сядзела за адной партай — няўжо былой!! Позіркі, што паляць нянавісцю.**

**За што!**

**— Уставай, міска, ужо дзень на двары! — гэта мама.**

**Зараз напракудзіць дзевяцігадовы брацік. Потым прыйдзе віншаваць дзед, ад якога ўдзел у конкурсе спачатку ўтойвалі.**

**Ур-ра, анічагусенькі не змянілася!**

**Каб жа не спазніцца на дэманстрацыю мадэляў вопраткі. Света — пазаштатная манекеншчыца фабрыкі індпашыву. Падыдзе да дзяўчат — учарашніх саперніц, зварушыць чым-небудзь.**

**Уляцеўшы ў прымерачную, яна натыкнулася на лёд. Вачэй, слоў. Паслужлівае паведамленне пра фразу: «Чым быць пасля яе, лепей бы наогул не ўваходзіць у тройку». Арганізаванае шушуканне ў час паказу:**

**— Ну, паглядзіце, хіба гэтая можа быць міс!**

**Дзяўчат шкада, нават такіх, узлаваных — стараліся не меней. Яна прывыкла шкадаваць. Толькі крыўдна. Пасля правалу ў другім туры да фіналу рыхталіся як выклятыя — марылі падарыць людзям свята. Умовіліся адна адну падтрымліваць — хоць бы не змазаць агульную працу. Цяпер усё забыта.**

**А ўвечары было прысвечанае юбілею Брэста пышнае, з Міхаілам Баярскім, прадстаўленне на стадыёне. Першы з трох канцэртаў. У сцэнарый кожнага заклалі вітанне новай міс прыгажосці — круг стоячы ў даўнім адкрытым аўтамабілі. Проста як камандуючы на парадзе. Адмовіцца не магла.**

**Заезду чакала каля запаснага выхаду. Прамяніста прыгожая. Людзі праходзілі міма і лапалі вачыма — хто крадком, хто бесцырымонна. Але не з захапленнем. Мы не любім тых, хто высунуўся, дасягнуў поспеху, нават цаною вялікае працы. Мы не ўмеем захапляцца жаночай прыгажосцю — бо сорамна, брыдка. Прасцей скрывіць грымасу — і тады ты, як усе.**





**Чародка дзяўчатак-шчабятух падбегла да збянтэжанай Светы па аўтографы. Ім яна ка-ра-ле-ва. Першая красуня. Яны яшчэ не канкурэнткі. Яны яшчэ не ведаюць, што светам кіруе зайздрасць. Асабліва страшная разам з бескультур'ем.**

**Дэманстратыўна-пагардлівыя позіркі прыгажунь дыскатэчнага ўзросту: фі, у каго аўтографы бераце! Крывыя ўсмешкі ўчарашніх пацаноў. Асуда ў цётак: прыстойная не пайшла б. Божа, якія мы!**

**Апошні, трэці «круг гонару». Плаўная хада аўтамабіля. Мілая ўсмешка запоўненым трыбунам. А адтуль... свіст. Нейкі рызыкант — вядома, з натоўпу сяброў — выказаў свае адносіны да лялькі. Сцвердзіў сябе.**

**Статкавае пачуццё спрацавала — свіст падхапілі ў іншых сектарах. А яна мусіла ўсміхацца. Махаць кветкамі. І плакаць душою: за што!**

**Упершыню паглядзеўшы конкурс прыгажосці цалкам і жыўцом, я падумаў: як гэта здорава! Як падзея, што вырвала са спячкі горад. Як доказ жанчынам: прыгажосць не дар божы, толькі не трэба ленавацца. Як пстрычка мужчынам, якія перасталі ўцягваць жывот.**

**Я падумаў, як цудоўна, што перамагла менавіта гэтая дзяўчынка. Пяшчотная, усмешлівая, шчырая з усімі. З вераю ў дабро.**

**Але прайшло ўсяго два дні, а карона ўжо не радуе. І я думаю, як страшна, што конкурс выйграла менавіта яна. Шчырая. І далікатная.**

**Конкурсы прыгажосці — гэта, вядома, здорава. Вось толькі ці дараслі мы ды іх!**

